## Ад аўтара

Пасля таго, як беларусы з братняю Русьсю пачалі разам шукаць да шчасця дарог 124 абарыгены толькі з майго радаводу рассталіся з родным кутом. З 254-х родзічаў 84 уцяклі ў Польшчу, 19 апынуліся ў ГУЛАГах (пасля смерці Сталіна рэабілітаваны), 11 загінулі: тры ад рук немцаў, два пасля допытаў у КДБ і шэсць бясследна зніклі падчас дэпартацый.

Сутнасць нацыянальнай мары «*Litwo, ojczyzna moja, ty jesteš jak zdowie*» для тутэйшага чалавека на былых Крэсах атаясамлівалася са шляхетнасцю, дабрабытам і надзеяй на заможную прышласць, а «Мой родны кут, як ты мне мілы!..» з мілага ператварыўся ў пекла.

Фатаграфіі «абяздоленых і прыгнечаных батракоў» на старонках кнігі, зробленыя ў часе міжваеннай Польшчы, як альтэрнатыўнае сведчанне аб «панскім прыгнёце», мякка кажучы, не зусім адпавядае вобразам літаратурных персанажаў нашых паважаных класікаў Беларушчыны.

На вялікі жаль, ідэнтыфікацыя нацыянальнай прыналежнасці адных і тых жа людзей з адной і той жа краіны па веравызнанні не дазваляе атоесніць у нацыянальным кантэксце два роднасныя паняцці ў адно цэлае. Самае шчырае, душэўнае, роднае, таямнічае мае каталіцкія і праваслаўныя родзічы абмяркоўвалі паміж сабой заўсёды на простай мове. Польскай можна было пахваліцца на вяселлі з чаркай за маладых, перад гасцямі з Польшчы, каб паказаць сваю выкшталцонасць і шляхетнасць.

Мая мама (1911–1998) вывучала гісторыю ВКЛ у польскай гімназіі і ў размовах тэт-а-тэт яшчэ пры саветах заўсёды падкрэслівала, што па веравызнанні мы вуніяцкія ліцвіны, а раздзялілі нас па веры і скасавалі нашае нацыянальнае ліцвінскае найменне бальшавікі, каб паказаць нашую кроўную сувязь з Расіяй. І яны зняважліва адносяцца да нашых рэлігійных рытуалаў, бытавых традыцый і, асабліва, іх насцярожвае наша мова.

Дарэчы, у часы брэжнеўскага застою ў медыцынскім асяроддзі Першай гарадской бальніцы Гародні, дзе я працаваў доктарам, беларуская мова ўспрымалася, як тутэйшая эмацыянальная каларытнасць. У нас адзін доктар з абоймы кіруючага звяна на ўрачыстых сходах, прысвечаных першамайскім і кастрычніцкім святкаванням, заўсёды свае спічы ў гонар шматардэнаноснага генсека імпэтна і досціпна аздабляў па-беларуску. На гарадскую

дошку гонару ён не трапіў, але яго выслоўі эскулапы парасцягвалі на цытаты.

Сітуацыя кардынальна памянялася, калі ў садках і школах выраслі два пакаленні чыста рускіх тубыльцаў, якім з цягам часу СМІ і телебачанне зрабілі прышчэпку: беларус – гэта той жа рускі, але ў Беларусі ён нават крышачку больш рускі, чым у Расіі.

Пакаленне маіх бацькоў ужо ў лепшым свеце, туды ж накіроўваецца і маё, і сёння ў Гародні толькі ў грамадскім транспарце адзін чалавек размаляе па-беларуску, аб'яўляючы па навігатару прыпынкі.

# Плябанішкі

Першае знаёмства з абліччам гэтага свету ў мяне адбылося ў вёсцы Плябанішкі (каля Гожы), ад якой сёння засталося толькі найменне. Уздоўж вёскі, што расцягнулася на два кіламетры, тры штучныя вадаспады з пералівістымі жаўруковымі званочкамі. У люстэрку зарыбленых стаўкоў аернае неба з прысадзістымі дубамі і стройнымі, як плябанішскія дзяўчаты, бярозкамі. Вакол меданосныя лугі, дзялянкі бярозавага і хвойнага лесу, а паміж імі – ворная зямля з сінявокімі кветкамі ў жыце, і з роўнымі радамі акучанай бульбы. Праз усю вёску ўздоўж дарогі – галінастыя ліпы, клёны і кашлатыя елкі. Паблукаўшы па свеце, анідзе я не бачыў такога хараства – маляўнічы куточак Прынёмання, на ўлонні крынічных вытокаў безназоўнай рачулкі, багатай стронгаю, шчупакамі, платвой, падлешчыкамі і нават вуграмі. Пасля вайны на яе беразе запрацавала смалакурня. Сыравіны хапала – спляжаныя лясы, засталося многа хвойных пнёў. Гадоў 10 кіпела работа. Адкіды зліваліся ў рэчку. І гэтага хапіла, каб загубіць жыццё. Сёння – гэта стэрыльная рачулка, на яе водную паверхню не сядае нават вадзяны павук.



*Здымак зроблены ў Гродне ў 1943 годзе.*

Пякнейшым месцам, у параўнанні з Плябанішкамі, была толькі вёска Азяркі (каля Гожы) – азёрны край у атачэнні дубоў, ліп, бяроз і чырвонага лесу, якую ў шасцідзесятых гадах мінулага стагоддзя высялілі. Цяпер там вучэбны ваенны палігон. Калі высеклі лес, азёры высахлі. Вакол жоўты пясок і рэдкія, прагныя да жыцця сасонкі, а ў нізінах дрыжачыя асінкі.

Немцаў бачыў толькі аднойчы: у вёску заблукаў нямецкі танк, на якім сядзелі такія ж мужыкі, як і вясковыя дзядзькі, толькі ў форме. І яшчэ помню нямецкую «раму» – самалёт, які праляцеў, калі сцямнела над нашай ямай, куды мы хадзілі нанач спаць, пасля таго, як каля вёскі

забілі кіраўніка Гожскай гміны – кульгавага немца, які быў не толькі негаваркім кіраўніком, але яшчэ і змагаром за здаровы лад жыцця. Аднаго разу, падчас візіту ў вёску, убачыў, што мужыкі на памінках п'юць нейкую смярдзюча-мутнаватую з градусамі вадкасць, то за гэты негатункові напой кожнаму ўдзельніку застолля пры выхадзе праз дзверы паставіў фірменны знак ад непадробнай бошаўскай гумовай палкі. Запомніўся ён і яшчэ адной нестатутнай разборкай, калі па яго загаду вывозілі лес на Гожскі тартак. Бацька спазніўся. Спрытнейшыя паразбіралі верхавіны, а бацьку нічога не заставалася, як закаціць на сані камель. На брычцы даганяе немец:

– Ты што заўсёды так возіш?

– Так, так, заўсёды, – адказаў бацька.

– І сам закаціў на сані? – у здзіўленні задае яшчэ адно пытанне.

– Сам, – у недаўменні адказаў бацька. Пахваліў і паехаў паглядзець, што вязуць першыя. Цераз аднаго пачаставаў гумай і пагнаў на дазагрузку. Бацька на тартак прыехаў першым.

Чым спадабаўся бацька гаспадару Гожскай гміны на акупацыйнай тэрыторыі можна толькі здагадвацца, але пасля той разборкі ён прыехаў паглядзець яго гаспадарку. Здзівіць чалавека з гаспадарчым вокам на генным узроўні манежам, жняяркай, малацілкай, бульбакапалкай, авечкамі, прыгожым канём і каровай, якая давала дваццаць літраў малака, было немагчыма. У іншых гаспадароў – не горш. Але менавіта для бацькі ён выпісаў квіток на атрыманне чыстапароднага кныра і на лесаматэрыялы для адбудовы пашкоджанай пажарам хаты ў 1938 годзе. Перспектыва займацца свінагадоўляй, каб карміць войска Гітлера, бацьку не радавала. І невядома, чым бы ўсё гэта скончылася, каб яго не адправілі ў другое вымярэнне дужыя, маладыя хлопцы з радысткай, закінутыя ў Плябанішкі для барацьбы з фашыстамі. Пасля забойства вяскоўцы зразумелі, што дамоклаў меч – гэта не антычная выдумка.

Адзінае, што засвоіў бацька з нямецкай навукі – удасканаліў вытворчасць вогненнай вады па іхняму рэцэпту: чыстая, крыштальная, без сівушнага масла і метылавага спірту, з водарам хлеба і за сорак градусаў, якая асабліва падабалася кіраўнікам мясцовай улады першых і другіх саветаў. Яго вялікасць градус – не апошні фактар, калі ставілася пытанне, што рабіць з непрагрэсіўнымі элементамі савецкага грамадства, дзе сацыяльнае паходжанне бацькоў было ў першай чарзе на дэпартацыю.

# Мама



1938 год, калі яе ўпершыню пацягнула на салёненькае і прычыны такіх смакавых метамарфоз быў я. Шчаслівая, хоць на руках постапёкавыя рубцы – памятка недагарэлай хаты. Яшчэ не пахне вайной. Яшчэ да смутнага часу з «чырвонай калясніцай антыхрыста» на небе адзінаццаць гадоў. На падворку апілаваныя бярвенні. Можа і добра, што не паспелі адбудавацца і перапісаць на сябе бацькоўскі скарб – пяцьдзесят гектараў зямлі.

Жыццё мамы, як канва цудадзейнай казкі: пяшчотна-сонечнае ў ружовых марах дзяцінства, featured рознакаляровае, жыццярадаснае, непаўторнае і чароўнае юнацтва ў Гродзенскай польскай гімназіі. Таямнічае, нечаканае, як вясновае абуджэнне, каханне. І традыцыйна – белы вэлюм. Гаспадынька на ўласнай зямельцы з рэальнай надзеяй на шчасліва-заможную сямейную прышласць.

І жыццё мамы – крыніца болю: пасля прыходу першых саветаў, з больш вядомай тэрміналогіяй, як уз’яднанне Беларусі, з прагным імкненнем заходнікаў – з панскае цемры да лепшай долі; і падчас Вялікай Айчыннай, калі забілі адзіную дачушку; і пасля прыходу другіх саветаў, пад афіцыйным найменнем – вызваленне Беларусі ад нямецкіх захопнікаў, калі ў 1948 годзе ў вёсцы засталіся толькі бабы і дзеці, а там, дзе быў белы вэлюм – сівыя валасы. А ў Гожскім касцёле на вобразе Маткі Боскай паявіліся чырвоныя плямы і з вачэй капалі чырвоныя слёзы. І кожны вечар па небе хадзілі чырвоныя слупы, а ў чырвонай калясніцы сядзеў антыхрыст. Я і сам адночы бачыў, як з вушака хаты ўзняўся ў неба слуп агню ў вобразе Маткі Боскай з немаўлём на руках. І вяскоўцы канчаткова паверылі, што гожскі ксёндз кажа праўду пра канец свету ў адной паасобку ўзятай краіне.

Жыццё мамы – гэта і бясконца доўгае чаканне светлай будучыні. І дачакалася, калі рахунак яе ашчаднай кніжкі (30000 рублёў)

апусціўся да нулявой адзнакі, а чаканне ўвасобілася ў ідэю новай формы матэрыі з адным невядомым пасля нараджэння.

*Ожидание – форма материи,*
*где на ставку поставлена жизнь,*
*для того, чтоб в таком измерении*
*мы на этой земле родились.*

## Бацька



На фатаграфіі першы злева. 1937 г. Яблык ад яблыні далёка не падае, і гэта пацвердзіў мой дзед Юзэф, калі гэты яблык ў свае семдзесят два шпурнуў на ўрадлівую глебу і з яго ў вёсцы Плябанішкі вырас мой бацька. Асілак нерэалізаваных магчымасцяў.

Пра яго геркулесавы подзвігі хадзілі легенды – як падняў камель хвойкі, выпхнуў залезлую па восі ў балота грузавую машыну, як на ровары абганяў прафесійных гоншчыкаў.

На жаль, бацькавыя здольнасці нікому не былі патрэбныя, можа толькі падчас вайны таму немцу з Гожскай гміны, што хацеў зрабіць яго гаспадаром свінафермы, каб карміць нямецкае войска.

Пасля вайны плябанішскіх гаспадароў-аднаасобнікаў пачалі вучыць савецкаму падыходу для выкарыстання прыродных багаццяў зямелькі з найвышэйшым эканамічным поспехам.

Абклалі падаткамі, а з цягам часу, як безнадзейна не здольных падаткаплацельшчыкаў адправілі на далейшую адукацыю да белых мядзведзяў. Бацьку на дваццаць пяць гадоў, а мама з чатырма малымі (старэйшаму дзесяць) засталася ў вёсцы

падымаць на ногі калгас па рацыяналізатарскай тэзе стаханаўца Сізіфа. І чарга тубыльцаў на выпраўленчыя працы значна апярэджвала сямімільныя крокі пабудовы сацыялізму.

Калі закацілася сонейка найвялікшага горца, я (як і ўсе вучні Пальніцкай школы) тры дні хадзіў на жалобныя мітынгі з памінальнымі галашэннямі і, гіпнатычна ўтаропіўшыся на партрэт нябожчыка, шчыра прасіў Бога, каб на ім у пекле чэрці вазілі смалу і каб з таго пекла ніколі не перавялі ў рай. А перад новаспечанымі крамлёўскімі царадворцамі паўстала пытанне: што рабіць з велізарнай арміяй палітычных зэкаў, удосталь накормленых марксісцка-ленінскай навукаю на практыцы. Смелыя, кожны дзень глядзелі ў твар яе Вялікасці Вечнасці, рэжуць праўду-матку. Знойдзецца жа Спартак і адначасова з крахам імперыі паляцяць і іх галовы. Адпусціць гуртам – нельга, трымаць на ланцугу – страшна. Мажліва, абмяркоўваўся і курапацкі варыянт. І прыйшлі да высновы, што трэба ўсё рабіць без гвалту, па плане, як цяпер кажуць, – сістэмна. Каго на пасяленне, каго прытрымаць, а калі адпускаць па месцу жыхарства, то дозава – па аднаму. Бацьку адпусцілі ў 1955 годзе, рэабілітавалі і нават далі пры Шушкевічу 100 у.е. за сямігадовую працу на Варкуцінскіх рудніках. Але гэта быў ужо іншы чалавек. З жалезабетонным імунітэтам да прыватнай уласнасці, і не толькі на зямлю.

Пасля вызвалення была праблема з атрыманнем пашпарта. Была хата, былі соткі і жыхар вёскі. Старшыня Гожскага сельсавета тры месяцы слёзна адбіваўся ад навязлівага «хадака»:

– Пятро, як жа я табе дам пашпарт? У мяне ж інструкцыя. Ты ж заўтра з гэтым пашпартам уцячэш у горад, а хто будзе працаваць у калгасе?

Памог ураган. Паласою пранёсся ад Гожы аж да Друскенік. Выкарчаваў многа лесу, а заадно прыхапіў і дах нашай «панскай сядзібы». Эўрыка! Бацька сабраў талаку і за пару гадзін ад хаты застаўся толькі каркас. Старшыня Гожскага сельсавета нават абрадаваўся:

– Пятро, вось цяпер я маю поўнае права выдаць табе пашпарт.

Нарэшце, доўгачаканая гарадская прапіска. Пайшоў працаваць на Гродзенскі мясакамбінат грузчыкам. І, як сапраўдны савецкі чалавек, зразумеў, што ў новай краіне ўсё вакол калгаснае, усё вакол маё.

Па характару бацька быў флегматыкам, па жыцці – рамантыкам. У мамы доўгі час захоўваўся сшытак з вершаванымі валянцінкамі на польска-беларускай трасянцы ад бацькі падчас яго гулагаўскай вандроўкі па варкуцінскіх рудніках, у якім знаходзіліся і напісаныя лацініцай польскія, рускія, і беларускія вершы з песеннымі матывамі. З цягам часу, калі яе не стала, перагортваючы старонкі сшытка, мяне зацікавіў прысвечаны ёй верш «Litvincy». На жаль, сшытак з эпісталярнай творчасцю бацькоў застаўся толькі ў маёй памяці.

Па сутнасці, мой верш у перакладзе з польскай мовы адпавядае таму прысвячэнню, толькі ў маёй гераіні паявіўся мабільнік, у мамы яго не было, але прывітанняў ад сяброў яе дзявоцтва хапала. Бацька, безумоўна, раўнаваў, па-добраму зайздросціў яе камунікабельнасці, выкшталцонай дэкламацыі вершаў падчас застолля, прыгожаму голасу, калі спявала польскія, рускія, беларускія і нават яўрэйскія песні.

**Ліцвінцы**

*Ты і сённня не такая,*
*як была, прынамсі, учора –*
*летуценіш і лятаеш,*
*па калена тваё мора.*

*І даўно ты не такая.*
*Круглы год? А хто лічыў*
*з варажбой, што Бог чакае*
*сярод Евіных аліў?*

*Ты і будзеш не такая,*
*бо тваё, каб свет здзівіць*
*не банальнасцю на ўскраі,*
*а дасціпнасцю, як бліц.*

*Не такая з Боскай ласкі.*
*Зноў з мабільніка: »Ало!»*
*Ды няўжо маё фіяска?*
*Хоць бы ведаць ад каго.*

*Ты адна і не такая*
*І другой не трэба мне.*
*Летуценіш і лятаеш*
*і танцуеш на стале.*

*Пазайздросціць кажа сэрца.*
*Хто сказаў: «Не падвядзе?»*
*Ты святло майго акенца*
*з гоней шчасця і ў бядзе.*

*Аставайся не такою,*
*Боскі дар не загубі –*
*пуцявіннаю ракою,*
*на скрыжалях для любві.*



*Бацькоўскае гняздо*
*ў вёсцы Плябанішкі*
*(1955 г.)*

Палавіна былой хаты пасля пажару. Пашкоджаную разабралі. З другога канца была кладоўка і сені. Справа зараснікі бэзу, у якіх (1948 г.) я схаваўся, калі позна вяртаўся дамоў і пачуў у хаце аўтаматную страляніну. Як пазней выяснілася, гэта НКУСаўцы шукалі ў кладоўцы бандытаў і рашэцілі кавалак сала. Неўзабаве адзін НКУСавец павёў бацьку на дарогу, а двое затрымаліся на сцежцы каля бэзу і курылі.

– Товарищ капитан, а чего вы не забрали эту суку? – пачуў я голас.

– Ты что совсем озверел? Она же беременная, – адказаў капітан. Відавочна, той капітан не раз глядзеў у вочы Боскай праўдзе – Вечнасці і не раз прыкрываў вочы на вечны сон сваім акопным сябрукам. І гэта я адчуў сёмым дзіцячым пачуццём, якое лепш, чым у дарослых, адрознівае дабро ад зла, калі ён, сплюнуўшы, сказаў:

– Хватит, пошли.

Але паўторнага хрышчэння я не пазбегнуў. Яны пакрапілі мяне цёплай, саланаватай вадкасцю і па ўсіх канонах хрышчэння пасыпалі галаву попелам з яшчэ гарачых цыгарак. Праўда, на такія дробязі падчас канцу свету ў плябанішскім вымярэнні я не звярнуў увагі.

У 1949 годзе, калі працаздольную частку вёскі рассунулі па ГУЛАГах, у вярхах заўважылі, што план па напаўненні дзяржаўнай скарбонкі хлебам, мясам, яйкамі, шэрсцю не выконваецца.

Нестыкоўка, такога не магло быць. Відавочна, што ў раённым фінансавым аддзеле не ведалі аб праведзеных зачыстках, а НКУСаўцам іх галаўны боль быў да лямпачкі. Яны свой план выканалі – і па загаду, і пад уласным ціскам на стоадсодкавы градус па Цэльсію. Калі кладоўку калгасніка можна было напоўніць працаднямі-палачкамі, то з папаўненнем дзяржаўнай такі фокус не праходзіў. Ціск на падаткаплацельшчыкаў узмацніўся. Мама павесіла на дзверы замок, які не здымаўся ні днём, ні ноччу, а ў хату мы лазілі праз лаз сабачай буды, якая ўпрытык стаяла каля сяней. І памагаў нам сабака Бурусь – першым падымаў алярм аб набліжэнні да вёскі хапуноў прадразвёрсткі. У яго двойчы стралялі. Быў ранены. У 1956 годзе мы пераехалі ў Гродна на вуліцу Красная, дом № 4 (пасаг мамы). Забралі і Буруся, але новае жытло ён сваім домам не прызнаў – уцёк (25 км) у Плябанішкі. І колькі разоў мы яго адтуль ні забіралі, ён заўсёды вяртаўся назад.

## Беларуская сямігодка

Школьныя гады. Ніколі я (у цэнтры першага раду) не еў, як тады, такой смачнай бульбачкі з салёнымі агурочкамі і баравікамі. І дабра гэтага хапала, не так як сёння. Насілі кошыкамі, сушылі, салілі і марынавалі. А якое было смачнае варэнне з чарніц! І ўсё натуральнае, без сучасных харчовых дабавак. І я не скардзіўся на «Вялікі пост», які па фанатычный волі «бацькі народаў» доўжыўся цэлых сем гадоў, бо думаў, што так і трэба. Часам і грашыў, калі на Каляды ў час нерасту стронгі (пасля знікала да наступнага года) пападалася гэтая царская рыбка, і калі даставаў з пятлі яшчэ

цёплага зайца. Дзень ад ночы я адрозніваў па адзінай прыкмеце: калі святло дазваляла разгледзець у кожным равесніку брата, а ў цёцях і дзядзях – маму і тату.



*Школа (былая «панская» хата) у вёсцы Пальніца. Гродзенскі раён, Гожскі сельскі савет. 1950 г.*

Я ў нечым быў падобны на нашага сабаку Буруся, які ніколі не скардзіўся на холад і голад, бо думаў, што так і трэба. Але аднойчы на Сёмуху мама выправіла мяне з Вацлавам і Зянонам (браты) на пікнік. А сама засталася ў хаце з гадавалым Антонам. На беразе безназоўнай рачулкі, дзе вадзілася стронга, распалілі касцёр і падсмажылі на патэльні з кавалачкамі сала (адкуль яго ўзяла мама – аднаму Богу вядома) бульбачку, а зверху яшчэ тры курыныя яйкі. Мама зрабіла вялікую памылку, бо з той пары жыццё маё кардынальна памянялася.  Калі я заставаўся ў хаце за галоўнага, а гэта было вельмі часта, Вацлаў даставаў мяне сваёй вар'яцкаю просьбай:

– Падсмаж бульбу.

– На чым? – пытаў я, – а ён, як дзяцел , дзяўбе адно і тое ж:

– На патэльні.

І як я не стараўся яму вытлумачыць, што сала таго даўно няма, да яго гэта аніяк не даходзіла. Смачная яда – самы спакусны

наркотык. Але гэта я зразумеў ужо пасля таго, як у 55 год нажыў склероз каранарных сасудаў з расшыраным інфарктам і мне прыйшлося ўспомніць гаючую ежу майго дзяцінста, ад якой не адмаўляюся ўжо дваццаь гадоў, толькі без фатальнага тагачаснага фанатызму.

З маіх школьных прыгод мне запомніўся толькі адзін настаўнік, які вёў гісторыю. Сам ён гісторыю выкладаў нудна, нецікава і фармальна, але псіхолаг быў ад Бога. Неяк падымае мяне і кажа: «Курыловіч, ты заўтра будзеш весці за мяне ўрок, ідзі рыхтуйся». За ноч пералапаціў увесь падручнік. Перад люстэркам задаю прыгатаваныя пытанні і сам на іх адказваю, а на наступны дзень падымаю ўсіх і з садысцкім задавальненнем стаўлю двойкі. Ход дасканалы, бо на чарговым уроку ўжо двоечнік лінчаваў мяне, і неўзабаве ўсе вучні па гісторыі атрымлівалі толькі пяцёркі. Прышчэпка засталася на ўсё жыццё. «Гістарычная памяць – самая непадуладная субстанцыя, нават часу», але, на вялікі жаль, наш знакаміты пінчук Рышард Капусцінскі памыліўся. Няма яе ў нашых людзей і, пэўна, таму, што ў школах не было і няма такога «настаўніка», якім быў я.

У Гродзенскай сярэдняй школе № 4, куды мяне адправіла мама пасля Пальніцкай беларускай сямігодкі ў восьмы клас (з двума малодшымі сынамі жыла ў Плябанішках), гродзенскія хлопцы ўжо размаўлялі на «чыстай рускай», і за мой пальніцкі моўны каларыт узнагародзілі мяне абразлівай мянушкай: хамук. Хамуком мне быць не хацелася, пад канец трэцяй чвэрці вучэбнага года «паліняў» і ўжо нічым не адрозніваўся ад сапраўдных рускіх. Рэгулярна, з такімі ж бязбацькавічамі пачаў «вагарыць» (прагульваць урокі). Вагарыць, асабліва па беларускай мове, было верхам круцізны. У нас была нават гульня: правучыць нярускіх. Падсылаем самага маленькага вучня да мясцовага жыхара, які размаўляе на хамскай мове.

– Дядя, дай закурить.

– Я табе дам, паршывец, малако яшчэ не абсохла…

Малы, бац нагой для дзядзькі, а той яго за шыварат:

– Я табе пакажу, паршывец…

І тут мы, як саранча, выскакваем з засады, і з крыкамі:

– Ах ты, сволочь, руского человека обижаешь? Бей его, гада!

Крыўдзіцель «пакрыўджанага» – дай Бог ногі... На ваяўнічую помсту з бомбамі і ракетамі (па сучасных мерках) нават з рукапрыкладствам у нас ці то духу не хапала, ці не знайшлося

важака. Помніцца, як адзін такі «крыўдзіцель рускага чалавека» уцёк у сваю качагарку, якая знаходзілася ў сутарэнным памяшкані, і зачыніў дзверы знутры на завалу. Мы завалілі дзверы вугалем, а яшчэ і невялічкае акенца для святла і паветра.

Пасля той «рускамоўнай адукацыі» нярускага качагара я і двое маіх аднадумцаў ад прагульшчыкаў адкалоліся. З нашай тройкай часцяком былі мардабойныя разборкі, але пасля таго, як мой аднадумнік «няўзнак» адхінуў крысо салдацкага шыняля (у мяне быў такі ж самы) пад якім была сапраўдная фінка, ваюючыя бакі прыйшлі да кансэнсуснай мірнай дамовы. Калі засталіся сам-насам я яго запытаў: «Ты што здурнеў?» «А з рускімі нельга інакш», – зацята адказаў ён. Яго перакананні разбудзілі мае навязлівыя крыўдныя думкі. Гэта была мая першая прышчэпка – ад страху, якая зрабіла мяне зусім другім чалавекам. І калі аднаго разу важак кодлы «стопрацэнтных рускіх хлопцаў» мне гукнуў: «Хамук, иди сюда». Я падышоў, і не ведаю адкуль у мяне паявілася сіла і рашучасць – праз імгненне ён ляжаў на зямлі з акрываўленым носам.

Чацвёртую чвэрць восьмага класа я закончыў у вячэрняй школе, маючы ўласныя грошы, як падсобны рабочы ў аўтарамонтнай майстэрні, а праз пяць гадоў сядзеў побач з хлопцам, якому ў восьмым класе расквасіў нос, на ўступных экзаменах па рускай мове ў Гродзенскі медыцынскі інстытут. У яго сачыненні я знайшоў пяць памылак, ён у маім – тры. З цягам часу мы разам хадзілі да дзяўчат і на студэнцкіх вечарынках ён шчыра ўдакладняў сябрам: «Мечыслаў, сапраўдны мужык. Такі не падвядзе і не прамахнецца».

Не ведаю хто ў каго падглядзеў нашую гульню: ці то мы ў сённяшніх палітыкаў, ці яны ў нас?

Бедныя рускія, дзе іх толькі не крыўдзяць – і ў Эстоніі, і на Каўказе, і ва Украіне…

Часта думаю пра найменне нашай нацыянальнасці. Нешта непаўнавартаснае, як буслянка без бусліка. Не хапае маналітнасці, бо ўжо ў самом словазлучэнні закладзена спрэчная тэза: ушанаванне прыналежнасці да праваслаўя, якімі ніколі не былі каталікі. А ў заходнікаў пяцьдзесят на пяцьдзесят і тых, і другіх.

Да сённяшняга дня бытуе думка, што беларусаў апалячваў каталіцкі касцёл і польскі пан. Не думаю, што традыцыйныя ў нядзельку пятнацаціхвілінныя евангельскія пропаведзі на польскай мове мелі рашаючае значэнне ў гэтай справе. Не ведаю

як апалячваў беларусаў польскі пан на былых Крэсах, але ў Плябанішках такім панам была мая мама.

Пасля вайны ў маіх бацькоў  аднаасобнікаў было два гектары зямлі і прэтэндаваць на тытул польскага пана з пяцідзесяці гектарамі, паказваючы саветам купчу на гэтую зямлю, мог толькі дурань.

З вяскоўцамі мама размаўляла на такой жа самай трасянцы, як і яны, з маёй настаўніцай у Пальніцкай школе – па-руску, а ў касцёле малілася і спавядалася на польскай. Але чамусьці ўсе яе называлі пані Гэленай. Жанчыны стараліся адзявацца так, як і яна і мець такую самую прычоску. Здаецца, такая дробязь, як паводзіны за сталом, уменне карыстацца нажом і відэльцам, ветліва сказаць  суседу пане Валюсь,  для каляжанкі – пані Марыся, а на вяселлях, ці на хрэсбінах, дзе людзі размаўлялі паміж сабой па-просту, выгукнуць тост на чыстай без акценту польскай мове… Гэта было прыкметай шляхетнасці, адукаванасці, а па вялікаму рахунку – культурай. Мая мама і не здагадвалася, што прышчэпленая ёй культура ў польскай гімназіі не на карысць беларушчыне.

Мяркую, што не польскі пан і не каталіцкі касцёл зрабілі беларусаў палякамі. Рэч  Паспалітая хоць і была пад  царскай пятою, але з нейкімі прывілеямі для палякаў у параўнанні з жыхарамі Беларусі, і не віна людзей, што мянялі сваю нацыянальную прыналежнасць, каб вырвацца з вярыжных абдымкаў усходняга суседа. Тое ж самае было і пры савецкай уладзе, калі праводзіліся рэпрэсіі. Чалавек з пашпартам паляка меў хоць нейкую магчымасць  пакінуць гулагаўскае пекла ці ўцячы ад дэпартацыі ў Польшчу, ці падчас застою паехаць туды па запрашэнні  радні і купіць чэхаславацкія  жаночыя туфлі.

Цяпер у Гародні ёсць два Саюзы палякаў на Беларусі. У афіцыйным вядуцца размовы такія ж самыя, як і ў большасці чальцоў на апошнім сейме Рэчы Паспалітай у 1794 годзе: палякі павінны жыць у вечнай дружбе з брацкай Расіяй. Апазіцыйны прытрымліваецца ідэй Тадэвуша Касцюшкі і Кастуся Каліноўскага – каб жыць у вольнай краіне  і не пасылаць сваіх дзетак на бойню за амбіцыі імперскіх важакоў.

Калі гаворка ідзе пра русіфікацыю, то я заўсёды ўспамінаю размову з маім дзедам, як аднаго разу пасля чаркі, ідучы з сябруком па цэнтральнай вуліцы Гродна, ён пачаў спяваць: «Ешчэ Польска не згінэла, поконт мы жыемы, ешчэ вудка не скваснела, поконт мы піемы». Сябрук, абярнуўшыся, ўбачыў ззаду двух царскіх жандараў. Штурхнуў дзеда ў бок. Дзед адразу скумекаў у чым справа і заспяваў

яшчэ мацней, неаднаразова паўтараючы толькі адно слова «ешчэ, е-ешчэ, е-е-ешчэ». Дуэль зацягнулася. Жандары, зразумеўшы, што іх водзяць за нос, загадалі замаўчаць. Перапісалі пашпартныя звесткі і адпусцілі дахаты.

– Дзеду, – пытаюся я, – а што было б, калі б вы пра гэтую незагінуўшую яшчэ Польшчу даспявалі да канца?

– Маглі б даць штраф, а хутчэй за ўсё адправілі служыць у царскае войска.

Складваецца такое ўражанне, што на беларусаў праводзілася і да сённяшняга дня праводзіцца паляванне – і з заходнім пернікам, і з усходняю пугаю. Страшна нават падумаць, што нашчадкі некалі магутнай дзяржавы, сёння – гэта выміраючая нацыя, дзе толькі некалькі соцень, дай Бог тысяч, апантаных самасвядомасцю людзей яшчэ змагаюцца за выжыванне, астатнім Беларусь не патрэбная. Калі чытаю надмагільныя надпісы на кладах Гародні і Гродзенскага раёна, то ў мяне складваецца ўражанне, што ў нас няма аніводнага беларуса. Ёсць толькі палякі і рускія. І сёння зрабіць надмагільны надпіс нябошчыку на яго матчынай мове – гэта ўсё роўна як станцаваць польку на яго пахаванні.

## Капітан



Галоўная рабочая сіла і надзея на выжыванне ў вёсцы Плябанішкі ў 1950 годзе.

Так бліскуча закончылася барацьба ў Плябанішках з бандыцкімі фарміраваннямі – парэшткамі Арміі Краёвай, якія яшчэ блукалі па лясах у прынёманскім краі. З цягам часу, калі працаваў

(1967–1971) участковым урачом у Гожскім і Лойкаўскім сельскіх саветах Гродзенскага раёна, то даведаўся, што Плябанішкі не былі выключэннем і нават не на першым месцы па колькасці вязняў.

Праз трыццаць гадоў мне, як адказнаму за дыспансерызацыю інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны, прыйшлося яшчэ не адзін раз сустрэцца з тымі некалі зухаватымі хлопцамі, якія распрацоўвалі той план барацьбы з бандфарміраваннямі. Паважаныя людзі, знакавыя асобы ў савецкіх і партыйных органах Гродна. Сустракаюся з імі яшчэ і сёння, калі хаджу па вуліцах, якія ўвекавечаны іх імёнамі, калі падчас «Дзядоў» хаджу памянуць родзічаў на гродзенскіх магілках. Яны першыя (не абмінеш), на высокім узгорку, з выбітымі партрэтамі на гранітных помніках.

Сустрэўся я і з капітанам, які, відавочна, не меў аніякага дачынення да тых плябанішскіх зачыстак. Інвалід Вялікай Айчыннай вайны, былы камандзір узвода матацыклістаў пад Прохараўкай. Жыве ў Гародні на вуліцы Савецкай, у кватэры без камунальных выгод, абівае парогі гарадзенскіх чыноўнікаў, каб палепшыць свае жыллёвыя ўмовы. Ён чымсьці быў падобны на мяне: не ўмеў прасіць. А дабівацца свайго любою цаною яму не дазваляў яго Бог, які яго аднаго з усяго ўзводу выратаваў пад той Прохараўкай. Праўда ён не знаў, які менавіта – ці мамін праваслаўны, ці бацькаўскі ісламскі. І я тады зразумеў, што і мой каталіцкі Бог і яго праваслаўна-ісламскі з адной буслянкі, і ўпершыню не паверыў, што на гэтым свеце ёсць толькі адзін сапраўдны Бог. І вырашыў яму памагчы, як брату, цудам не загінуўшаму пад Прохараўкай, бо мая Прохараўка была ў былых Плябанішках.

Тады я ўжо добра ведаў слабыя і моцныя схільнасці гродзенскіх «аўтэрытэтаў». Сакратар абкама партыі ваяваў разам з Леанідам (з дынастыі Ільічоў), а старшыня абласнога выканаўчага камітэту быў яшчэ «зеленаваты», рогам капаў зямельку, каб узняцца па службовай лесвіцы. Таптаў слабых і з баязлівасцю вылузваўся перад моцнымі.

Прынёс я таму капітану дзядоўскую кульбачку, і кажу: на табе сапраўдную, выкінь сваю. Надзень хоць раз свой парадны мундзір з узнагародамі, якіх у цябе больш, чым у самога Жукава, і пакажы ім «кузькіну маць». Цябе ўжо не пасадзяць. Не ведаю, што там было, але чуткі пра гвалт, які ўсчыніў «нейкі ненармальны інвалід вайны» ў аблвыканкаме, дайшлі і да мяне. Паводзіны

інваліда Вялікай Айчыннай вайны, якога з кабінета старшыні аблвыканкама машынай «хуткай дапамогі» адвезлі ў кардыялогію, атрымалі шырокі грамадскі рэзананс.

Неўзабаве прыходзіць і сам віноўнік той «урачыстасці»: вясёлы, памаладзелы, з дзядоўскай кульбачкай і з бутэлькай армянскага каньяку. Кульнулі. Першы кілішак за тых, хто не вярнуўся, але іх было так многа, што за іх выпілі і другі. Ён плакаў, узяўшыся за галаву. Разам з ім – і я. Трэці быў весялейшы – за яго добраўпарадкаванае жытло. Хацелі выпіць і за нахабства – другое шчасце, але бутэлька была ўжо пустая.

Сягоння, як і раней, тыя падзеі расцэньваюцца, як рэпрэсіі (у перакладзе з лацінскай мовы – падаўленне), накіраваныя супраць бандытаў, якія забівалі міліцыянераў і кіраўнікоў мясцовай улады. І так было. Чалавек, які доўгі час не з'ўляецца часткай соцыуму і не мае над сабой улады, звярэе. Гэта хвароба. І я магу, калі не зразумець, то хаця б паставіць яму дыягназ. І нават магу зразумець спрыт таго безгаловага хлопца, які рашэціў з аўтамата ў кладоўцы апошні кавалак сала, калі з капітанам (не думаю, што той капітан гэта рабіў па сваёй волі) забіраў ў малалетніх дзяцей адзінага карміцеля і іх сродкі на існаванне. Але не магу асэнсаваць сённяшнюю маральную ацэнку тых пагромаў афіцыёзнымі пісьменнікамі, гісторыкамі, палітолагамі, тэлевядучымі, журналістамі, настаўнікамі, бізнесменамі...

Гэта былі не рэпрэсіі ў існым сэнсе – падаўленне супраціву, гэта было нараджэнне нейкага новага заразнага захворвання, з двайной трактоўкай адных і тых жа клінічных сімптомаў, а адтуль і з двайнымі стандартамі ў ацэнках маралі. Немцы за аднаго забітага забівалі дзесяць ні ў чым не павінных, пераважна маладых, маглі спаліць і вёску. Бальшавікі дзейнічалі больш «гуманна»: працаздольных, як рабоў, – у руднікі, а пакінутым на волі без сродкаў на існаванне – натуральны адбор. За адны і тыя ж учынкі немцы – каты, бальшавікі – нацыянальныя героі, пры ўзнагародах, заслужаныя людзі. Пасля сталасці прыходзіць сентыметальнасць. Можа таму я і не магу глядзець фільмы пра дзікіх звяроў, дзе львіца, напаткаўшы галоднае дзіцятка (бацькоў якога з'ела), корміць яго сваім малаком.

## Тарзан



Каўбасны цэх Гродзенскага мясакамбіната ў 1956 годзе, дзе я ( у першым радзе справа) працаваў абвальшчыкам. Каб атрымаць 800–900 рублёў у месяц на абвалцы мяса, трэба было кожны дзень аддзяляць ад касцей 1000–1200 кг мяса. На мясной сыравіне закупленай у гаспадароў – норма невялікая. Горш, калі сыравіна паступала з калгасаў – мяса мала, а касцей многа. На шчасце, калгасныя свінкі і каровы нам трапляліся рэдка. Там, наверсе, напэўна, зразумелі: калгас – справа затратная, а падсобная гаспадарка – «клондайк», толькі не бунтуй народ, які ўжо прызвычаіўся, што ўсё вакол калгаснае, усё вакол маё.

Бедныя калгасныя парсючкі. Бадай, кожнае свінчо дзялілася адпушчаным яму па норме кормам з дзесяццю гаспадарскімі, які не купіш, бо няма, а дастаць (тады не гаварылі ўкрасці) – калі ласка, толькі не лянуйся. Па тагачаснай завядзёнцы нешта падобнае адбывалася і на мясакамбінаце. Вартаўнікі – тыя ж людзі і не за Богу дзякуй прапускалі без кантролю работнікаў і паасобку, і цэлым гуртам. І без мабільнай сувязі папярэджвалі пра з’яўленне непрадбачаных памочнікаў з аддзела па барацьбе з крадзяжом. І яшчэ быў варыянт – цераз двухметровую цагляную агароджу. Але на такія фокусы ў нашым каўбасным цэху быў здольны толькі Мішка Тарзан (мянушка), на два гады старэйшы за мяне. Яго нават не маглі дагнаць мясакамбінацкія сабакі. Неяк зімою, калі пачало змяркацца, паспрачаліся, хто спрытнейшы. Я Тарзана абагнаў і, пераскочыўшы двухметровы плот, прызямліўся акурат на плечы нашаму ўчастковаму міліцыянеру. Ад такой нечаканасці ён аслупянеў. Мечыслаў! Ён добра знаў майго бацьку, да якога часцяком заходзіў пасля працы прычасціцца чыста жытняю. Праз імгненне я ўжо рэзаў стометроўку ў напрамку, які паказаў мне наш участковы. А ён, былы франтавік-дэсантнік, добра ведаў, што

дэсантнікі па аднаму з неба не валяцца, і перспектыва адчуць на сваім гарбе яшчэ аднаго «лася» з торбай мяса яго не радавала. Дастаў пісталет і пачаў бабахаць уверх. І не дарэмна, бо ў гэты момант Тарзан, узяўшы двухметровы бар'ер, убачыў… не, не міліцэйскую шапку, а сноп агню. Развярнуўся на 180 градусаў і, пад уздзеяннем рэактыўнага выхлапу, які ў побытавых жартах асацыіруецца з мядзведжай хваробай, бадай што на той нашай спрынтарскай дыстанцыі пабіў і мой рэкорд, толькі ўжо без мяне.

Вечарам у прысутнасці бацькі і ўчастковага – хатняя разборка. Пасля трэцяй (я яшчэ не піў) прыйшлі да высновы, што мне вельмі пашанцавала – прызямліўся ў патрэбным месцы і ў патрэбнай кропцы часу, а магло быць і іначай, мог загрымець у месцы не вельмі аддаленыя. І я зразумеў, бо добра ўсведамляў, што гэта такое. Але самае галоўнае, чаму мне не хацелася за краты, – я напісаў паэму, кшалту, «Яўгеній Анегін», прысвечаную бялявай дзяўчыне. На фатаграфіі яна злева ад мяне. Сшытак з маім «шэдэўрам» знік падчас рамонту хаты. На пекнае пісьменства не хапала часу – жыццё патрабавала прозы.

У 1956 годзе была праблема не з вынасам мясной прадукцыі з тэрыторыі мясакамбіната, а дзе яе узяць. Вядома, што можна было ўкрасці ў начальніка цэха, якога за недахоп пасадзяць. Але ж была адказнасць і сумленне, і ніхто сабе дазволіць такое не мог. Калі нехта і прабаваў, яго тут жа ставілі на месца, і не таму, што ў побач працуючых сумлення было больш. Бралі толькі тады, калі пасля кантрольнай інвентарызацыі, якую праводзілі для сябе, быў лішак. Але такая радасць была даволі рэдкай. Часцей, доўга чакаючы начальніка, які ў сваёй канторцы сам-насам размаўляў з лічыльнікам, а пасля прыгорблена вылазіў адтуль з апанураным выглядам, здагадваліся, што наступіў Вялікі пост. У той час не было сучасных тэхналогій, каб карміць пакупніка замест мяса перацёртымі да стану пытляванкі шкуркамі, жыламі ды костачкамі. Не было соі, харчовых дабавак: для смаку, для атрымання патрэбнай кансістэнцыі пасля дабаўкі вады, для захоўвання вартасці, патрэбнага колеру і г. д. Хутчэй за ўсё, што гэтыя дабаўкі і з'яўляюцца прычынай таго, што ў людзей знікае храстковая паверхня каленных і тазасцёгнавых суставаў, а ў трамatoлагаў паявілася чарга на іх пратэзаванне – тэхналогія з пяцідзесяцігадовым стажам цывілізаванага свету, скуль гэтыя дабаўкі прыйшлі і да нас.

## Пара

*Неўздагад  і рэшка выпала ўдачай*
*з сотні нешчаслівых толечкі  адной:*
*каня з прынямоння над затокай плача,*
*а з вярбінкі коцік муркае вясной;*

*парадыйны пошчак, мусіць, салаўіны,*
*хмельны водар сонца, макіяж сасны,*
*гронкі з бірузовых ягадак каліны*
*і твае тры словы, словы без цаны.*

*Ластаўкі сінечы – мабыць, на пагоду.*
*Рысамі шкаляраць з раніцы стрыжы,*
*і на ліпе з лыжкай сонечнага мёду*
*чмель у гроне пчолак зноў жа не чужы.*

*Конікам пабудка дзынкае званочкам –*
*на заняткі кліча, пэўна, сенажаць,*
*а з буслянкі буслік, роджаны ў сарочцы,*
*падмаргнуў нам вокам:  «Бач! Пара лятаць».*

## Пяром бусла́

*Ты прыснілася Музай*
*прынямонскай – сунічнай.*
*Апякаў тваю бусел*
*міні ў кветках спаднічку.*

*З валуном зледзянелым*
*сон зрадніўся мой кроўна,*
*твая Муза ў белым*
*для яго была коўдрай.*

*Наступаю на горла*
*не для песні – каб скруха,*
*завітаўшая ў чорным*
*праіграла насуха.*

*Вывучаю, бы тэзай
мовы матчынай Гродна
тваю сцежку за бэзам
са слядкоў эпізодных*

*да затокі за садам,
дзе і неба з аеру,
скуль пяром бусла́ падаў
гэты верш на паперу.*

## Як разлюбіць

*Ад прынямонскіх навальніц
кідае выклікі зарэчча :
«Як разлюбіць, як разлюбіць ,
каб сам з сабой не весці веча?»*

*Як разлюбіць, як разлюбіць
 твае дасціпныя сюрпрызы,
твой гумар з вострых бліскавіц
з размовай воч, бы ў Моны Лізы?*

*Матыў прынёманскіх вятроў
вярэдзіць згадкі мовай кані,
і разлюбіць не грэе кроў,
а толькі думка аб спатканні.*

## Камсорг



Служыў я (здымак зроблены ў 1959 годзе) у Мурманскай вобласці, у пасёлку Грэміха. І за першародны гулагаўскі грэх бацькі, а не па стану здароўя, у будаўнічым батальёне (дзе, як і ва ўсіх хлопцаў, было напісана на лбе: будаўнік найсучаснага жытла з ганаровым найменнем «хрушчоўка», і не ты выбіраеш прафесію, а прафесія выбірае цябе) свідравальшчыкам скалістага грунту ў вечнай мерзлаце. І за год службы ні разу пад мухай, не вылажу з бібліятэкі, якая побач з кабінетам намесніка начальніка воінскай часці па палітычнай рабоце. І, з яго ж дазволу, часта да адбою замяняю бібліятэкарку – сімпатычную, маладую з немаўлём маму-адзіночку.

Чэмпіён па шахматах у батальённым вымярэнні. І да таго ж маю мэту – лячыць людзей. Ну, чым не кандыдатура на камсамольскага важака? Але ізноў жа – першародны грэх. Біяграфічная стрэмка.

А ў паветры яшчэ ні слова пра культ, яшчэ «трасуць грывамі» ідэолагі сталінскай маральнасці. Але ж, відавочна, у пампаліта не было выбару. І да таго ж ён і сам быў з Заходняй Украіны. Пасля кароткай размовы так і сказаў: «Мечыслаў, калі ты хочаш вучыцца ў інстытуце, ідзі ў партыю, я табе памагу». У хуткім часе я ўжо быў кандыдатам у чальцы генеральнай лініі вялікага Ільіча і да таго ж у ролі камсорга будбатальёна. Памяняў кірзавыя боты на хромавыя, інструмент бурыльшчыка на пяро. Рэдактар насценгазеты, баявых лісткоў, арганізатар мастацкай самадзейнасці, святочных імпрэз. Барацьбіт за здаровы лад жыцця. Хаджу ў дзесяты клас Грэміхскай вячэрняй школы вольным слухачом. (Атэстат аб заканчэнні сярэдняй адукацыі ў гродзенскай вячэрняй школе ў мяне ўжо быў). Дарэчы, па маёй просьбе мне дазволілі здаць экзамен і атрымаць яшчэ адзін атэстат. За выключэннем рускай мовы (3), усе апошнія прадметы здаў на 5. Беларус ёсць беларусам, і гэта было бачна нават за палярным кругам.

1961 год – пачатак касманаўтыкі. Збіты на недасяжнай вышыні шпіёнскі самалёт. «Мы моцныя, мы лепшыя… » І да кілбаснага фактара рэвалюцыйнага страўніка, як магільшчыка імперыі, яшчэ далёка.



*Дэмбель, 1961г. Карабель «Вацлаў Вароўскі». Развітанне з Грэміхай. Еду (другі справа) здаваць экзамены ў Гродзенскі медыцынскі інстытут, ачышчаны ад граху першароднага, з крыштальнай біяграфіяй.*



*Першамай, злева Талочка Алена Феліксаўна – мая нявеста. Гродна,1966 г.*

## Пажыццёвае зняволенне

С 1972 па 1988 гады працую анколагам у паліклініцы і па сумяшчэнні хірургам Першай гарадской клінічнай бальніцы Гродна. У нагу з рапартамі аб уздыме ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы і наша клінічная ўстанова салютавала вялікімі поспехамі па ўкараненні ў практыку навуковых прац. Наш прафесар па хірургіі, як і ўсе выкладчыкі ў інстытуце, прыехаў з Расіі і вылучаўся сярод сваіх калег – увішны, вынаходлівы, дасціпны, без комплексаў у дасягненні мэты, дасканала валодаў тэарытычнымі ведамі і рукі яго раслі з адпаведна прызначанага для іх месца, і заўсёды падкрэсліваў, што ісціна нараджаецца ў спрэчках. І партрэт яго красаваўся на дошцы гонару сярод лепшых людзей Гродна. Лідар па апублікаванні навуковых прац у часопісах і па адпраўцы ў самастойнае плаванне кандыдатаў і дактароў медыцынскіх навук. Амаль па кожнай хірургічнай хваробе ў яго быў свой, своеасаблівы метад лячэння. І аніводны, працуючы ў клініцы хірург, ні на ёту не мог адысці ад прапанаванай методыкі. Але самае цікавае: на другі дзень пасля атрымання вучонай ступені, не толькі яе спаборнік, але і прафесар цалкам забываліся аб сваім своеасаблівым метадзе лячэння.

Аднойчы на заводзе, дзе рабілі прасы, я чытаў лекцыю па раку малочнай залозы. Сабралася каля пяцідзесяці жанчын, але адна аніяк не адходзіць ад свайго станка.

– Броня, – крычыць майстар, – канчай, ідзі на лекцыю.

– Зараз іду, вось даштампую да тысячы і прыйду.

– Ды што ты там даштампоўваеш, гэта ж брак, – зноў крычыць майстар.

У здзіўленні пытаю ў майстра:

– А навошта брак даштампоўваць да тысячы і што гэта за брак?

– Падэшвы для прасаў, – адказвае ён, – норма 1000 у дзень, і за брак плацім, але крыху менш.

На другі дзень на рабоце, падчас перакуру, расказваю сябрам пра Бронін брак і задаю пытанне: а можа, і мы так штампуем навуку?

– А ты схадзі да прафесара і папытайся, толькі не забудзь узяць сваю працоўную кніжку.

У маёй працоўнай кніжцы ўжо была пячатка Першай гарадской клінічнай бальніцы аб прыёме мяне на работу, на другую я вырашыў пачакаць.

Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што былі ў прафесара і сапраўдныя, эфектыўныя метады лячэння, якія, на вялікі жаль, дасюль не апублікаваны. Асабіста мне падабалася яго методыка лячэння салявога адкладання на бугарку плечавай касці (плечалапатачны перыартроз), які ўзнікае пасля траўмы. Балючыя ўколы, таблеткі, якія адно лечаць, а другое калечаць, фізіятэрапія, мануальная тэрапія, масаж… І ўвесь гэты арсенал лёгкай і цяжкай артылерыі скіраваны на знішчэнне балючага салявога бугарка, які з'яўляецца прычынай нясцерпнага болю пры падняцці рукі ўверх. Прафесар «страляў» па гэтым салявым разрастанні з «гарматы». На самую балючую кропку, а адшукаць яе было вельмі проста, клаў манету і акуратненька неўралагічным малатком наносіў кароткі ўдар. Праз лічаныя дні боль знікаў і функцыя хворай рукі вярталася да ранейшага нармальнага стану.

Аднаго разу да прафесара, як да таварыша па службе падчас вайны, прыйшоў галоўны ўрач бальніцы:

– Іван Дзмітрыевіч, праблема з плячом, не магу падняць руку, а мне праз тыдзень трэба ехаць у Мінск на злёт ударнікаў, прысвечаны 25-годдзю руху за камуністычную працу. Трэба будзе галасаваць, а ў мяне не паднімаецца правая рука.

– А ты галасуй левай , – адказаў прфесар.

– Ты што, не разумееш, на злёце ўдарнікаў камуністычнай працы галасаваць левай? Выпруць, і да пенсіі не дацягну. Давай стукні разочак, а то ад гэтага лячэння па інструкцыі ані толку, ані смаку – накалолі толькі с-ку.

Іван Дзмітрыевіч доўга і з задавальненнем (так мне здавалася) абмацваў балючую кропку галоўнага:

– Гм, запусціў ты хваробу, Якаў Іванавіч, паспрабую, але без гарантыі, – і дастае малаток, і не маленькі нэўралагічны, а вялікі, з якім быў на ты, калі на лецішчы кляпаў касу.

– Ты што, Іван Дзмітрыевіч, гэта ж будзе вельмі балюча, – пачаў прасіцца галоўны ўрач.

– Не, калі па пальцах не стукнуць, – ціха, быццам сабе, адказаў прафесар.

Па пальцах прафесар не стукнуў. Галоўны ўрач праз тыдзень на тым злёце ўдарнікаў з вясёлай усмешкай адгаласаваўся праваю.

Усё новае – забытае старое. З гісторыі медыцыны вядома, што Гіпакрат паспяхова лячыў гемараідальныя шышкі каагуляцыяй, толькі той каагулятар у адрозненне ад сучаснага, награваўся не

электрычным токам, а на агні. Для абязбольвання даваў дух віна (*spiritus vini*). Адну лыжку. Колькасць гемараідальных шышак у сувязі з адынамічным вобразам жыцця у сучаснага чалавека павялічылася нязначна, а алкаголікаў – працьма.

Не выключана, што была і своесаблівая методыка лячэння і салявых адкладанняў. Ва ўсякім разе, Іван Дзмітрыевіч з ёю пазнаёміўся ў медсанбаце, дзе падчас вайны служыў фельчарам.

Метад мае толькі адзін недахоп (пальцы можна застрахаваць) – кепска дазіруецца.

Няўрымслівы палёт прафесарскай фантазіі ў пошуках навізны, як пабочны вынік у лячэнні аблітэрыруючага склероза сасудаў ніжніх канечнасцей, аднойчы аказаўся эфектыўным сродкам і ў лячэнні запушчанага рака. У шпіталі хвораму аблітэрыруючым склерозам сасудаў ніжніх канечнасцей правялі курс лячэння па распрацаванай методыцы прафесара: неспецыфічнымі імунастымулятарамі ў спалучэнні з вітамінамі А,Е,С (цяпер выпускаецца пад назваю антыаксідантны комплекс). Пры даабследаванні выявілі метаз рака ў печані з першасным ачагом ў падстраўнікавай залозе. Прыгавор без права на абскарджанне – лічаныя месяцы, каб радавацца сонейкам на абязбольваючых сродках. Але ў хворага знік боль, паявіўся апетыт і, галоўнае, вера, што будзе жыць. Пражыў тры гады пры задавальняючай якасці жыцця. Праўда, я яму яшчэ пяць разоў праводзіў такія курсы амбулаторна. За дзесяць гадоў такое лячэнне я правёў трыццаць аднаму хвораму з запушчаным ракам. Пару гадоў назад прачытаў у «Медицинском вестнике» рэцэнзію на доктарскую дысертацыю з навукова-даследчага інстытута па анкалогі ў Мінску пра лячэнне анкалагічных хворых антыаксідантамі і неспецыфічнай імунатэрапіяй.

Яшчэ студэнтам, а пасля і ў ардынатуры на кафедры шпітальнай хірургіі Гродзенскага медыцынскага інстытута і я аддаваў даніну часу – займаўся навукаю. Нават наскроб матэрыял на кандыдацкую дысертацыю. Але, калі пасля размеркавання трапіў у першую клінічную, то зразумеў, што да ўвасаблення свайго партрэта на гарадской дошцы гонару не дацягну, бо тутэйшымі генераламі могуць быць дзеці толькі расійскіх генералаў, а любой цаной дабіцца свайго – гэта не маё. І справа была не ў абароне дысертацыі, а ў працаўладкаванні дыпломнага працаўніка, дзе ўсё было распісана на дзесяць гадоў наперад: хто, калі і дзе з чыста расійскай эліты і з мясцовай, перахрышчанай у расійскую,

прэтэндуе на ўежнае карыта. Адзінае, што заставалася, – прэтэндаваць на «Шнобелеўскую» прэмію па анкалогіі.

Забягаючы наперад у маім апавяданні, хачу сказаць, што ў той час дысертацыі яшчэ абаранялі ў Вышэйшай атэстацыйнай камісіі, падчас развалу Саюза – куплялі: кандыдацкая – 500 у.е., доктарская – 1000. У 1900 годзе, калі працаваў хірургам на караблях рыбалавецкага флота Мурманска, якія хадзілі ў замежнае плаванне, майго забугровага заработку ў валюце якраз хапала і на кандыдацкую, і на доктарскую, ці на старую «тачку» з гіпнатычным найменнем «мэрсэдэс». Мэрсэдэс на сямейным конкурсным савеце атрымаў першае месца і нават праз тры гады памог павялічыць мой валютны скарб у два разы. Ну, як тут не паверыць старадаўняй мудрасці: «Лепш з разумным згубіць, чым з дурнем знайсці». Тады я не сумневаўся, што так думаюць усе, калі вырашалася пытанне з прыярытэтным накірункам развіцця краіны: на Усход, ці на Захад.

Падчас працы ў Першай гарадской паліклініцы Гродна лёса-вызначальную кропку ў маім кар’ерным росце паставіў яго вялікасць выпадак. Адзін разумны чалавек, паглядзеўшы панскім вокам на мае «жыгулі», запытаў:

– А што яны табе даюць?

– Як што, – адказаў я, – прыемнасць і сабе, і дзецям, і жонцы.

– Паехалі, – кажа, – на заробак.

Загрузілі машыну, купленымі на вёсцы яблыкамі і адвезлі ў рэстаран. Навар – 150 рублёў на дваіх. Божа мой, за пару гадзін і гэта пры маіх сто дваццаці ў месяц. Праўда, здзівіць мяне даробкам было цяжка. Яшчэ будучы студэнтам гадаваў андатры, шашкі і нутрыі і шыў вушанкі-фармоўкі (у якіх вушы не адкладваюцца) і модныя (фасоны браў са старых польскіх часопісаў) дамскія капелюшы. Грошы ў мяне былі заўсёды. Пасля той паспяховай навукі «купі-прадай», заняўся вырошчваннем ранніх агуркоў. За трохмесячны сезон 2000-2500 рублёў і на свежым паветры, і без бяссонных начных дзяжурстваў.

Васьмідзесятыя мінулага стагоддзя. Відавочнае-неверагоднае: у крамах нічога няма, а як мы весяліліся! Аніводная больш ці менш значная падзея ў нас не абходзілася без калектыўнага застолля. І кожны віноўнік урачыстасці, вылузваючыся са скуры, стараўся ўразіць гасцей сваёй заможнасцю – каньяком, кумпяком ды чорнай ікрой. А мне, ці то ад той саракаградуснай божай слязы, ці ад галавакружэння на агурочным бізнесе, напомніла аб

сабе даўняя хвароба – рэцыдывам паэтычнага натхнення. Пішу крамольныя вершаванкі кшталту баявых лісткоў і чытаю самым блізкім сябрам, і не здагадваюся, якая страшная кара чакае мяне за маё вальнадумства.

Аднойчы, калі я асісціраваў прафесару на аперацыі, ён нечакана пачаў хваліць мае прафесійныя здольнасці, прымаўляючы: «Ай да Пушкін, ай да маладзец». Гэта мяне насцярожыла, а яшчэ больш, калі неўзабаве запрасілі на незапланаванае партбюро нашага шпіталю. Ну, думаю, дапісаўся, «чырвоны» білет, каб была такая магчымасць, аддаў бы з вялікай радасцю, а калі выпруць з работы – гэта катастрофа. Прафесію хірурга я любіў і цаніў.

У той час я добра ўсвядамляў, што ў кабінетах улады, каб трымаць руку на пульсе і беспамылкова ведаць, якім паветрам дыхаюць людзі, ёсць свае вушы, і што ёсць мяжа з дакладна вызначанымі параметрамі, якая не дазваляе людскому незадавальненню трансфармавацца ў арганізаваны супраціў. І, нягледзячы на тое, што крывадушная прапагандысцкая рыторыка на тэлебачанні, у газеце «Праўда»… і на сходах успрымаецца людзьмі, як аб'ектыўная рэчаіснасць, – прыгаворам без права на абскарджанне, публічна выказацца супраць рашэнняў генеральнай лініі партыі можа толькі вар'ят ці самазабойца .

Дарэчы, аналіз рэалій сённяшняга дня паказвае, што ўсёмагутныя свету гэтага ў барацьбе з іншадумцамі нічога новага не прыдумалі.

На партбюро, дзе большасць чальцоў мелі дачыненне да рэанімацыі, кола пытанняў для абмеркавання на пасяджэнні заўсёды супадала з іх прафесійнай дзейнасцю. На гэты раз – як *ажывіць* працу ў прафсаюзнай арганізацыі? Пачалі абмяркоўваць кандыдатуры на старшыню прафкама. Апошняй была мая. Я пачаў упірацца, спасылаючыся на маю некамунікабельнасць, нявопытнасць, скаванасць у публічных выступленнях, але яны знайшлі ў мяне столькі здольнасцей, што я і сам аб іх не здагадваўся. Аднагалосна выбралі мяне на грамадскіх пачатках старшынёй прафкама Першай гарадской клінічнай бальніцы, ды яшчэ (для поўнага шчасця) па сумяшчэнні і старшынёй народнага кантролю, каб і я, як горкаўскі буравеснік, нёс людзям святло генеральнай лініі дынастыі Ільічоў і высякаў пад корань выдумкі зласліўцаў, што пры капіталізме існуе эксплуатацыя чалавека чалавекам, а пры сацыялізме – наадварот, і што жоўтая прафсаюзная прэса не ў нас, а ў іх. А, магчыма, з выбарам маёй кандыдатуры ўсё было

прасцей: каб у вольны час не займаўся дурноццем у пошуках гуза для ўласнай галавы і для кіраўніцтва шпіталю.

Дарэчы, пажыццёвае зняволенне для чальца КПСС – гэта не метафара. Партыйны білет для людзей, мечаным кланавай прыналежнасцю, атаясамліваўся з уежным карытам, а для шараговых – з пажыццёвай «добраахвотнай» працай на грамадскіх пачатках па выкананні планавых палітычных і культурных мерапрыемстваў. І гэтую працу трэба было паказаць для кантралюючых функцыянераў абавязкова на паперы. Бедная маўклівая і цярплівая папера, незаслужана забыты сімвал эпохі для ўвекавечання нашчадкам, хаця б для таго, каб сёння тэлевядучы на БТ не пытаў у прафесара па гісторыі Беларусі: «Вы што, не верыце напісанаму савецкімі вучонымі?» Добра, што яшчэ не адправіў яго шукаць праўду ў савецкай «Праўдзе».

У 1988 годзе ад бясконцай пісаніны і галёкання «нам партыі сонейка свеціць», бадай што й запіў бы, каб не адна асаблівасць майго арганізма: ад алкаголю ў мяне, акрамя галаўнога болю і абвастрэння язвеннай хваробы страўніка, больш аніякай радасці няма. Даканала бяссонніца і пачуццё адзіноты, адзіноты сярод людзей з маўклівымі і вечна заклапочанымі тварамі. На раздарожжы бязвер'я і банкруцтва запланаваных задумак па прафесіі вырашыў пашукаць сваё шчасце там, дзе ёсць яшчэ праўда. Уладкаваўся суднавым хірургам у Мурманскім рыбалавецкім флоце «Севрыба», караблі якога рэгулярна хадзілі ў замежнае плаванне. І ў тым жа годзе адправіўся ў першы рэйс. Наша рыбалавецкая база (карабель для прыёму, перапрацоўкі і замарожвання рыбы, вылаўленай траўлерамі) прышвартавалася ў Галіфакскім порце. Намеснік капітана па палітычнай рабоце сабраў усіх жадаючых адправіцца ў горад (а другіх не было) на інструктаж: хто, з кім і калі пойдзе на бераг і кожнаму выдаў памятку паводзін савецкага марака за мяжой. У складзе тройкі, дзе быў адказным за маральныя паводзіны маіх спадарожнікаў, я ўпершыню ўбачыў на адлегласці выцянутай рукі гэтых, як мне здавалася, шчаслівых і свабодных людзей. Толькі не ведаю чаму, калі мы ішлі па вуліцы, разглядваючы хмарачосы, рэкламныя шчыты, і пераважна вітрыны крамаў, усе ўступалі нам дарогу. Здаецца, яны нас пазнавалі яшчэ на адлегласці, быццам па зорцы на шапцы. Але, і калі пасля першай сустрэчы з сэканд-хэндам, мы апраналіся ў іх строі, апазнавальны знак «савецкі марак» ці то па запаху, ці то яшчэ па нейкіх невядомых флюідах заставаўся.

У 1990 годзе ўсё кардынальна памянялася: ідзі куды хочаш і калі хочаш. Наш намеснік капітана па палітрабоце памяняў прафесію – заняў крэсла ці то псіхолага, ці то прапагандыста за здаровы лад жыцця. Заробак у валюце пабяднеў, але, як кампенсацыя, паявіліся левыя жывыя грошы. Аднойчы і мне перапала 50 долараў за перагрузку рыбы з нашай рыбалавецкай базы на японскі карабель. (Такую працу давалі не ўсім – доктара ўважылі). Як мне тады вытлумачылі, гэта быў бартэрны разлік Мурманскага рыбалавецкага флота «Севрыба» з японскай кампаніяй. З цягам часу такія бартэрныя аперацыі праводзіліся пераважна з караблямі пад нарвежскім сцягам.

Паблукаўшы па акіянах (шэсць разоў перасякаў экватар, быў у Галіфаксе, Бостане, Сэнт-Джонсе, Лас-Пальмасе, у Антарктыдзе), зразумеў, што самая цяжкая праца – нічога не рабіць. Дзве, тры сотні  здаровых мужыкоў і некалькі жанчын. За шэсць месяцаў (рэйс) зацыруеш пару ран, калі «пашанцуе» – зробіш апендыцыт, ці выхадзіш з алкагольным панкрэатытам начальніка (не ніжэй памочніка капітана, апошнім – сухі закон),  дый пры зарплаце – 1000 рублёў у месяц. Ад дармавых грошай можна было здурнець. І здурнеў. Па прыходзе ў Мурманаск пачаў хадзіць на мітынгі і разам з натоўпам дзёр глотку: «Далоў камуністаў!»

Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў здзейсніў вялікае глупства: сем дзесяцігоддзяў аб сваіх сямейна-эканамічных праблемах чалавек мог паскардзіцца толькі жонцы, пашаптацца (каб не пачуў сусед) з сябруком на кухні і, колькі хачаш, з самім сабою. А каб не лезлі ў галаву дурныя думкі,  павінен быў працаваць не 8 гадзін, а 16 (8 на працы за хлеб і 8 на пабочных зарбках на масла). Ён  выпусціў джына з бутэлькі пад назваю Галоснасць. І палыхнула, дый так, што і сам чуць не згарэў у тым полымі. Пажар можна было яшчэ патушыць у 1998 годзе, у 1900-м – не. Нельга было перасадзіць усіх чаляднікаў неабдымнай імперыі. Можа таму там за кардонам і бастуюць  ад безрабоцця на працы і ад шалёных грошай, і колькі ні дай, іх заўсёды мала, і, галоўнае, што на гэтае «мала»  можна паскардзіцца  падчас «страйкаў», а не толькі самому сабе. Няма на іх Сталіна, як гавораць нашыя закадзіраваныя пенсіянеры.

Праз некалькі гадоў я выпадкова ў Гародні сустрэўся з чалавекам, які працуе на траўлеры, з памятнай мне  падзеяй па прафесіі, калі працаваў суднавым хірургам у Мурманску. Абрадаваўся, распытваю пра флот, пра Мурманск…

– А я працую не ў Мурманску, а ў Нарвегіі, – адказаў ён. Гэты траўлер цяпер у Нарвегіі, яго купіў адзін багаты мурманскі чалавек.

Гавораць, што раней ён працаваў у кіраўніцтве Мурманскага рыбалавецкага флота «Севрыба».

Калі, у тысяча дзевяцьсот дзевяноста першым годзе вярнуўся ў Гродна, то мае зробленыя драўляныя рублі (акрамя валюты) ужо нікому не былі патрэбныя. І не было аніякага сэнсу папаўняць працаю на рабоце мой сямейна-спажывецкі кошык палачкамі-працаднямі. Прыйшлося ўспомніць напрацоўкі яшчэ студэнцкіх гадоў у шапачным бізнесе. Але, паспяхова-бясхмарны ў першыя гады, ён хутка закончыўся і не з-за канкурэнтаў, а з-за сутыкнення з налогавым заканадаўствам. А каб яго сумленна абысці, патрэбна было закончыць яшчэ адзін універ, у які пасля шасцідзесяці і не бралі. Можа і добра, бо зухаватыя хлопцы (канкурэнты падаткавай інспекцыі) за пару соцен даляраў пажадалі б мяне ашчасліўіць заўчаснай дарогай у рай, як таго немца з Гожскай гміны. Можа і добра, бо неўзабаве пачалася барацьба і з карупцыяй. Неяк чытаю ў «Гродзенскай праўдзе». Галоўнаму ўрачу участковай бальніцы (жанчына) уляпілі за хабар 6,5 гадоў турмы. За што? Дзяўчыне, якая зрабіла аборт, выдала левы бальнічны ліст з дыягназам: вострае рэспіраторнае захворванне. І за бутэльку. Знайшліся і сведкі. Выпісала на анкалагічнага хворага наркотык і перадала яго васьмідзесяцігадовай бабулі, якой ужо аніякія ненаркатычныя абязбольваючыя сродкі не памагалі, і зноў жа не за кветкі, і г. д. Сітуацыя адзін да аднаго, як было і ў наш застойны час. «Грэшнай» жанчыне, у якую і сам Хрыстос не кінуў бы камень, і для якой нават сам грыф гінекалагічнай установы быў доказам яе грэшнасці, мы выдавалі левы бальнічны ліст. І левыя наркотыкі выпісвалі на амбулаторных анкалагічных хворых, каб аблегчыць другому хвораму (без анкалагічнага дыягназу) яго апошнія дні. Справа ў тым, што адпаведна ўказу міністра аховы здароўя СССР, наркотыкі амбулаторна можна было выпісаць толькі абмежаванаму кантынгету хворых, сярод якіх на першым месцы была анкалогія. І да мяне, як анколага, з такой просьбай звярталіся ўсе ўрачы – і шараговыя, і начальнікі, дзе боль міністэрскай інструкцыяй не ўтаймоўваўся.

На мой розум, пагроза распаўсюджвання наркатычных сродкаў цераз медыцынскія каналы вельмі перабольшана, і ўсе гэтыя міністэрскія інструкцыі напісаны для таго, каб адцягнуць увагу грамадства ад сапраўдных наркотыкаў. А сярод іх на першым месцы, які выклікае невылечную залежнасць – гэта ўлада, і ад гэтай хваробы няма лекаў. На другім – афіцыйныя, узаконеныя манаполіяй дзяржавы – нікацін і С2Н5ОН. І апошні – смачная

яда, але не як фактар рэвалюцыйна-галоднага страўніка, а як распуста.

На выклікі сучаснасці адгукнулася і сэрца. Давай, думаю, зраблю ЭКГ, мала ці што – калі Бог спіць, антыхрыст весяліцца. Іду да каляжанкі па працы ў бальніцу, а там рамонт, мяняюць сантэхніку.

– Нашто, – пытаю ў медыцынскай сястры, – яшчэ ж у добрым стане?

– Вядома ж, у добрым, – адказвае яна, – але ў галоўнага ўрача на катэджы ідуць сантэхнічныя работы. Па рамонту нашай бальніцы мы ўжо здагадваемся, калі ў яго будзе і наваселле.

Ніколі не звяртаў увагі на тыя катэджы, але пасля той размовы з медыцынскай сястрою стаў прыглядвацца. І на самой справе, сярод медыцынскіх работнікаў у марафоннай гонцы па колькасці катэджаў першае месца займаюць кіраўнікі з генеральскімі шапкамі. З абоймы кіраўнікоў вышэйшага звяна не адстаюць і падначаленыя.

Ізноў пачалося сардэчнае скавытанне, бы ў таго сабакі, які жаласна павіскае. Далася мне тая жанчына, якую я ніколі не знаў і не бачыў, – галоўны ўрач участковай бальніцы, якой уляпілі 6,5 гадоў за хабар. Напісаў артыкул і прынёс у «Гродзенскую праўду». Карэспандэнтка пры мне чытае і галосна смяецца. І я зразумеў, і таксама пачаў смяяцца. Папрасіў прабачэння за маю склератычную наіўнасць і запэўніў яе, што больш нічога ў «Гродзенскую праўду» пісаць не буду.



*Мае «Жыгулі» – незаменны памочнік у агурочным бізнесе. Гродна, 1977г.*

**Покупка автомобиля**

*Торговли сервис, как наждак,*
*а мне тепло в его затее.*
*Сегодня всё у меня не так,*
*Я самого себя умнее.*

*Ждал 10 лет. Вот это куш!*
*И пью я сладость благодати*
*под вопли жаждущих кликуш,*
*каким вчера и сам был, кстати.*

*Пещерный мрак, забвенье муз,*
*кривое зеркало обиды –*
*сегодня просто лишний груз:*
*я на вершине пирамиды.*

## Доступная и бесплатная

*Бесплатно, судьбе в назидание,*
*как вскачь подсказали Советы,*
*мы лечим людское страданье*
*огрызком убогой монеты*

*и смотрим в ущербные очи,*
*звенящей подачке у храма,*
*и знаем, что будет короче*
*с фатальной развязкою драма.*

## Пятиминутка

*Не в радость трибуне*
*воскресшие кличи,*
*что мечутся втуне*
*на чьём-то обличье,*

*и эхо секиры*
*с предвестьем расправы...*
*Послушный и сирый...*
*Ну кто ещё бравый?*

*Страх совесть не судит,*
*а дух – больной страсти...*
*Замолкшие люди –*
*бессилие власти.*

## Кадры

*Мудрствуя, лавируя,*
*расшибая лбы,*
*страхом цементируя*
*монолит толпы,*

*с залихватской поступью,*
*грубо, то игриво,*
*топором и подступом*
*правит злая сила*

*и ещё – двурушное*
*большинство слепое,*
*идолу послушное*
*и всегда немое.*

## Шеф

*Языком шершавым всласть*
*он клеймил пороки.*
*Остроумно «тянул» власть,*
*с подчинённых – соки.*

## З выступлення парторга на сходзе

*– Нам партыі сонейка свеціць,*
*другога й не трэба амаль,*
*каб толькі ўсе людзі на свеце*
*глядзелі, як мы, ў сваю даль.*

*Я сёння шчаслівы й здаровы,*
*каб толькі, дай Божа, не горш,*
*і ў душу запалі мне словы,*
*што я чалавек, а не смоўж.*

*У свеце рашэняў партз'ездаў,*
*за новыя ў нас рубяжы,*
*буржуям па карку бы з'ездзіў,*
*што лезуць да нашай мяжы.*

*Не трэба аб нашай свабодзе*
*ім так балабоніць, бубнець –*
*мы вольныя людзі і ў згодзе*
*умеем расці і квітнець.*

*Я веру у светлае Заўтра!*
*Хай вечна жыве наш важак!*
*Жыццё, калі трэба, аддаў бы,*
*каб людзі жылі ўсе так.*

*Я болей, чым хто, ганаруся*
*братэрствам свабодных людзей,*
*а вораг палезе – клянуся,*
*сваіх не збярэ ён касцей.*

## Прафесарскі абход

*Нахмурыўшы твар,*
*бы шукаў вытокаў,*
*шэф развёў рукамі:*
*«Дзе аналіз сокаў?»*

*Падлічыўшы мігам*
*здабыткі з працэнтаў,*
*першым прабег фініш*
*прэтэндэнт ў дацэнты:*

*глянуўшы ў аналіз,*
*шэф, бы з той сявенкі,*
*кінуў ўсім заўвагу,*
*анекдот маленькі.*

*І ўсе заківалі:*
*галавой, рукамі,*
*старшы ардынатар*
*нават і нагамі.*

*Смак яды адчуўшы*
*з лусты здобнай рэнты,*
*як салоўкі пелі*
*хорам асістэнты.*

*І другі прафесар,*
*на высокай ноце,*
*бліскуча тараўся*
*згарэць на рабоце.*

## Папяровы час

*Я рапартую небу і людзям,*
*я рапартую Богу зямлі,*
*я рапартую святлейшым суддзям,*
*што, як сляпога, мяне вялі.*

*Пішу на белай паперцы чыстай,*
*пішу, што хоча ад яе люд,*
*і прысягаю ўсім урачыста,*
*што разам з імі з'еў солі пуд.*
*А калі трэба, то намалюю*
*і Моны Лізы душы забрала,*
*як прывід лёсу і як святую,*
*каб і народу пашанцавала.*

## На навуковай канферэнцыі

*Гараць у спрэчках, але ткуць*
*усё больш зрэбніну, не кужаль,*
*і паднімаюць каламуць,*
*каб хоць не сесці з ёю ў лужу.*

*Грукоча поўненькі вазок*
*на сметнік зробленай навукі*
*для справаздачы пра наш клёк*
*і залатыя, мабыць, рукі.*

## Чэргі

*Трыццаць год на кватэру,*
*дваццаць пяць – на машыну,*
*не губляючы веру:*
*застануцца і сыну.*

*Бог высока ў небе –*
*за бародку не схопіш,*
*«беспадстаўнай» патрэбе*
*не адкажаш: «Што зробіш?»*

*Дождж за карак не льецца –*
*запрагайся ў аглоблі.*
*Толькі звон! А нясецца,*
*каб паслухаў – аглох бы.*

## Первомайская демонстрация

*Я молюсь Первомаю –*
*транспарантной весне*
*и другого не знаю*
*наяву и во сне.*

*И скребется мне в душу*
*пролетарский пролог,*
*что шестая часть суши*
*лишь начало дорог.*

*Полыхают знамёна*
*с пятикрилой звездою.*
*и несётся с амвона:*
*«Как любим я страною!»*

*Жаль, что кроток миг счастья*
*с первомайскими снами,*
*когда «горькую» власти*
*на халяву пьют с нами.*

*Жаль, что мало так надо*
*нам от этой планеты,*
*жаль, что дышат на ладан*
*очень долго Советы.*

## У кабінетах улады

*Цяпер абдзіраюць сынкі прайдзісветаў.*
*(Раней абдзіралі бацькі).*
*Накладзена вета на праўду паэтаў,*
*жабрацтва залезла ў пейзаж гарадскі.*

*Хвіліны цярпення жудой загудзелі,*
*набатам трывожнага звону*
*і зрэбнаю ніткай сялянскай кудзелі*
*вядуць, відавочна, да скону.*

*А зорнае неба азяблай зямлі,*
*як крык неабсяжнага страху...*
*Ці ж будзе той час і пакажам калі*
*саветам дарогу на плаху?*

## Сердце

*И рваная печень, и дырка в виске…*
*Копаются долго хирурги…*
*И где-то застыли в смертельной тоске*
*на древке церковном хоругви.*

*И течь не закрыта, зияет дыра,*
*как в нашем бездонном бюджете,*
*и где-то взметнулись два чёрных крыла*
*некрологом в местной газете.*

*Пришли мы из праха и прахом уйдём,*
*и это совсем не бравада,*
*а сердце без крови, в пространстве пустом*
*и стонет и плачет: «Не надо»!*

*А сердце без крови, почти мертвеца,*
*в сравнениях нет здесь подвоха,*
*вот так и сражалась за жизнь до конца,*
*за жизнь до последнего вдоха.*

## Час пик

*Теснимый плотною толпой,*
*я рвусь до счастья как умею:*
*ногами, тёртой головой*
*назло такому же плебею.*

*Трещит по швам могучий дух*
*под вопли жаждущих разминки*
*и мой без пуговиц кожух*
*с линейной трещиной на спинке.*

*В конце дороги вижу свет*
*строки крылатой в духе века:*
*«Вперёд к свершению побед*
*во имя счастья человека!»*

## Зарплата
## (спасибо!)

*Волшебное слово! Подарка дороже.*
*И явственно слышится слог:*
*спаси, спаси, если можешь,*
*спаси всемогущий нас Бог.*

*Несётся с любовью души нараспашку,*
*дежурным летит анекдотом,*
*дежурное слово в словесной упряжке,*
*с божественным в нём оборотом.*

*В оборванном крае с глазами пустынь*
*цветёт журавлиное лето*
*и мудрое слово с подтекстом аминь.*
*Спасибо ему и за это.*

* * *

*Лад хлусні з жалезным склюдам*
*без'языкім правіць людам.*
*Анямелі ў іх твары,*
*салаўём пяюць пачвары.*
*Пустаслоўе, злыдняў прорва,*
*крывадушнасць дзярэ горла,*
*а скалелае сутонне*
*вызначае шлях на сёння,*
*дзе пад ніцаю вярбою*
*кожны дзень і я з табою.*

## Нестыкоўка

*А нам каб смачна: пальцам пхануюу,*
*і для настрю яго цвік –*
*не той, што з назвай «окоянная»*
*дае па картках  бальшавік.*
*А там дзе пальцам пхаць не здольныя,*
*як за правіннасць без віны,*
*бытуе думка манапольная:*
*« А нам – каб толькі без вайны».*

## Звон

*У перазвоне шматгалосым*
*надзеі час, бы ў руку сны:*
*штодня шэдэўры ткуць на кроснах*
*з калекцый зорнае вясны.*

*Пікантнасць цешыцца канцоўкай:*
*да скону цымус – не памрэ,*
*і толькі ноч ківае слоўцам –*
*у дапамогу забярэ.*

## Наркотык

*Вялікім – улада, як верад,*
*без знака дарожнага стоп,*
*што знаюць дакладна, наперад:*
*без іх у краіне – патоп.*

*Найлепшы, бы Бога прышэсце,*
*за фокус яго барады:*
*як схопіш, – са скваркай нарэшце*
*Эдэма пабачыш сады.*

*А той, дзе як след, пакараюць*
*за трафік трамплінны ганца,*
*што рваўся ў Еўропу, як стаер,*
*адлік пачынае з канца.*

*Spiritus – віток наркатычны…*
*Пра гэта здагадваўся Бог,*
*калі яго вучань антычны*
*кульнуў, правакуючы рог.*

*Хто ж выдумаў гэтае дзіва*
*з якой жа прыйшло стараны?*
*Лячыў яго продак кадзілам,*
*як сад сваю ноч, – ад шпаны.*

*Хваробай яе называюць,*
*а хворы не скардзіцца, не…*
*Спакусная спадчына «раю»*
*не раз заклікала й мяне.*

## Закон

> *…удило на погамованье кождого*
> *зуфальцу есть вынойдено…*
>
> Прамова Льва Сапегі з нагоды
> прыняцця Статута ВКЛ (1588г.)

*І воля, і праўда, і Бог.*
*Над ім нашы продкі карпелі,*
*каб быў з вастрынёй, як нарог,*
*і клёк не губляў на вяселлі.*

*І воля, і праўда, і Бог.*
*Хацелі як лепей, а выйшла:*
*закон атрымаў статус-кво*
*з гарантыяй дышла.*

## Інтэлекты

*Ізноў за грошы «інтэлекты»,*
*як і ў спрадвечны час пакут,*
*ключом адкрыюць запаветным*
*дарогу ў рай сабе і тут.*

*Без грошай, кажуць, не праб'ешся*
*пакуль на іх пануе попыт...*
*О, родны кут, куды нясешся,*
*хто купіць твой уласны вопыт?*

## Выбары

*Урачыста, у чыстым да дня*
*прачынаемся з песнямі рана,*
*каб злавіць на прынаду каня*
*прэтэндэнтам уежнага клана.*

*Восень дорыць сп'яна дзівакам,*
*каравай, абяцанкай сагрэты,*
*і шалее адкрыта ля крам*
*пад сто грам і дымок цыгарэты.*

## Іх новасці

*Бы светлафор увішны,*
*прасунутага знаўцы:*
*каму – сцяжыну Крышны,*
*каму – дарогу Збаўцы.*

*І знаюць цэнз мастацтва*
*у кожнай кропцы хвілі:*
*як месяц пратрымацца,*
*каб з пенсіі не кпілі.*

## Пенсия

*Люблю я сладостную блажь*
*и неземные повороты –*
*закончил трудный в жизни марш,*
*теперь остались только льготы.*

## Страна оглобельных разборок

*Страна оглобельных разборок,*
*где правит дышло – ставки кон,*
*где поиск истины не в споре*
*и не в корректности сторон;*

*где мнится сильным зов свободы,*
*её особенная стать*
*и тот аркан железной моды*
*что Грозный начал примерять;*

*где лесть с подвескою цинизма,*
*и залихватской рати плеть,*
*прикрывшись маской гуманизма,*
*не позволяет умереть;*

*где звёзды гаснут до рассвета,*
*и нет дорог домой назад,*
*где озаряет утро светом*
*бродячий дух Октябрьских дат;*

*где стало подвигом искусство:*
*диагноз – поиски врага*
*и оправданье самых гнусных*
*деяний, подлости и зла.*

## Нораў

*Зноў запахла на золку*
*ў чужой хаце ядой.*
*Пра халяўшчыцу-пчолку*
*досвед мой з барадой:*

*рэкіціры, бы шэршні,*
*паміж іх святары –*
*спавядацца для грэшных:*
*не сваё – не бяры.*

*А разборкам ад Спаса*
*нат зайздросціць маньяк:*
*хочаш жыць – давай касу*
*і кіўком падай знак,*

*што ні слова пра маму –*
*пахам вытканы шлях,*
*наўпрасткі з Вострай Брамы*
*на ліцвінскі абсяг.*

*Скарб з НЗ для расплоду,*
*што прыдбаў родны кут, –*
*– прадразвёрстка за згоду.*
*Калі не – скажа Брут.*

*Пра айчынную памяць!?*
*Калі б'юць – не да кветак,*
*і архіў пачне пляміць*
*чорнай фарбай для дзетак.*



*Пасека ў Грандзічах, 2010 г.*



*Мая дачка і сын. Грандзічы, 1999 г.*



*Унучка – Караліна.*

## Нараджэнне ўнучкі

*Навінка дня прыйшла з калёс –*
*і стала слова дзівам:*
*з надзей, чаканняў доўгі крос*
*закончыўся шчасліва,*

*а часу повязь для душы*
*гаворыць Боскім духам,*
*які і дзеду  варажыў*
*не так як нам – насуха.*

*За бусла кодаваю ніць*
*дзяржуся, як за крэсла,*
*каб шлях у вечнасць паўтарыць,*
*каб зноў душа ўваскрэсла.*

# Марыя



1942 г.



1943 г.

## Солтыс

*Перад гвалтам Бог босы –*
*ўсёмагутных харызма.*
*Ordnunk з позіркам косым*
*не разгледзіш праз прызму,*

*дзе адказнасць за стрэльбу,*
*як маланкі працяг…*
*А з іудавым срэбрам*
*і жыццё, і ачаг.*

*І заказчыкам немца,*
*што за вёскай дабілі,*
*не газуе Асвенцым –*
*бы сем футаў пад кілем;*

*і не скажаш гасподзе*
*пра уласны парог...*
*Солтыс немцу лагодзіць*
*і здае чатырох*

*маладых і вясёлых*
*хлопцаў з брацкай Расіі*
*за заложнікаў вёскі –*
*каб зямлю не касілі.*

Марыя – мая сястра. Прыйшла на гэтую зямлю, каб хутчэй яе пакінуць (5.08.1940–26.09.1943). Загінула ад нямецкай кулі падчас разборкі немцаў з савецкай дыверсійнай групай, закінутай у вёску Плябанішкі для барацьбы з нямецкімі захопнікамі, якая пусціла ў расход каля Плябанішак немца – начальніка Гожскай гміны. Солтыс – Майсей Нікодым, каб ўратаваць заложнікаў сяла ад заглады, паказаў на ўскраі вёскі хату, дзе яны хаваліся. Пасля вайны апошні след Майсея Нікодыма – Гродзенская турма. І сёння, кожны раз, калі іду каля яе сцен, што побач з Фарным касцёлам, прашу распятага Хрыста паказаць мне яго магілку.

У вёсцы Плябанішкі ў трыццаці метрах ад нашай былой хаты захавалася яго жытло. Цяпер гэта лецішча Гэлі, дачкі Нікодыма Майсея, якая выйшла замуж за Кіндзерскага Станіслава. Пры сустрэчы са Станіславам рукаемся, а для Гэлі я заўсёды стараюся пацалаваць руку. Ёй каля васьмідесяці, і яна ад маёй ветлівасці бянтэжыцца: «Ты што, здурнеў»? Вядома ж здурнеў. У свае 75 хочацца хоць дачцы солтыса падзякаваць за тое, што жыву.

## Ворагі



*1952 г., Пальніцкая семігодка.*

У першым радзе другі злева  мой брат Вацлаў, вучань трэцяга класа. Я вучыўся ў апошнім.

Як і ва ўсіх падлеткаў таго часу, падкаваных школьнай ідэалогіяй, і ў нас былі ворагі: плябанішскія хлопцы ваявалі з пальніцкімі, а лукавіцкія вялі барацьбу на два франты.

У школьных торбах, акрамя сшыткаў і падручнікаў, мы насілі і камяні. І пасля заняткаў, перакрочыўшы масток

безназоўнай рачулкі, адкуль пачыналася нашая плябанішская трохкіламетровая дарога дахаты, чакалі, калі з другога боку збярэцца пальніцкая «банда». І пачыналася страляніна. На шчасце, не прыпомню, каб хто-небудзь быў сур'ёзна пакалечаны. Сінякі былі, але не болей.

Успамінаючы тыя гады, лаўлю сябе на думцы, што асабліва зацята і апантана з «ворагамі» змагаўся Вацлаў. Для мяне гэта была, нібыта спартыўная, з адрэналінам, гульня, як з куслівым сабакам, які заўсёды чакаў, калі, ідучы ў школу, паяўлюся каля яго хаты, а ў Вацлава – помста, помста да крыві, да поўнай перамогі. Ён помсціў за голад і холад.

Мінула 60 гадоў, а гульні нашага дзяцінства не зніклі. Ворагі засталіся. Амерыканцы з імі змагаюцца на Блізкім Усходзе, і ў Азіі …. Расіяне – у Чачні, Грузіі і ў брацкай Украіне, а мы (дзякуй Богу) – толькі ў сваёй хаце.

Вацлаў працаваў токарам, слесарам, электрыкам, потым аператарам Гродзенскага азотна-тукавага завода. Апошнія гады галоўным наладчыкам халадзільнага абсталявання ў харчовай галіне Гродзенскай вобласці.

Томас Альва Эдысан запатэнтаваў звыш 1000 адкрыццяў у самых разнастайных галінах тэхнікі. На жаль, Вацлаў такім глупствам не займаўся. Свае тэхнічныя вынаходкі шчыра і бясплатна раздаваў сябрам.



*Вацлаў з каляжанкамі, Гродна, 1964 г.*

## Сёмы цуд

Niech pani zmruzy mnie oczko*

*Як прыжмурыш мне вочка –*
*бачу сёмае неба,*
*бы радзіўся ў сарочцы*
*фантазыйнага Лема,*

*каб ізноў паўтарыцца*
*у святле невідомым,*
*дзе і цуд наталіцца*
*па падліках наш сёмы*

*тваёй Боскаю фішкай,*
*бо і Богу карціць*
*прычасціцца з кілішкам*
*да тваіх таямніц.*

**паваб мяне.*

## Залатыя ручкі



*Зянон – мой брат. Гродна, 1968 г.*

*Залатыя ручкі – клон зрабіць з рабра,*
*каб адлік пачаўся з цотнай лічбы два,*
*каб жыццё – званочкам, аб агонь не гас,*
*каб нашчадкі майстра не казалі: «пас».*

*Залатыя ручкі! Можа ад мядзведзяў?*
*Скуль пайшло майстэрства?*
*Хто ў каго падгледзеў?*

*Залатыя ручкі! Поспехаў, удач,*
*бо і мне казалі: «Не апошні ўрач».*

Нарадзіўся ў 1944 годзе. Дастаў ад бацькоў самы дарагі падарунак – здароўе і залатыя ручкі. І ўсё бясплатна. І партрэт мог выбіць на гранітным камені, і з пабітай імпартнай «тачкі» зрабіць цукерку, і дакапацца да прычыны заглухлага рухавіка, нафаршыраванага электронікай… На жаль, свае здольнасці не рэалізаваў. У савецкія часы гарбаціцца за капейкі не было сэнсу. Пасля развалу Саюза, калі, як нам здавалася, можна было працаваць на сябе, яго бізнес закончыўся пабудовай майстэрні для рамонту машын. У Зянона не хапіла настырнасці і цярпення ўзаконіць дзейнасць індывідуальнага прадпрымальніка. А апошнюю кропку ў гэтай справе паставіў дзяржаўны падаткавы рэкет.

## Навука выжывання



*Антон – мой брат (з нашай мамай). Нарадзіўся ў 1949-м. Памёр ад меланомы вока ў 1951 годзе.*

### Над прорвай

*Над прорваю лёсу*
*іграюць роль крута.*
*Рубель сказаў: «Досыць,*
*я сам з Галівуда».*

*Над прорваю лёсу*
*для чорнага ценю*
*навіны з калёсаў*
*прыслаў жыцця геній.*

*Над прорваю лёсу*
*(каханне ўкралі)*
*і я яго ГОСТам,*
*успомню аб Краі.*

Мама, акрамя сямі свабодных навук (рыторыка, музыка, дыялектыка, граматыка, астраномія, арыфметыка, геаметрыя), якія вывучала ў польскай гімназіі, навыдатна асвоіла і сталінскую навуку выжывання – з чатырма дзяцьмі, без мужа, без зямлі і каня.

Сёння ў шоў-бізнесе рэжысёры ламаюць галовы, як прыдумаць для маладых, дасціпных герояў экстрэмальныя варункі для выжывання на неабжытых астравах, ці ў джунглях… Мімаходзь, некалі і кіну позірк на тэлеэкран, калі мой двацацігадовы ўнучак, глытаючы слінкі, ловіць кайф ад убачанага і падумаю: вось бы ім нашу маму. На кінафэстах не хапіла б «Оскараў».

Мама ўмела ўсё: і з пераніцаванай вопраткі пашыць касцюмчыкі для дзяцей, і па выкрайках з былых польскіх часопісаў модную сукенку, пагаварыць з прафесарам, які быў падобны на конюха, і з конюхам у вобразе прафесара, і за дзесяць гадоў зарабіць з агарода трыццаць тысяч рублёў, у сорак дзевяць нарадзіць сына, і выйсці на пенсію пры поўным працоўным стажы (працавала хларатарам на водазаборнай станцыі), а ў танцах і ў спевах не адстаць ад маладых… Спявала рускія, беларускія і польскія шлягеры. У яе рэпертуры быў нават адзін габрэйскі. Не ведаю чаму, але на вясельных імпрэзах госці заўсёды прасілі пані Гэлену праспяваць апошні. У яе быў густ і да мелодыі, і да слова. Мама ўмела ўсё, акрамя аднаго – прасіць.

Мама часта паўтарала: калі Бог хоча пакараць чалавека, то забярэ ў яго розум, а калі ўсіх людзей, то аддасць іх у рукі правадыра.

## Віктар

Круты прадпрымальнік, гаспадар трох еўрафур. На бурапеннай хвалі 90-х мінулага стагоддзя, як і ўсе прадпрымальныя людзі, меў свой бізнес (купі-прадай), але найлепей у яго атрымліваўся гандаль пральнымі машынамі і камп’ютэрамі, у якіх ён уваскрашаў непрацуючыя электронныя схемы. Гэтага дабра тады хапала. Вазіў з Польшчы і, галоўнае, за капейкі. Скалаціў невялічкі капітал, якога хапіла на чуць жывую пасля аварыі еўрафуру. Давёў сваімі рукамі да адпаведнай тэхнічнай кандыцыі не толькі ў Беларусі, але і ў Еўрасаюзе. І самае асноўнае: Віктар здзейсніў мару дзяцінства – заглянуць за небакрай, каб пабачыць *terra inkognita.*

Аб'ездзіў на сваіх фурах дзесяткі краін у Еўрасаюзе і прыйшоў да высновы, што за небакраем знаходзяцца не яны, а мы.



*Мой брат Віктар (нарадзіўся, калі маме было 49).*

## Паўліна



*Мая бабуля (другая справа) – Курыловіч Паўліна Станіславаўна (1870–1941). Здымак зроблены ў ЗША ў 1904 годзе.*

З вёскі Барбарычы (каля Гожы). Дзявочае прозвішча – Боціс. У 19 гадоў выйшла замуж за мясцовага хлопца Пясцюка Пятра. Пасля шлюбу маладыя адправіліся шукаць сваё шчасце (аж на цэлых шаснаццаць гадоў) у заакіянскую Амерыку, дзе па хрысціянскім запавеце – у любові і згодзе – у 1890 годзе паявілася на свет дачушка Юзэфа, а ў 1896-м – сын Антон. У 1906 годзе вярнуліся на радзіму і купляюць у вёсцы Плябанішкі пяцьдзесят гектараў зямлі.

Пасля смерці ў 1908 годзе мужа (Пясцюка Пятра) узяла ў прымакі 70-гадовага Курыловіча Юзэфа з вёскі Вярдуба (каля Друскенік, цяпер ужо такой вёскі няма) і ў 1911 годзе з'явіўся на свет мой бацька – Курыловіч Пётр.

Гаспадыня не апошняй гаспадаркі – акультураных гаспадарскай рукой няўдобіц, луга і пераважна лесу. Да з'яўлення першых Саветаў жыла нябедна: вэнджаныя кумпякі, засоленае з духмянымі прыправамі ў пухіры мяса, галандскія самаробныя сыры, каралеўскія стронгі з мясцовай, безымяннай рачулкі, натуральны з гарчынкаю сардэчніка мёд, статак авечак, каровы, якія давалі не менш чым 20 літраў малака, коні і прыгожы, прасторны з прысадамі падворак. А «пальцам пханаю» можна было завязваць нанач ад зладзеяў вароты, якіх, дарэчы, і не было, бо калі хто крыкнуў «лаві злодзея», то за ім гналася ўся вёска.

Я яшчэ добра помню ў тысяча дзевяцьсот сорак сёмым годзе апошняга каня, што ранкам заўсёды пасвіў разам з кароўкаю, які падыходзіў да мяне малога, апускаў галаву да зямлі і цярпліва чакаў, калі ўскарабкаюся, ухапіўшыся за грыву, на яго цёплую, шырокую спіну. Заснуўшы, бывала, і падаў. Конь ізноў падыходзіў і лапушыста-цёплымі губамі дакранаўся да галавы, быццам прапануючы: «Уставай, колькі можна чакаць?» Аднаго разу здарылася нечаканае: я не падняўся – вострае дыфтэрыйнае запаленне гартані. Конь вярнуўся дахаты без вершніка. Мама ўстрывожылася. Знайшла мяне беспрытомнага. Доктар Першай гарадской клінічнай бальніцы ў Гродне дабротна зрабіў сваю справу. Неўзабаве я ізноў пасвіў кароўку са сваім дарагім сябрам.

І вельмі добра памятаю галоднае дзяцінства і людзей у чырвоных пагонах, калі ў 1948 годзе актывізавалася барацьба з бандыцкімі фарміраваннямі.

Бабуля, адыходзячы ў лепшы свет, папрасіла, каб яе пахавалі побач з першым мужам Пятром. Углядаюся ў гэты фотаздымак і ўспамінаю словы мамы: «Паўліна Станіславаўна вельмі хацела, каб і я называўся Пятром». Але, як кажуць, найшла каса на камень: мама не пагадзілася з захапленнем свякрухі, бо марыла, каб я быў не безгалосым Пятром, а польскім спеваком, як *Mieczyslaw Fogg* (1901–1990) з надта папулярнаю тады песняю: «Ta ostatnia niedzielia». (Дарэчы, удзельнік Варшаўскага паўстання – спяваў для жаўнераў у падпольных шпіталях і на барыкадах). І на самой справе, пасля хрышчэння ў мяне прарэзаўся голас і першыя два месяцы праяўляў нядрэнныя вакальныя здольнасці – гарланіў, як душа ў пекле, дзень і ноч на ўсю хату. І мая бабуля Паўліна абвінавачвала ў гэтым маю маму за яе дурны польскі густ. Так адстойваць свае пераканнанні магла толькі закаханая жанчына. Думаю, што так і было.

### Хлеб

*Як неба і воля, і голаду лямант.*
*«Калыска сюжэтаў!» –*
*ківае атрамант.*
*«Бяспека дзяржавы?» –*
*скрывілася праўда,*
*пад сверб напамінкаў з залётамі ў заўтра.*

*Дажынкавы вокліч над жніўнай палоскай,*
*дзе Нёман развёўся з апошняю вёскай?*

### Няўдобіцы

*Маўчаць залатыя няўдобіцы,*
*затузаны мудрай хлуснёй...*
*Нявестаю ім не аздобіцца,*
*не быць гаварлівай вясной.*

*Быльнёг скаваў поле здзічэлае,*
*асот ахрысціў небакрай,*
*тут душы, губляючы цела,*
*у злыдня выпрошваюць рай.*

*Тут вочы пазычыць не сорамна,*
*тут кпін і няшчырасці стык,*
*калі ў справаздачах пра ворыва*
*не месціцца ў роце язык.*

*Маўчаць залатыя няўдобіцы,*
*і ў сне, патураючы сну,*
*нявестай спяшаюць аздобіцца,*
*сустрэць у аздобе вясну.*

## На высечцы

*Будзіць не будзем памяць продкаў,*
*каб нам кіўнулі ў знак падзякі*
*за лёс лясны, што стаў кароткім*
*з навейшай меркаю адзнакі.*

*На ўчарнела-свежым полі*
*бялеюць душы сосен пнямі*
*і не узняцца ім ніколі*
*бацькоўскай шапкаю над намі.*

## Грыбны лес

*Мяшкі з цэлафану,*
*як сведкі пра час,*
*пракладкі для паннаў,*
*шкарпэткі, абцас;*

*крывая патэльня*
*і з дзюбаю чайнік,*
*пластмасавы пеўнік,*
*пажарны вяшчальнік;*

*гадзіннік, транзістар,*
*з камп'ютэра плата,*
*указы міністра*
*на будні і свята;*
*вяшчун-тэлевізар*
*з падсмаленым вокам,*

*з пабітаю пысай*
*мабільная Nokiia;*

*часопісы контры,*
*між іх баравік,*
*з разяўленым ротам*
*стары чаравік.*

*Насустрач дымок*
*уецца, як змейка, –*
*і зноў незнарок*
*з акуркам зямелька.*



*Mieczyslaw Fogg, 1937 г.*

**Цёзка**

*Бы подыум шыя,  прыціхлага хлопца,*
*званочкам Валдая сакоча дзяўчына…*
*Раблю фотаздымак у часе і кропцы,*
*кажу, што на памяць для прышлага сына.*

*Жартую: не злазь, калі села – трымайся,*
*няма незаменных пад Боскае дахам.*
*І ракурс шукаю імгнення ў вальсе,*
*каб нат папарацы зайздросна заахаў.*

*Імгненнасці часу – жывая прастора,*
*дзе час не знікае і ў вечнасць не кане,*
*са скрынкі паштовай напомніў учора*
*пра тых незнаёмцаў на фотаэкране:*

*знаёмыя твары, а побач малеча,*
*пуцёўку якому выпісвала вёска,*
*дзе ў квецені саду і жарт ціха падаў,*
*што здымак чакаю, дзе будзе мой цёзка.1*

## Рэпатрыянты

Юзэфа ў 1912 годзе ці то паблукаць, ці то знайсці сябе за мяжой выехала з Баляславам у Штаты. Маладыя з тугім кашальком і дачкой Леакадзіяй вярнуліся на вотчыну мужа ў вёску Лесніца (каля Гожы). Прыкупілі зямелькі, нарадзілі яшчэ двух сыноў – Эдварда і Аляксандра.

Жылі, як і ўсе вяскоўцы, з ранку да ночы ў гаспадарскіх клопатах. Калі пачалася барацьба з бандфарміраваннямі, мужа Юзэфы падчас «джэнтэльменскай» дыскусіі ў КДБ моцна не білі, толькі адзін раз пад дых, а калі ўпаў, яшчэ і нагой у жывот. Адпусцілі дахаты. Працаваў, пасля грэлкі і кампрэсаў боль у левым баку ўтаймоўваўся. Здавалася, што хутка паправіцца, але праз тыдзень раптам боль узмацніўся, паднялася тэмпература, вечарам пачаў губляць прытомнасць. Да доктра ў Гродна не давезлі. Пасля яго смерці трэба было вырашаць, як і куды ўцячы з некалі такога мілага і роднага куточка, дзе цяпер кожны дзень стукаецца ў дзверы непазбежнае запрашэнне на допыты.





*1910 г., вёска Плябанішкі* *ЗША, 1925 г.*

*Сястра бацькі – Пясцюк Юзэфа Пятроўна, (1890–1967), і яе муж – Галубінскі Баляслаў Стэфанавіч, (1890–1945).*

Падчас першай рэпатрыяцыі Юзэфа з дачкой Леакадзіяй і двума сынамі Эдвардам і Аляксандрам апынулася на былых нямецкіх землях, якія адышлі пасля 1945 года да Польшчы, – Еленя Гура, вёска Камарно, дзе кожны дзень прыслухоўвалася, ці не завітае былы гаспадар-немец на сваю вотчыну і скажа: «Глядзі, беражы, як сваё, і помні пра вяроўку, якую я табе астаўляю, як напамін аб нашай сустрэчы». Калі гасціў у Камарно, я бачыў той падарунак немца і нават памацаў яго на трываласць, і ўпэўніўся – фірменная: бошаўская якасць не падвядзе.

**Вызваленае жыта**

*У паклоне гасцінна,*
*запрашае нібыта,*
*ўздоўж старога гасцінца*
*гаспадарскае жыта.*

*Колас тлусты, багаты –*
*не гульня абяцанкі,*
*а пад вечар салдаты,*
*і «кацюшы», і танкі.*

*Дзень, ці два пастаялі*
*і на Захад, праз жыта.*
*Лязгам сталінскай сталі,*
*сэрца ніўкі разбіта.*

*Здратаванае поле…*
*У бялюткай сукенцы*
*бусла клёкат патольны*
*і панам, і паненцы.*

*А дзяньком перад гэтым*
*тут грымеў склюд фашыста,*
*загубіўшы паўсвету,*
*а яўрэяў – начыста.*

*На скалечаных гонях*
*агрызаўся і бахаў,*
*але жыта ў далонях*
*гладзіў доўга і плакаў.*



*Дзеці Галубінскіх (Баляслава і Юзэфы): Леакадзія (1913 – 1992), Аляксандр (1928–2011), Эдвард (1920–2004). Вёска Лесніца, 1938 г.*

## Звон



Пра звон, ахвяраваны за свае грошы Гожскаму касцёлу ў 1907 годзе, Галубінскім Сарафінам (родны брат бацькі Галубінскага Баляслава), я даведаўся ў 1967 годзе ўжо ад хворай на анкалогію цёткі Юзэфы, калі яна цягам двух тыдняў жыла ў нас у Гродне з надзеяй адшукаць дзейснае лячэнне ў анкалагічным дыспансэры. Паводле яе ўспамінаў, у Сарафіна Галубінскага (нар. 1845) быў раман з вельмі прыгожай дзяўчынай, якая мела дачыненне да падзей 1863–1864 гадоў. Пасля арышту яна бясследна знікла, і Сарафін усё жыццё лічыў сябе вінаватым у гэтай трагедыі. Магчыма, і ён прымаў удзел у тых вусцішных перапрусах, бо пасля, калі пачалося паляванне (па сучаснаму зачыстка) на ненадзейныя элементы грамадства ў Паўночна-Заходнім краі, уцёк у Пецярбург. Вырашыў, што там не знойдуць. І не памыліўся. Гістарычных даведак, хто і дзе з Гожскага староства ўдзельнічаў у паўстанні ў літаратурным (а цяпер і інтэрнэтным) сеціве я не знайшоў.

У 2011 годзе праўнук Сарафіна Галубінскага (Галубінскі Уладзіслаў Альфонсавіч, 1944 года нараджэння) адкапаў у Гродзенскім архіве звесткі пра той падарунак Сарафіна Гожскаму касцёлу. Але невырашаным застаецца пытанне. Навошта Сарафін у Пецярбургу памяняў прозвішча Галубінскі на Сарока-Галубінскі? Дарэчы, Сарокі – гэта мянушка Галубінскіх, кшталту, як у Забароўскіх (суседзі) – Андаровыя. Лагічна не лезе ні ў якія рамкі задумка сталага чалавека ўвекавечыць званом проста так усіх памерлых у Гожскай парафіі, а калі і так, то ў гэтай справе ён быў першы і пакуль апошні.

Сёння, праз 150 гадоў, немагчыма заглянуць у душу тагачасных туземцаў. Што шукалі? Добраахвотна набіць морду маскалям, якія забаранялі спяваць польскія песні, а з каталікоў рабілі праваслаўных? А можа змагаліся за Канстытуцыю 3 мая 1791 года, якая праз тры гады жыла толькі ў настальгічнай легендзе? Ці тут дух ліцвінскі, тут Litwo пахне? А хутчэй за ўсё было пакліканне: за нашу і вашу вольнасць.

На жаль, успаміны цёткі Юзэфы пра лёс не апошняга чалавека на нашай пакутнай зямельцы застаюцца толькі адным радком у маім аповедзе. Застаўся звон як памяць, непадуладная забыццю. У дадак да сказанага, стараннямі дружнай сям'і Галубінскіх, а найперш Уладзіслава, звон цяпер абслугоўваецца сучасным тэхнічным абсталяваннем.

### Ошмянская масакра
### 1863 год

*Ой, не ждал такой недоли*
*Калиновского крест тяжкий:*
*загулял, как ветер в поле,*
*свист российской, острой шашки*

*на безвинных, что в костёле,*
*под крылом Святой Марии,*
*и не верит Божьей воле*
*смерть казацкой эйфории.*

*На штыках (кровавой сцены)*
*только голос деток дикий –*
*о святые бьются стены*
*неуслышанные крики.*

*И агонией, да жгучей,*
*будто в бездну тонут звуки,*
*где кровавою онучей*
*вытирает воин руки.*

## Заразная хвароба

*Плявузгаць вучылі бяскосны  язык*
*яшчэ пры ссівелым старым фараоне –*
*брашы колькі хочаш (і час той не знік)*
*для ўласнае думкі і жонцы на троне.*

*Святое святым, а як грэшнаму – «воля»,*
*дзе парастак крушні кон ставіць на сонца.*
*Праз дзіркі аддушын (ні каліва болей)*
*з  «Мужыцкаю праўдай» блукаў яе творца*

*лукішкінскім пляцам імперскае Вільні,*
*з вяроўкай, як лек, ад заразнай хваробы,*
*што канула ў Лету у век наш стэрыльны*
*пад пільным наглядам Іосіфа-Кобы.*

## Голас

*Не ў дажынкавых гульнях знік*
*на прасторах Літвы і Жмудзі,*
*дзе Пагоня здала залік,*
*а з Купаллем – яшчэ і людзі.*

*Не ў разборках сучасных знік,*
*дзе фартунна меняе ролі*
*без прадмовы апошні крык,*
*бы вайною, на мінным полі.*

*Не ў палёце да зорак знік,*
*хоць ірваўся не раз адчайна –*
*як забіты да плешкі цвік,*
*таямніца кухоннай стайні.*

*Запарошанай сцежкай знік,*
*бы гарою, што ціснe плечы,*
*дзе сінайскі здаваў залік*
*пры Іосіфу Сын чалавечы.*

## Мой дзень

З нагоды 150 – й гадавіны паўстання 1863 года

*Мой дзень яшчэ тут, не спяшае на неба,*
*яшчэ без аскомы яго мазалі,*
*яму прымяраюць касцюмчык ад Лема*
*у штатным рэжыме з панчохі нулі.*

*Асфальтны гаёвы стрыжэ за купоны*
*дарогу праз Гожу засадна і плодна,*
*якая у час каралевічаў Боны*
*з Городняй і Вільняй віталася конна.*

*А коніка з Гожы дастаў  досціп цмока*
*казырным выслоўем уласнай гадоўлі,*
*які называе, прыжмурыўшы вока,*
*ўгодкі Паўстання разборкай аглоблі.*

## Фермер



*Брат бацькі (1896 – 1959), Пясцюк Антон Пятровіч, 1904 год, ЗША.*

Антон з 1928 года – арандатар фермы ў Англіі. На жаль, здымкаў, зробленых там, няма. Пасля вызвалення Беларусі ад польскіх паноў ён іх спаліў. Вярнуўся ў Плябанішкі да 1939 года.

Ажаніўся з плябанішскаю красуняй – Юляй Пятроўскай. Пабудаваў пякнейшую ва ўсёй вёсцы хату, адрыну і хлеў з механічнымі прыстасаваннямі для працы з жывёлай. Нестандартны пчаляр – гаварыў з пчолкамі на ангельскай мове. Мой першы настаўнік па шахматах, і не без яго навукі, падчас службы ў войску, я без асаблівых цяжкасцей адпраўляў у накдаўн нават першаразраднікаў. Заядлы паляўнічы. Дасканала знаў звычкі ваўкоў, дзікоў і лісіц, якія ў той час валадарылі не толькі на сваёй вотчыне, а і на гаспадарскіх сядзібах. У дзядзькі Антона з імі была нейкая дыпламатычна-кансэнсусная патаемная дамова – плябанішскім гаспадарам яны шкоду не рабілі.

У канцы дзевяностых мінулага стагоддзя, калі я захварэў пчалярствам, неяк заглянуў у яго асірацелыя, нікому не патрэбныя вуллі і наткнуўся на скарбонку з пісьмамі дзядзькі, а яшчэ і на ўнікальную кармушку-паілку для пчолак, з дапамогай якой іх можна карміць і паіць непасрэдна ў гняздзе. Гэта вельмі важна ў канцы зімоўкі, калі рубам стаіць пытанне: а ці застаўся мёд на сотах, і ці вытрымаюць тыдзень, а, можа, і два да вяснавога аблёту, а надвор’е не дае візітнай картачкі на знаёмства з іх жытлом. Кампактная, маленькая кармушка, у якую вадкі харч падаецца цераз трубачку з герметычна закрытага ёмішча, якое не кантактуе з пчолкамі і даступнае пчаляру пры любой пагодзе. Узровень вадкага корму рэгламентуецца апетытам пчалінага царства. Калі кармушка пустая, у герметычную пасудзіну паступае паветра і кармушка ізноў напаўняецца сіропам.

За дваццаць гадоў пералапаціў мора літаратуры па пчалярстве, пастаянна адсочваю навінкі на форумах і ў гандлі, але нічога падобнага на ноў-хаў дзядзькі Антона не бачыў. Дарэчы, вельмі простае прыстасаванне, яго можа зрабіць і вучань чацвёртага класа.

За маю дваццацігадовую практыку не загінула ад галадамору ні адна пчаліная сямейка. Доктарская дысертацыя па пчалаводству. На жаль, што ёю карастаецца толькі адзін пчалавод у маёй асобе. З дапамогай яго кармушкі можна не толькі паставіць дыягназ, падказаць пчолкам месца на сотах, дзе яны збяруцца на зімоўку, але правесці і лячэнне, не заглядваючы ў іх жытло.

З 1948 года дзядзька Антон з дачкой Леакадзіяй – вязні ГУЛАГаў. Бацька ў Варкуце, дачка ў Казахстане.

Дзядзька Антон! Не квапіўся на чужое і цаніў сваё. Нікому не залез за скуру. Пра такіх людзей былыя гулагаўцы гаварылі: «Цвёрда трымаўся юнак на дапросе». І на самай справе – мог жа застацца ў хаце, з сям'ёй. І патрабавалася зусім нямнога: супрацоўніцтва ў выяўленні «ворагаў народа». Дарэчы, ніхто з нашай вёскі, ды і з іншых, не прадаўся за трыццаць сярэбранікаў. Гінулі, а стаялі на сваім – за праўду, за чалавечую годнасць. Дзядзька Антон не смерці баяўся – баяўся загінуць бясследна. Я яшчэ і сёння добра помню спавядальна-балючы сум хворага дзядзькі Антона: «Самае страшнае – застацца без магілы. Пад шпаламі. Без крыжа». Дзядзька Антон аказаўся за мяжой гэтага свету цераз год пасля стаханаўскай вахты на варкуцінскіх шахтах.

**Запавет дзядзькі**

*Палажыце ў зямельку, якую араў,*
*якую пры Нёмане песціў,*
*палажыце ў зямельку, што Бог мне паслаў,*
*а склюд бальшавіцкі закрэсліў.*

*Палажыце ў зямельку не здзейсненых мар,*
*дзе ў небе жаўрук летуценіў,*
*хай патушыць спякотны пажар,*
*што гарыць для людскіх пакаленняў.*

*Палажыце ў зямельку, якую не меў*
*па ўказу, патрэбнаму ўладзе,*
*палажыце ў зямельку, якую прыгрэў*
*і хаваў ад людзей на пасадзе.*

**Дзядзькавы пісьмы**

*Скарбонка – дзядзькаў скарб*
*(пчалярскі, пасля смерці),*

*яго і дзявочых мар,*
*якіх тугой не сцерці.*

*Чытаю іх раман –*
*пад сілу мо  паэту –*
*о Божа, які дар,*
*на жаль, не ўбачыў свету:*

*раі́ліся лісты*
*і рáіліся пчолкі –*
*як  навядзём масты*
*паміж канцоў вясёлкі?*

*І ўдзячнаю гатоўкай*
*пад адгалосак гулкі*
*адкрылася засоўка*
*да смачнай з мёдам булкі.*

## На пахаванні

*Аставіў сад, вуллі і хлеў,*
*адрыну, хату, ліпаў кроны,*
*людзей гавэнду – што сядзеў,*
*што не таму даў пахвалёны,*

*што пекла пеклам называў,*
*а чорта  з хіжымі рагамі,*
*калі ў ГУЛАГах паміраў,*
*не зблытаў з нашымі багамі.*

*Гавэнды звон, як заклінанне,*
*і вецер хвошча, нібы пугай...*
*Іду  да дзядзькі на спатканне*
*пагаварыць з яго заслугай.*

# АКаўцы



*Дачка дзядзькі Антона – Пясцюк Леакадзія (Лёдзя) Антонаўна з мужам Генадзіем і сынамі. Казахстан, г. Чурбан-Нура, 1960 г.*

Леакадзія, 1927 года нараджэння – гэта амаль адзіная гераіня таго часу, якая «справядліва» адспавядалася за акаўскі грэх ( а можа толькі за тое, што нарадзілася ў «бандыцкай» вёсцы Плябанішкі) у казахстанскай «Даліне смерці» пасля вызвалення Гродзеншчыны ад немцаў.

Нядаўна па тэлебачанні са спадарожнікавай антэнай бачыў тэлевізыйнае інтэрв'ю Леакадзіі пра тыя жудасныя падзеі. Мякка кажучы, быў здзіўлены яе патрыятычнымі матывамі і ў мяне склалася ўражанне, што таму журналісту, які інтэрв'юіраваў, вельмі хацелася прыўнесці ў яе шчырую споведзь пафасную афарбоўку. Атрымаўся артадаксальны, рытарычны польскі патрыятызм пра АКаўцаў, кшталту беларускага – пра Валянціна Таўлая і Сяргея Прытыцкага. Я з ёй сустракаўся, калі прыязджала на вотчыну бацькоў у васьмідзесятых мінулага стагоддзя. Успаміны, вядома ж, былі: пра забойча-скрутныя допыты, пра галгофныя пакуты ў ГУЛАГах… Толькі ў тых успамінах ніколі не было і слова пра патрыятызм.

Яе мама Юля аднойчы ў размове з маёй вынесла свой апраўдальны і абвінаваўчы вердыкт і мужу, і дачцы: «Антак (яе муж) сядзіць нізашто, а Лёдзя за сваю дурноту – утрэскалася ў ляснога хлопца і бегала да яго на сустрэчы. І ўсе мае ўгаворы, каб кінула яго, што аб сцяну гарохам».

Пасляваенныя гады вёсак Гожскага сельсавета – жыццё, як на парахавой бочцы. Ноччу, калі не адчыніш дзверы – спаляць, а адчыніш – накіруюць у лоб стрэльбу і ні ежкі, ні адзежкі, голы як сакол. Данясеш – забяруць на допыты і там ужо абавязкова ўспомніш і імя, і прозвішча таго рабаўніка, якога раней ніколі і не бачыў. Сярод тых галодных хлопцаў былі не толькі АКаўцы (*парэшткі Арміі Краёвай пасля няўдалай аперацыі пад Вільняй*), але і свае, што хаваліся ў лесе, калі іх пасля 16 ліпеня 1944 года пачалі забіраць у савецкае войска ваяваць з немцам, ці на прымусовыя працы ў шахты Данбаса. Не выключана, што сярод іх былі і рамантычныя Робіны Гуды, якія помсцілі бальшавіцкім рабаўнікам, што экспрапрыіравалі ў іх зямлю і маёмасць. (З трох снапоў польскі пан забіраў у гаспадара трэці, немец – паўтара, а саветы – два, але і панскі трэці не заўсёды гаспадару пакідалі). А днём «лапанкі» (*так мясцовыя людзі называлі нкусаўскія аблавы з татальным вобыскам*) – і выцягваюць з хат, як бараноў са статка, самых здаровых і моцных мужыкоў, якія пасля знікаюць на доўгія гады бясследна, без права перапіскі. У 1949 годзе генеральная зачыстка «бандыцкіх» вёсак Гожскага сельсавета па загаду партыі і ўрада была паспяхова і датэрмінова выканана. Ужо даўно падпісаны ўсе дамовы паміж Рузвельтам, Сталінам і Чэрчылем. Але гэта для дасведчаных, а для недасведчаных кожны дзень па трафейным радыё (*а пасля і па сарафанным*) голас «праўды»: «Палякі, трымайцеся, мы з вамі. Амерыка і Англія хутка пакончаць раз і назаўсёды з кацапамі. На Каляды падзелімся аплаткам, а велікоднае яечка кожны будзе есці са сваёю сям'ёй».

Гавораць, што злачыннасць не мае нацыянальнасці. Бальшавікі з гэтым не пагадзіліся – злачынцамі і быдлам зрабілі ўвесь народ былога Саюза. У немцаў хапіла розуму паспавядацца і папрасіць прабачэння і за Асвенцымы, і за Халакост… Бальшавікі, як спадкаемцы Івана Жахлівага, змагара за збіранне спрадвечна рускіх зямель, бязгрэшныя, быццам ніколі і не было «турмы народаў», ГУЛАГаў, Курапатаў, Катыні, жалезнай заслоны, і дваццацігадовага застою. А палякі наогул – анёлы.

Не хачу пакрыўдзіць ні ў чым не вінаватага простага рускага чалавека, які быў яшчэ ў горшым становішчы, але ў той час кацапы, бальшавікі і саветы асацыіраваліся найперш з людзьмі рускай нацыянальнасці, якія з прафесійнай крывадушнасцю перавыхоўвалі польскага «пана»: «Не умеешь – научим, не хочешь – заставим», і да таго ж з артадаксальнай балбатнёю пра светлую будучыню, з ваяўнічым атэізмам і дзяржаўнай ідэалогіяй у школах – пра адвечна рускія заходнія землі, якія некалі захапілі польскія паны. Імі пужалі дзяцей: «Калі будзеш непаслушны, цябе забярэ бальшавік». І не было большай ганьбы, чым сказаць чалавеку за дрэнны ўчынак: «Ты, што – кацап?» Але «найгоршае», што яны зрабілі: у Пальніцкай школе пачалі вучыць дзетак на «хамскай» мове, якраз на той мове, на якой гаварылі ўсё жыццё іх каталіцкія дзяды і бацькі – стоадсоткавыя палякі. Для некаторых сем'яў гэта быў жах. Я ведаў тры такія сям'і, якія сваіх дзяцей у «хамскую» Пальніцкую школу не пусцілі. Нешта падобнае адбываецца і сёння, і не ў трох сем'ях, а паўсюдна. Праўда, трэба ўзяць пад увагу адну акалічнасць: дзяржаве родная мова не патрэбная.

Для таго АКаўца Леакадзія была сувязной. Ці мелі якое-небудзь значэнне яе «стратэгічныя» звесткі пра дыслакацыю старшыні калгаса, старшыню сельскага савета, участковага міліцыянера? Яны і без яе наводкі з Янака Забароўскага з вёскі Лесніца, які паехаў зімою ў дровы, здзерлі кажух і боты, і крамы паспяхова адкрывалі ноччу ўласным ключом, пакідаючы на развітанне фірменную цыдульку: «Супраць лома няма прыёма». А ў Прывалцы ў «аргументацыйным» спаборніцтве – дамагчыся ўзаемнасці ад маладзенькай настаўніцы, якую прыслалі з Расіі ў Прывалкаўскую школу, яе заступніка, дваццацігадовага хлопца Уладзіслава Пелуця адправілі на той свет. Была і кроў ні ў чым не вінаватых кіраўнікоў мясцовай улады.

Безгаловыя хлопцы, ахвяры палітычных гульняў саюзнікаў Сталіна, калі ўжо была пастаўлена апошняя кропка па разделу Еўропы. У іх не было выбару: загінуць у катаваннях на допытах, ці, адыходзячы ў нябыт, прыхапіць з сабою яшчэ аднаго рабаўніка ў пагонах. Жывымі яны не здаваліся.

Людзі вайны – людзі з дэфармаванай псіхікай: у 1948 годзе былы франтавік, работнік Пальніцкай бібліятэкі вырашаў свае неадкладныя сексуальныя праблемы з плябанішскай недаступнаю семнаццацігадовай «панскай палячкай» нажом, а ў 1950 годзе НКУСаўцы везлі на возе цераз усю вёску знявечанага,

акрываўленага, яшчэ жывога, «бандыта-АКаўца». Каб бачылі, каб баяліся. Адзін да аднаго, як гэта зрабілі немцы ў 1943 годзе: забітых хлопцаў і дзяўчыну (*плябанішская дыверсійная група, якая пусціла ў расход кіраўніка Гожскай гміны*) цягнуў за ногі па дарозе цераз усю вёску нямецкі самаход. Глядзіце! І з вамі таксама будзе. Каля нашай хаты, дзе мама галасіла над забітаю дачушкаю, спыніліся. Трупы забітых адвязалі. Падышоў нямецкі афіцэр. Пастаяў. Пасля, паклаўшы руку на яе плячо, сказаў: «Война, матко, война». Напэўна, смерць ні ў чым не вінаватага дзіцяці абудзіла ў іх мазгах нешта чалавечае.

Лёдзю тры месяцы трымалі ў камеры-адзіночцы, як жывую сведку, для апазнання забітых АКаўцаў і мясцовых «бандытаў» і вадзілі на гэтыя апазнанні як на працу. І за ўвесь гэты час Лёдзя анікога «не апазнала», бо добра ўсведамляла – па радаслоўнай лініі перасадзяць усіх аж да сёмага калена. І кожны раз «за не, не знаю» за валасы і галавою аб сценку. Дужыя, здаровыя мужыкі, якія «калолі» не аднага «крутога бандыта» не маглі справіцца з кволаю, хударляваю дзяўчынай, якая не была патрыёткай памерлай Радзімы, што пасля Пілсудскага ачолілі не самыя разумныя і лепшыя, а проста верыла ў Боскую запаведзь – не рабі крыўду людзям.

Аднойчы пазнала і дваюраднага брата-дэзертыра і таго АКаўца, якому верыла, як сабе. Згубіла прытомнасць. У той час не было дэтэктараў хлусні і ёй паверылі, што баіцца крыві. Гэта быў яе апошні дзень на гродзенскай зямлі. Пасля пачалася доўгая дзесяцігадовая дарога па казахстанскіх ГУЛАГах. Дарэчы, успаміны Лёдзі – гэта і танюткая нітачка для тых, хто шукае астанкі сваіх родзічаў, якіх забілі НКУСаўцы, як АКаўцаў, дэзертыраў і ўцекачоў ад прымусовых прац. Да сённяшняга дня няма аніякіх звестак аб месцы іх пахаванняў. Дачка солтыса Мікодыма Майсея з Плябанішак – Гэля Кіндзерская дзесяць гадоў безвынікова абівала парогі чыноўнікаў сучаснай Феміды, каб паказалі магілку бацькі.

Углядаючыся ў фотаздымак, лаўлю сябе на думцы – Лёдзя знайшла сваю мару. І, калі б Бог дазволіў ёй паўтарыцца, напэўна, нічога ў яе лёсе не змянілася б.

Мяркую, што супрацоўніцтва яе з АКаўцам – гэта дзявочы рамантызм, але былі і больш празаічныя кантакты. Я ведаў дзве сям'і з вёскі Азяркі, якую высялілі ў шасцідзесятых мінулага стагоддзя для патрэб вайсковага палігона. Заможныя гаспадары – у аднаго дзесяць, у другога пятнаццаць гектараў зямлі, пераважна

лесу. У аднаго быў тартак, у другога крама. У гаспадара з тартаком пасуцца савецкія партызаны, гаспадар з крамай корміць АКаўцаў. За некалькі дзён да вызвалення Гродна да гаспадара, які меў стасункі з савецкімі партызанамі «завіталі» на машыне немцы. На пытанне ў лоб:

– Дзе знаходзяцца партызаны? – бацька сямейства адказаў адмоўна, маўляў, што нічога пра іх не ведае. Тады немец, які добра гаварыў па-руску, нацэліўшы аўтамат на дзяцей і яго жонку, дабавіў:

– Выбірай, ці яны, ці твае камуністы, якіх ты корміш?

І гаспадар тартака даў згоду паказаць ім партызанскае жытло. Папрасіў толькі памаліцца. Дазволілі. Згаварыў «Ойча наш…», а пасля, ўкленчыўшы перад абразом Бажай мацеры, выдыхнуў апошнюю просьбу:

– Святая Марыя, зрабі ўсё не так, як я хачу, а як ты хочаш.

З мокрай шчакою пацалаваў дзетак і абняў жонку, якая загаласіла, моцна трымаючыся рукамі за яго плечы. Прыклад аўтамата завяршыў зацяжное развітанне. Дзеці засталіся ў хаце з беспрытомнаю матуляй з акрываўленаю галавою, а ён з карнікамі рушыў да лесу. Апісаў пятлю каля партызанскай зямлянкі, «паслужліва» ламаючы сухія сукі на дрэвах, што заміналі немцам пралезці з мінамётам, наўмысна галосна папярэджваў: «Асцярожна, тут можна праваліцца ў забалочаную яму». Відавочна, чакаў і верыў у моц партызанскага кулямёта (бо ведаў, што маюць і яго чуюць), калі пачнуць з засады хрысціць немцаў. Не дачакаўся. А калі праз нейкі час прывёў карнікаў да партызанскага лагера, там ужо нікога не было. Немцы хутка зразумелі, што маюць справу з «Сусаніным». Расстралялі. І, вяртаючыся праз вёску ў Гродна, забаранілі вяскоўцам яго хаваць. Відавочна, у іх не было часу на хуткую расправу з вяскоўцамі: грукат кананады за Нёманам, ды і лес вакол з партызанскім вокам.

Хавалі яго пасля вызвалення Гродна ад немцаў на Гожскіх кладах з вайсковымі ўшанаваннямі. Савецкія следчыя хутка знайшлі і «крата», які здаў немцам супрацоўніка савецкіх партызанаў. Ім аказаўся гаспадар з акаўскай арыентацыяй. Не расстралялі – трупаў было многа, а ў гулагаўскіх рудніках рабочых рук не хапала.

А ў канцы пяцідзесятых мінулага стагоддзя жонцы застрэленага немцамі гаспадара прыйшло з Масквы запрашэнне ў якасці сведкі на суд над сапраўдным кратом, які быў у 1944 годзе чальцом

савецкай партызанскай групоўкі ў вёсцы Азяркі і здаў немцам свайго карміцеля. Аб тых падзеях з патрыятычным размахам пісала «Праўда». Пра таго, што цягнуў гулагаўскую  лямку – ні слова.

Ці па ўласной волі памагалі людзі партызанам? Праз трыццаць гадоў я задаў гэтае пытанне былому гулагаўцу, што дзяліўся харчам з АКаўцамі, калі ён прыехаў з Польшчы на сваю вотчыну і завітаў да майго бацькі.

– І так, і не, – адказаў ён, гледзячы ў акно, быццам і не мне, – я ведаў, што і АКаўцы, і савецкія партызаны супраць немцаў. Спадзяваўся, што пасля  вайны тут будзе ўсё так , як і раней пры Польшчы. Жонка будзе гандляваць у краме, а я з сынам буду вазіць да суседа на тартак свой лес, нядрэнна зарабляючы на будаўнічых матэрыялах. – Задумаўшыся, быццам успамінаючы  нешта важнае і галоўнае, дабавіў:

– Самае страшнае, калі ўладу бярэ ў рукі чалавек са  стрэльбаю. Немец, заблукаўшы ў нашую забытую Богам вёску, за непадпарадкаванне мог і расстраляць, і ў турму адправіць, а гэтыя хлопцы толькі ў Вечнасць.

– А ці думалі вы тады, што  вас пасадзяць?

– А за што? – упэўнена адказаў ён. – У мяне быў на батарэйках радыёпрыёмнік. З радыёвяшчання саюзнікаў Сталіна я ведаў аб барацьбе польскіх патрыётаў з Гітлерам. Я і сам, каб мог, задушыў бы таго Гітлера. Аб тым, што АКаўцы аказаліся ворагамі саветаў, я даведаўся толькі тады, калі мяне арыштавалі.

У наш час, калі ідзе вынішчэнне нацыянальнай беларускай свядомаці шляхам татальнай русіфікацыі, крэсаўскія АКаўцы, што ваявалі з фашыстамі і бальшавікамі – гэта толькі разменная карта ў інфармацыйнай барацьбе за  Беларусь, як апошні фарпост Расіі на заходнім накірунку. Сёння, каб атрымаць карту паляка трэба абавязкова ведаць вершык: «Kto ty iesteš? Poliak maly. Iaki znak twuj? Ožel bialy» А для Расіі і карты не трэба – там ўжо дзвесце дваццаць гадоў дакладна ведаюць, хто мы такія.

Мяркую, што АКаўцы маюць права на годнае ўшанаванне іх памяці, як змагароў з крыважэрнымі і рабаўнічымі рэжымамі  і нацыстаў, і бальшавікоў. І не трэба сеяць праз сіта іх учынкі. Калі рабіць гэта без двайных стандартаў, то і на савецкіх партызанах, загінуўшых у Другой сусветнай вайне, будзе таксама нямала плямаў.

І да сённяшняга дня не пастаўлена кропка ў гэтай справе, як і ў двухсотгадовай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага і, наогул, усходніх славян: не страшна забіць – страшна, калі аб гэтым даведаюцца. Нядаўна па тэлебачанні паказалі былых афіцэраў пад блакадным Ленінградам – пісьменніка Данііла Граніна і былога канцлера ФРГ Гельмута Коля. Жывыя сведкі таталітарных рэжымаў. Адкрытая споведзь, без таямніц. А мы іх хаваем. У касцёлах і цэрквах спавядаемся, просім у Бога прабачэння, і Ён чуе, прабачае, толькі чамусьці нас не вучыць быць разумнейшымі і ў жыцці, і ў пошуках нацыянальнай ідэі. У палякаў – гэта мова, у расіян – дух Івана Грознага, а ў нас – чарка і скварка.

Каб мая воля, я бы ўсім змагарам за нашу Бацькаўшчыну паставіў помнікі за іх заслугі з надпісамі:

Першы – Мікодыму Майсею, солтысу, які цаной свайго жыцця выратаваў ад нямецкай масакры пад сотню плябанішскіх жыхароў.

Другі – плябанішскім дыверсантам, што забілі каля вёскі немца, каб гэтыя Плябанішкі з іх жыхарамі спалілі немцы.

Трэці – «лясным братам» (*і АКаўцам, і мясцовым «бандытам»*) за тое, што шчыра змагаліся з таталітарнымі, крыважэрнымі рэжымамі двух нетравіяльных псіхапатаў і Гітлера, і Сталіна, якія зрабілі з людзей дзікунскае быдла. А можа і не змагаліся – проста хацелі жыць і не адно дзесяцігоддзе чакаюць, калі неабыякавыя да гісторыі юныя следапыты знойдуць яму, у якую іх сапхнулі бульдозерам і зраўнялі з зямлёю.

Чацвёрты – НКУСаўцам за тое, што паспяхова і датэрмінова выканалі загад партыі і ўрада па вынішчэнні інтэлектуальнай эліты беларусаў, і па адпраўцы працаўнікоў (і па колькасці, і па якасці) у гулагаўскую імперыю на неабжытыя прасторы Расіі.

Пяты – кіраўніку-немцу Гожскай гміны, які адлупіў майго бацьку за тое, што ціснуў негатунковую (з метылавым спіртам і сівушным маслам) вогненную ваду з жыта.

І апошні – апошняму генсеку за тое, што даў «дабро» паставіць гэтыя помнікі.

** * **

*Свет з грахом назаўжды*
*пад праменнем астральным.*
*Зямлю мыюць дажджы,*
*стаўшы нібыта пральняй.*

*І не могуць дажджы*
*адмыць подласць ад страху*
*калі хочацца жыць,*
*калі цягнуць на плаху.*

***

*Пяшчотныя мроі трасцінкі*
*гулялі ў водары дзьмушак –*
*семнаццаць гадкоў для дзяўчынкі*
*ляцелі пад водгукі птушак.*

*Гарэзлівы голас, як пошчак,*
*яе ўпрыгожваў арэлі,*
*спаднічку з карункавай прошвай,*
*і вочкі, што страсцю гарэлі.*

*На першую мару спаткання*
*глядзелі даверліва вочы:*
*прыйшло да дзяўчыны каханне*
*пад спеў салаўя да паўночы.*

*Калі алтары ў аздобе –*
*нядзелькі будзённая праца, –*
*антыхрыст пры зорцы на лобе*
*дзяўчыне прыйшоў спавядацца.*

*А потым тры чорныя раны,*
*сінечай зашклёныя вочы,*
*дзе знік той адзіны, абраны*
*на коніку рыцар дзявочы.*

*Нат Богу пра здзекі спрадвеку*
*вачэй не адкрыеш, як карту,*
*не скажа й дзяўчына пра гэта,*
*што стала ахвяраю гвалту.*

## Лапанкі

*Праз поле крадзецца поўнач,*
*няўлоўна, як воўк лахматы,*

*страхам сутонне поўняць*
*сабачыя енкі ля хаты.*

*Прысадны хвайняк ускрай балота*
*спагадзе застацца дазволіў,*
*акенца адкрыўшы за плотам*
*з сумненнаю сцежкай да волі.*

*Стаўкі стравянелі сівыя*
*смяротна-цяжкімі грахамі.*
*Сабакі заходзяцца, выюць*
*і плацяць даніну гарбамі.*

*А зорка з хвастом чарцянят*
*чакае прышэсця народзін*
*студзёных, азяблых Каляд*
*у некалі мілай гаспoдзе.*

*Аб вёсачцы, з памяці сцёртай,*
*і сёння завеса сакрэту:*
*як лапай жалезнай і цвёрдай*
*зжывалі «бандытаў» са свету.*

***

*На Захадзе – Асвенцім,*
*на Усходзе – Курапаты,*
*саветаў лупяць немцы,*
*саветы – хто багаты.*

*Праз жупельнае сіта*
*Сібіры, Казахстана*
*прасейваюць «бандытаў»*
*з варожага ім стана.*

*А тым, хто жыў нягегла,*
*другі быў ціск абцаса:*
*ляпілі з моднай цэглы*
*падмурак для калгаса.*

*Яшчэ быў звон Катыні –*
*сакрэт самых сакрэтаў,*
*дымок тэрору сіні*
*на вотчыне Саветаў*

*і шлях адукаваных*
*з канцом магільнай сцежкі;*
*яшчэ дэпартаваных,*
*дзе зніклі нават рэшткі;*

*пасля – жыццё застою*
*за ленінскую справу.*
*Нікчэмнае, пустое*
*з тугой жыць на халяву.*

## Апошні баравік



*Спадкаемец дзядзькі Антона – Пясцюк Эдуард (Эдзік) Антонавіч. Пчаляр, мыслівы, а для тых, чыя пуцявіна пачыналася з Плябанішак, Эдзік – гэта татэмна-абярэгская постаць у трох асобах: і захавальнік традыцый, і найменне вёскі, і яе апошні жыхар.*

*– Замачу, хто б не быў*
*па мячу ці кудзелі, –*
*грыбнік лесу трубіў,*
*што спаў стойма ў пасцелі.*

*Востры нож, як Батый,*
*высякае пад корань.*

*Немаўляткі-браты*
*нарадзіліся ўчора*

*і з апошняй грыбніцы,*
*трохгадовай па мерцы,*
*каб з дзяцей нарадзіцца*
*і ў вяках не памерці.*

*Райскі кут не пустуе:*
*узамен шчырых паганка,*
*мухаморы, як туі –*
*грыбнікам досвед ранка.*



*Дачка дзядзькі Антона – Пясцюк Генаэфа (Гэня) Антонаўна, жонка былога зэка з вёскі Лесніца – Забароўскага Янака, якому ўляпілі 10 гадоў за тое, што «падараваў» лясным братам кажух і боты, калі паехаў зімою ў дровы.*
*У тысяча дзевяцьсот сорак восьмым годзе, падчас барацьбы з бандыцкімі фарміраваннямі, дванаццацігадовая Гэня засталася з хворай мамай (траўма пазваночніка) і малодшым братам Эдзікам на волі – з курачкамі, соткамі і плугам без каня.*

## Лебедзі




*Лебедзь Фэліцыя і яе муж Уладзіслаў, вёска Грандзічы, 1969г.*

Сваячка па кудзелі: яе мама Марыя і мая бабуля Паўліна – родныя сёстры.

Цётка Фэля ездзіла з Уладзіславам на заробкі ў Францыю. Хата, адрына і хлеў, збудаваныя за заробленыя грошы, яшчэ захаваліся (цяпер гэта Гродна, вуліца Грандзічская), але на двух гектарах іх кроўнай зямелькі цяпер стаяць катэджы новых беларусаў (былыя знакавыя асобы савецкіх і партыйных органаў), якія пабудавалі іх за сваю больш чым сціплую зарплату падчас бурапеннага вэрхалу дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя. Трэці гектар (нядаўна прачытаў у «Вячорцы») гарадскія ўлады выставілі на аўкцыён па тысячу баксаў за сотку.

Як ні дапытваўся ў сваёй французкай цётачкі, за што яе і мужа пасадзілі (з 1948 года – вязні ГУЛАГаў), – адказу не атрымаў. Толькі аднойчы іх сусед, дасціпны і вясёлы мужык Пётр Рапейка, які быў сведкам іх арышту, мне сказаў: «За тое, што Уладзіслаў не там паставіў патэльню». Мажліва, гэта была яго выдумка, але ж нешта было падобнае і на сапраўдную праўду. Сабраліся гэтыя Лебедзі адзначыць дзень народзін цёткі Фэлі. Паклікалі і дасціпнага Пятра Рапейку. Сядзяць і кайфуюць. Заходзяць НКУСаўцы і пытаюць:

– Чаму не на працы?

– Дык дзень народзін,– адказвае Уладзіслаў.

– Чый дзень народзін? – пытае НКУСавец. А гэты «юдаш» Пятро – зырк на газету з партрэтам Сталіна, на якім стаяла патэльня з яечняй і чытае пра юбіляра, які якраз нарадзіўся ў адзін дзень з цёткай Фэляй і, падняўшы патэльню, з гонарам заяўляе:

– Як чый, вось самога Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна.

– Гэта добра, што паважаеце Іосіфа Вісарыёнавіча, але не бачу яму падарунка, – з усмешкай адказаў НКУСавец. – За тое, што не там паставілі патэльню, размова будзе асобна, а цяпер, калі ласка, адзявайцеся і паедзем з намі.

Дахаты гэтыя грандзічскія Лебедзі вярнуліся цераз дзесяць гадоў.

## Спрэчка

*– Ад сахі пераходзім да плуга*
*і без трактара нам аніяк.*
*– Справядлівасць ачоліла пуга,*
*а людзей, бы ў аўчарні – важак?*

*З Боскай ласкі забойная сіла –*
*мардабой з Запавету Старога,*
*ды ноч, што Варавву прысніла,*
*каб тройчы Пятро зрокся Бога?*

*– А росквіт сапраўднай маралі?*
*– Кланаванага дышла закон,*
*дзе людзей не каралі, а бралі*
*і не толькі, як кажуць, на понт,*

*дзе лайдак лепшы свет не лагодзіць,*
*бо не з вераду матчыных сноў –*
*з варкуцінскіх абшараў у дроце*
*з жытлом прынямонскіх «паноў».*

***

*Адзічэлыя смерчы*
*незацугленай Азіі*
*акрылілі жах смерці*
*і чырвонай інвазіі.*

*Вылез вомегам людзям*
*час з адлікам на вока –*
*шаўкавістай прэлюдыяй:*
*запалярным намёкам,*

*дзе жылі груганы,*
*дзе знікалі з канцамі,*
*дзе не знала труны*
*нават скура з касцямі.*

## Ян Боціс

Брат маёй бабці – Ян Боціс, як радавы Войска Польскага, інтэрніраваны. Паміраў з таварышамі па службе на бязлюдным, безназоўным востраве ў Каспійскім моры, дзе іх ледзь жывых падабраў замежны карабель. Ваяваў у арміі Андэрса. Па заканчэнні вайны – жыхар Канады, працаваў цырульнікам, сям'і не было. Пасля паяднання з Богам засталася незапатрабаваная спадчына – двухпавярховы асабняк на беразе возера, зямля, ашчадныя кніжкі. І канадскія ўлады дзесяць гадоў шукалі па ўсяму свету спадкаемцаў, у тым ліку і ў СССР майго бацьку Курыловіча Пятра Юзэфавіча, які на неаднаразовыя напамінкі юрыдычнай калегіі Міністэрства замежных спраў СССР забраць долары адказваў, што аніякіх родзічаў у яго за мяжой няма.



Як выклік для сучаснасці, – канадская канфігурацыя мадэлі развіцця соцыуму пяцідзесяцігадовай даўніны: без крызісаў (палітычных, эканамічных, ідэалагічных, маральных …), з запасам трываласці па Боскай запаведзі – не ўкрадзі, шануй спадчыну.

## Улада

*Як добрая, мудрая маці:*
*і любіць, і бачыць, і чуе.*
*Для міру і шчасця ў хаце*
*святымі вачыма махлюе.*

*Не здрадзіць у помыслах чыстых*
*надзеям сыночка і дочкі,*
*заложыць падмурак вячысты,*
*каб дзеткі не бегалі ў прочкі.*

*Карае па мерках маралі,*
*пасе дабрабыт для прыбытку,*
*каб помнілі дзеткі і зналі*
*яе пуцяводную нітку.*

*Не кіне народ без’языкі*
*у бойню за левых ці правых*
*разменнаю картай разлікаў*
*важацкіх прэтэнзій крывавых.*

*А памяць святую аб продках*
*хавае ў музеях і слове,*
*каб сын у расправе кароткай*
*не вынес прысуд роднай мове.*

*Гарыць да канца, нібы свечка,*
*як znічка, згарае датла,*
*а з часам, адходзячы ў вечнасць,*
*жыве светлай думкай: была,*

*была, быццам Бога яўленне,*
*як мудрасць біблейская люду...*
*Шкада, што маё ўяўленне*
*ёсць там, дзе ніколі не буду.*

# Белыя русы



Казлоўская Ірына з дачкой Мартай і мужам Аляксандрам. Мая сваячка па кудзелі. Яе прабабуля Ядзвіга і мая бабця Паўліна – родныя сёстры. Упершыню пазнаёмілася з гэтым светам дваццаць першага лістапада ў 1966 годзе. Самадастатковая жанчына, без праблемных рэбусаў у сямейных стасунках. Яе муж – Аляксандр Уладзіміравіч, маладзейшы за Іру на адзіннаццаць дзён. У 1989 годзе ў званні падпалкоўніка шчасліва вярнуўся з канчаткова не зразумелай аўганскай вайны. Першы выпускнік Акадэміі ўпраўлення Рэспублікі Беларусь пры прэзыдэнце, якую закончыў у 1995 годзе. Цяпер займаецца пастаўкамі сантэхнічнага абсталявання ў Гародню.

Калі гаворка зайшла пра Белую Русь і яе жыхароў, то Саша мяне запытаў:

– А што гэта такое белы рус? Метамарфознае пераваўсабленне ці лінька, як ў зайца: летам шэры, зімой белы, ці гэта асаблівая альбіносная парода людзей?

– Саша, гэта вельмі не простае пытанне. Белы рус (па-латыні – альба рутэн) – гэта не нацыянальнасць, а вера. Так, прынамсі, яшчэ ў 15 стагоддзі, падчас паступлення ў Ягелонку, гэтае мілагучнае словазлучнне напісаў у графе вервызнанне сын полацкага купца Францішк Скарына.

По сведчанню вучоных тут жылі не толькі белыя русы, але і чорныя. Наогул, рус – гэта той, хто прыняў хрысціянства. Белы рус – гэта той, хто прыняў гэтую веру першым, так бы мовіць чалавек са стажам. Чорны рус – гэта таксама чалавек хрысціянскай веры, але напалову яшчэ паганец, таму што прыняў гэтую веру пазней. Якраз жыхары Прынёмання аказаліся самымі трывалымі паганцамі. Менавіта пра такога паганца ў мытнай ксёнжцы з Пражскага пагранічча захаваўся запіс: «Міцька купец

ліцьвін чорнарусец». Што ў перакладзе на сучасны розум азначае: у стольны горад Прагу прыехаў Міцька, круты бізнесмен, ліцвін з ВКЛ, чорнарусец з Прынёмання. І гэтыя чорнарусцы жывуць тут і сёння, пра што сведчыць іх паганая звычка – ціснуць з жыта. Тэхналогія з паганскіх часоў.

З летапісу вынікае, што Белая Русь – гэта зямля людзей, якія першымі прынялі хрысціянства. І толькі на пачатку 18 стагодзя з лёгкай рукі маскоўскіх патрыярхаў і царадворцаў Белую Русь пачалі асацыіраваць з Расіяй. Аб чым, прынамсі, сведчыць і ўказ Кацярыны II, ад 1796 года:

«Великое Княжество Литовское впредь именовать только Белой Русью, а народ ее белорусами, чем на века привяжем ее к России. Замирить Белую Русь силой невозможно. Эту миссию мы возложим на русского чиновника, русского учителя, русского попа. Именно они отнимут у белорусов не только их язык, но и саму память про самих себя». А праз 70 гадоў гэтую думку ў сваёй справаздачы цару пацвердзіў губернатар Паўночна-Заходняга краю, Мураўёў: «В Северо-Западном крае так называемый белорусский язык необходимо низвести на ничто, ибо, если этого не сделать, он постоянно будет инспирировать мысль об отдельном белорусском народе и о праве этого народа на этническую самостоятельность и национально-государственную суверенность, чего допустить нельзя».

– Што не зробіць рускі штык – даробіць рускі язык, гэта я чуў, – пагадзіўся са мною Аляксандр, – а вось пра ўказ Кацярыны ні разу. Мечыслаў, ты недзе начытаўся жоўтай прэсы.

– Магчыма і жоўтай, – адказаў я, – але не думаю, што ты будзеш аспрэчваць рэчаіснасць, што з той пары, і па сёння ў іх разуменні наш Край – гэта таксама Расія. Дарэчы, у ВКЛ да 1696 года дзяржаўнай мовай была ліцвінская, аб чым сведчыць Статут ВКЛ з 1588 года і Хроніка Быхаўца з 16 стагоддзя, у 1696–1795 гадах – польская, з 1795-га –руская .

Саша, на мой розум, белыя русы – гэта заходнікі з гаспадарскаю жылкай, чорныя – лайдакі з паганаю звычкаю – займаюцца самагонаварэннем. Падчас кастрычніцкага гвалту, нягледзячы на прымусовую ракіроўку, белыя сваю гаспадарчую афарбоўку не змянілі. Чорныя, абрабаваўшы белых, ад радасці пачырванелі. І з той пары рабаваць і красці стала нормай іх аглабельнай маралі. Сёння белыя – гэта алігархі, чорныя – гастарбайтары.

– Мечыслаў, не займайся лікбезам, – адказаў Аляксандр, – мяне цікавіць другое: чым адрозніваецца беларус ад рускага? Гэта кроўныя родзічы, ці ворагі?

– А гэта, даражэнькі Аляксандр Уладзіміравіч, як з чыёй званіцы. Адзін кажа, што наш народ з адной буслянкі, а калі нешта і было, то не болей, як хатнія разборкі паміж братамі.

Праўда, тут трэба ўдакладніць, што ў гэтым кантэксце асабліва цікавая хатнняя разборка ліцвінаў з маскоўскімі братамі падчас Оршанскай бітвы 1514 года. Не было б тады нашай перамогі, не было б і Беларусі. І ў гэтых хатніх разборках за апошнія чатыры стагоддзі мы страцілі адвеку-адроду нашыя кроўныя этнаграфічна-беларускія землі: Смаленск, Невель, Сабеж, Дзвінск, Вільня, Клінцы, Старадуб, Новазыбкаў, Беласточчына.

Другі кажа, што «мухи сами по себе, а котлеты отдельно». Вось і думай, якая тут кроўная сувязь паміж беларусам і рускім.

А вось на пытанне, чым адрозніваецца рускі ад беларуса можна адказаць адназначна.

Рускі з англічанінам, немцам, французам (не ведаю як з кітайцам) вітаецца на іх мове, а з беларусам толькі па-руску. Гэта псіхалогія рускіх, ад самага найменшага да першай асобы ў краіне. Нават Сталін і той думаў інакш. На імпрэзах, прысвечаных Беларусі, патрабаваў, каб гаварылі і спявалі па-беларуску. Не дараслі нашыя дамарослыя русафілы (і пісьменнікі, і палітыкі, і вучоныя, і тэлевядучыя) да Сталіна. Што ні кажы, у духоўнай семінарыі вучылі вечнаму, Евангельскаму – да любові, да яднання: калі хачаш, каб цябе зразумелі і палюбілі, гавары з чалавекам на яго мове, як гэта рабіў Хрыстос у сваіх прамовах. За дзвесце дваццаць гадоў сумеснага жыцця рускіх і беларусаў толькі адзін Мулявін загаварыў і заспяваў на беларускай мове.

Мы яшчэ з паўгадзіны шукалі гэтую кроўную сувязь паміж беларусам і рускім і прыйшлі да паразумення: нас аб’ядноўвае толькі нафта-газавая труба і грымучая трасянка.

***

*Есть один заветный уголок*
*у меня на белом свете*
*и одна тропинка средь дорог,*
*и один, с немногих, на примете.*



Дачка Іры – Марта.

*Есть привычки хуже кандалов–*
*не откроешь тайну даже другу,*
*есть букет соцветия из слов,*
*что годами вертится по кругу.*

*Есть одна запретная любовь*
*с беспредельной надо мною властью*
*и один из множества углов*
*обойти  который не могу, к несчастью.*

*Как обидно думать и гадать,*
*что когда-то тайны станут мглою,*
*что когда-то эту благодать*
*унесу безропотно с собою.*





*Бацькі Ірыны Казлоўскай: Мама – Казлоўская (дзявочае Аўдзей ) Стэфанія Восіпаўна (1934 – 1987). Бацька – Казлоўскі  Генрых Антонавіч (1933–2007).   Вёска Лесніца, 1961 г.*

## Наканаванне





Брат Ірыны – Казлоўскі Віктар Генрыхавіч (1962–1983), курсант Ленінградскага вышэйшага ракетна-зенітнага вучылішча, якое закончыў за тры месяцы да паяднання з Богам.

Побач на здымку маміна шчаслівая ўсмешка, а праз адзінаццаць годоў – сівыя валасы.

Я быў на тым пахаванні, і не дай Бог пабачыць мне яшчэ хоць раз такое гора матулі, якая хавае свайго адзінага сына. Хавалі вайскоўцы з той часці, дзе служыў Віктар. Хавалі з ваеннымі ўшанаваннямі. З цягам часу выплацілі і даніну: высачэзны гранітны помнік. Амаль самы высокі на гожскіх магілках, побач з якім цераз чатыры гады знайшла прытулак і яго мама Стэфанія. Памерла ад анкалагічнага захворвання. Стрэсавы пускавы механізм рака папрацаваў напоўніцу.

Падчас выезду танка з гаража абвалілася бетонная гаражная канструкцыя і менавіта ў той кропцы, дзе знаходзіўся Віктар. На пахаванні я запытаўся ў камандзіра часці.

– Хто вінаваты: маладзенькі, зялёны лейтэнанцік Віктар, ці яшчэ хто-небудзь, хто адказваў за тэхніку бяспекі?

– Камандзір роты згубіў зорку, старшыну выгналі, – адказаў падпалкоўнік і дадаў, – у войску трэба вучыцца думаць, а Віктар яшчэ не ўмеў думаць.

Вядома ж яшчэ не ўмеў. Не ўсе ж людзі ў дваццаць адзін год могуць быць Аляксандрам Македонскім.

Гляджу на фотаздымак Віктара і ўваскрашаю сустрэчу трыццацігадовай даўніны, калі ён са сваім бацькам быў у мяне. Вясёлы, эмацыянальны, амбітны ў добрым сэнсе гэтага слова, лейтэнант. Не курыў, не піў. Толькі ў вачах, як мне падалося, нейкая загадкавая занепакоенасць: ці то туга, ці то асуджанасць. І цяпер, калі яшчэ раз сустрэўся з ім на фатаграфіі, маё перакананне не змянілася. Вочы. У іх штосьці трагічнае, як запланаваная карма. Нешта падобнае ў мяне ўзнікае, калі ўглядаюся ў фотаздымак маладзенькай, прыгожай Яўгеніі Янішчыц. Вочы гавораць, толькі не ўсе ўмеюць прачытаць – аб чым. А такія людзі ёсць. Падчас працы ў Першым гарадскім шпіталі Гародні мяне (*і не толькі*) заўсёды здзіўлялі нетравіяльныя здольнасці ўчастковага тэрапеўта. Ёй не патрэбны былі аналізы, ёй дастакова было паглядзець хвораму ў вочы. Аднаго разу я папрасіў яе пракансультаваць маю пацыентку: «Мечыслаў, супакой хворую, няма ў яе анкалогіі». Вяртаюся з хворай з той кансультацыі ў свой кабінет і думаю, як гэта няма: хірургі на чале з прафесарам падчас аперацыі бачылі сваімі вачыма цвёрдую, як камень, аграмадную пухліну, з метастазамі ў лімфавузлах па ўсім жываце. Нават кавалачак пухліны ўзялі на аналіз. Праўда гістолаг ракавых клетак там не знайшоў, але такое бывае, хаця і не часта. Зашылі жывот і адправілі паміраць. Я зрабіў, што мог – першую групу інваліднасці і, каб не мучылася ад болю, выпісаў наркотыкі. У калароўроце папяровых справаздачаў, адпісак і прыпісак пра яе і забыўся. А праз год заходжу па дарозе з працы ў прадуктовы магазін, падыходзіць жанчына і ціха пытае: «Доктар, можа вам грэчка патрэбна?» Дарэчы, грэчка была патрэбна, на паліцах прадуктовых магазінаў яе не было. Яшчэ раз пазнаёміліся, бо я яе не пазнаў. Інвалід першай групы з запушчаным ракам падстраўнікавай залозы, стройная, з вясёлай усмешкай на прывабных вуснах, працуе ў гэтай прадуктовай краме і мне ў знак падзякі за «дзейсныя лекі» хоча з падпрылаўка прадаць кілаграм грэчкі. Я ішоў дахаты з грэчкай і яшчэ раз думаў: што бачыла ў яе вачах мая каляжанка па працы? Напэўна, усё што заўгодна, толькі не смерць.

## Вочы

*Вочы малюнкам душы гавораць,*
*каб Рубіконам не стала мяжа*
*смутку з вытокаў былых дакораў*
*пад напамінкі, бы ў такт капяжа.*

*Вочы ад ранку маўклівай самоты –*
*ключ для красвордаў у рэбусе дня,*
*стрэл бліскавічны з пытаннем на потым*
*і без адказу ці чуе радня.*

*Вочы расстання – лісточак апалы*
*восеньскай кветцы (прадвесця званочак),*
*бы навальніцай аддзёртае рала,*
*не разгадае і соннік прарочы.*

*Вочы паэта, як чынш прадчування,*
*бы з недапітай дзесь чаркі да донца,*
*дзе варажбіткай блукае пытанне,*
*ці намагніціць твор бурамі Сонца?*

*Вочы вядучых з тэлеэкрана*
*кажуць пра тое, што хочаш ты сам.*
*Імі палітык амаль таксама*
*свята з трыбуны прарочыць і нам.*

*Вочы, як промень, гуллівае зоркі,*
*што ў пацалунку. Быццам да скону.*
*Ім на прыпынку сказаў я горка,*
*каб не пачулі. Болей нікому.*

## Солтыс






*Солтыс – Антон Казлоўскі, дзед Ірыны. Злева – 1941 год, пасярэдзіне – 1948-ы, пасля гулагаўскага пераўвасаблення, справа з жонкай Марыяннай і сынам Юліянам, 1952 год, вёска Лесніца.*

Калі працавў у Гожскай участковай бальніцы галоўным урачом (у сённяшнім разуменні – хатні доктар), у дзядзькі Антона бываў даволі часта. Яго жонка Марыяна ў свае семдзесят два назбірала цэлы букет хваробаў, але лячыцца таблеткамі не любіла. Пасля майго візіту хутка папраўлялася. І тады я ўпершыню пашкадаваў, што так легкадумна падчас вучобы адносіўся да самага дзейснага з тысячагадовым стажам медыцынскага сродка – псіхатэрапіі.

Неяк зімою пазванілі з вёскі Лесніца – тэрмінова патрэбен доктар. Калі я абслужыў той вызаў, да мяне з нечаканай просьбай звярнулася дачка хворай:

– Прыбягаў сусед – Казлоўскі Антон і вельмі прасіў, каб вы абавязкова зайшлі да яго.

На ганку без шапкі, у фуфайцы і гумовых ботах стаіць дзядзька Антон.

– Ну, што тут у вас, Антон Юзэфавіч, прыхварэла Марыяна? – пытаю ў яго.

– Ой, бяда Мечыслаў Пятровіч, ужо і не стогне, і не мычыць.

Ну, думаю, уліп, псіхатэрапеўт махровы, далячыў кабету і адчыняю дзверы ў хату.

– Не, не, не туды, яна там, – і ідзе ў хлеў.

Збянтэжана маўчу і крочу следам. На саломе ляжыць карова і, на самай справе, амаль не дыхае. А ў тым месцы, скуль пачынаецца жыццёвы шлях усяго жывога, дзве ножкі і канец вяроўкі з завязанаю пятлёю на іх. Што рабіць? Вопыту ў такой далікатнай справе чатырохкапытнага кармільца (і не толькі дзядзькі Антона) – нуль. Пра лекі і наогул не задумваюся, бо іх у маёй медыцынскай кайстры для хуткай дапамогі для такіх пацыентаў ніколі і не было.

– Мечыслаў Пятровіч, ужо восем гадзін памагаю для бедненькай і аніяк не магу выцягнуць цяля. Можа ўдваіх справімся?

– Пачакай, дзядзька Антон, дай падумаць, – і надзяваю медыцынскія пальчаткі, каб абследаваць, якой часткай цела просіцца на Боскі свет тое цяля. Пацягнуў за вяроўку і, на маё здзіўленне, з'явілася галоўка з беленькай плямай на галаве, а пасля і ўсё апошняе.

Маёй заслугі там не было. Перад скананнем, не толькі ў людзей, але і ў жывёлаў рэзка паніжаецца мышачны тонус.

– Цялушачка, усклікнуў Антон, – і пабег дахаты. Вярнуўся з Марыянай і з вядром цёплай вады, каб напаіць карову, але змучаная кароўка на такі пасляродавы пачастунак ніяк не рэагавала. Яна ледзь дыхала. Тады палажылі цялятка каля яе лапушыста-губатага носа. Карова некалі раз лізнула яго яшчэ мокрую поўсць. Цялё заварушылася і адазвалася слабенькім мыканнем. Карова яшчэ некалькі раз лізнула яго сваім шурпатым языком і паднялася на ногі. Марыяна плакала. Я адвярнуўся, дастаў хустачку і, каб ніхто не бачыў, змахнуў незапланаваную слязу.

Дзядзька Антон запрасіў мяне ў хату, дастаў бутэлечку з настоенай на карэньчыках жытняй, наліў дзве стопкі.

– Не, не, я на службе, а вы выпіце, вам гэта якраз цяпер і патрэбна.

«Лякарства» для дзядзькі памагло. Павесялеў і шчыра пачаў хваліць мае «прафесійна-ветарынарскія здольнасці». Ну, думаю хопіць, толькі мне гэтага і не хапала – за адну і тую ж зарплату забраць хлеб у ветарынарнага доктара, і мяняю тэму:

– Я чуў, што падчас свайго солтыства вы памагалі савецкім партызанам, дык за якія грахі ў 1946 годзе вам уляпілі дзесяць гадоў?

– Нікому я не памагаў. Да восені 1943 года ў нашых лясах было спакойна. Немцы тут гаспадарылі, як у сябе дома. Кіраўнік Гожской гміны прыязджаў у нашу вёску на ровары, без усялякай службы аховы. Нядрэнна размаўляў на польскай мове, за што людзі лічылі яго сваім чалавекам. Добрых гаспадароў хваліў за парадак і, як дзіця, радаваўся, калі бачыў пекную, дагледжаную скаціну, асабліва коней. Але пасля таго, як яго забілі, наша ціхае, спакойнае жыццё закончылася. Паявіліся аднекуль партызаны. І «белыя», і «чырвоныя». Днём прыязджаюць немцы і забіраюць палову гаспадарскага скарбу, а ноччу прыходзяць з лесу, прыставяць стрэльбу да галавы і грабуць апошняе. Вунь, Янак Забароўскі паехаў у лес па дровы, а вярнуўся без кажуха і ботаў, а калі прыйшлі Саветы, то за той кажух і боты адтрубіў 10 гадоў на варкуцінскіх рудніках. Ты ж яго ведаеш. (Янака Забароўскага я ведаў вельмі добра – быў жанаты з маёй стрыечнай сястрой, дачкой дзядзькі Антона, які ў міжваенны час Крэсаў быў фермерам у Англіі). Скончыцца яда і самагонка і зноў бягуць у вёску. І сядзіш, як на парахавой бочцы: як немцы не заб'юць, то свае ўгрохаюць. З немцамі ў іх была нейкая негалосная дамова. Яны не чапалі немцаў, а немцы іх. Аднаго разу я паскардзіўся яшчэ таму «польскаму» немцу з Гожскай гміны, якога забілі, што ў гаспадара здохла свінчо, каб зрабіў скідку на падатак.

– Ты ведаеш, – адказаў ён, – мы ў гаспадара апошняе не забіраем: адно нам, другое сабе. Ідзі шукай дзе хочаш, калі не даглядзелі, дык гэта ўжо вашыя праблемы. – І на развітанне, прыжмурыўшы вока, з хітраватай усмешкай дабавіў, – слухай, Антон, вельмі часта ў вас здыхаюць свінні. Глядзі, не ўліпні.

На маё шчасце, сярод тых партызанаў быў нейкі Арлоў, такі ж самы, як і ўсе, толькі, калі мацюкаўся, то абавязкова дабаўляў «тваю Бога маць». Я ні разу не чуў пра сутычкі партызанаў паміж сабою з ахвярамі. Мардабой, можа, і быў, але не больш. І толькі ў канцы вайны, калі пагналі немца, я даведаўся, што той Арлоў быў савецкім партызанам. Гэта была мая выратавальная нітачка. Я нікому не зрабіў нічога дрэннага, нікога не выдаў. Спадзяваўся, што за супрацоўніцтва з савецкімі партызанамі пакінуць на волі, але, як бачыш, памыліўся. Каб не мая старшая сястра Юзэфа, напэўна, загінуў бы, бо ў той час у лагеры рэдка хто выжываў. Два гады яна шукала Арлова і знайшла, і ён пацвердзіў маё супрацоўніцтва з савецкімі партызанамі. Пісала ў розныя інстанцыі, двойчы пераглядалі маю справу і толькі ў 1948 годзе мяне рэабілітавалі.

Дзіўная логіка ў бальшавікоў: уцягнулі нас у вайну, а пасля кінулі, як авечак, у зграю ваўкоў, і да таго ж абвінавацілі. І аніхто ад Масквы аж да самых ускраін за свае грахі не прызнаў сваёй віны ні перад Богам, ні перад людзьмі. Але найбольш мяне здзіўляе тое, што мы сталі самымі ваяўнічымі людзьмі ў свеце. Усё жыццё змагаемся за нейкі адзіны народ з адной краінай, як ні з немцамі, то з французамі, нават з рускімі і з палякамі, дабраліся аж да аўганцаў. Колькі ж нашых хлопцаў палягло за гэты адзіны народ і аніводнага за свой. І ўсе думаюць, што так і трэба.

– А хто вас судзіў, можа, помніце прозвішча? – задаю яшчэ адно цікавае пытанне.

– Пасля трохмесячных допытаў канваір завёў мяне ў кабінет, дзе сядзеў з выгляду прыстойны, і, як мне падалося, з дабрадушнаю ўсмешкай капітан.

– Калі ласка, сядайце, Антон Юзэфавіч, – і ўткнуўся носам у папку, якая ляжала на стале. Гартае, і, не паднімаючы галавы, чытае з паўзамі, нараспеў, нібыта, самому сабе.

– Так, так, Антон Юзэфавіч, справы вашы дрэнныя. Калі ўсе нармальныя людзі ў такі час змагаліся, ішлі на смерць, вы служылі немцам і бандытам, якія ваявалі супраць савецкай улады. І сведкі ёсць. А пра тое, што вы памагалі савецкім партызанам – не даказана.

Я сядзеў і маўчаў: як я мог змагацца? Немца з Гожскай гміны я мог задушыць голымі рукамі. А пасля? Дзеці, жонка, дый уся вёска! Як падумаў, чым гэта магло б скончыцца , аж слёзы пакаціліся цурком.

– Ну хопіць, вось гэтага не трэба, мы слязам не верым. Слухай, Антон, – фамільярна прадаўжаў ён, – я бачу, што ты не дурны чалавек. Немцы на такую пасаду дурняў і лайдакоў не ставілі, але няма аніякай паперкі, што ты памагаў савецкім партызанам, так што не выпрабоўвай маё цярпенне. Я зрабіў усё, што мог. Табе свеціць вышка, ці не меньш дваццаць пяць. Дзесяць гадоў – гэта самы найменшы тэрмін. У такой сітуацыі табе могуць паверыць толькі белыя мядзведзі, і маёй віны тут няма.

Мядзведзі Антону паверылі – не з'елі, не паквапіліся на свежаніну, бо яе там не было, і Антон быў вельмі ўдзячны ім за гуманнасць. І наогул, з той пары ён ніколі не ставіў дзікім звярам людаедскі штэмпель, і заўсёды шкадаваў, што не можа занесці іх у Чырвоную кнігу.

# Заручыны

Пасля кастрычніцкага мардабою ў 1917 годзе ксёндз у Гожскім касцёле аб'яўляе аб заручынах Марыяны і Браніслава Ланеўскага. Справа стаяць мужчыны, злева жанчыны. І ўсім цікава, але асабліва тым, хто стаіць злева, паглядзець на стройнага, сімпатычнага, не беднага хлопца, які мае намер ажаніцца са спрытненькай, бялявай дзяўчынай, да таго ж з нядрэнным пасагам. (Грошы для Марыяны прыслаў з Амерыкі дзядзька). Пасля імшы і левыя, і правыя расступаюцца, каб прапусціць жаніха і нявесту, і яны павольна, узяўшыся за рукі, з усмешкамі ідуць паўз жывы калідор на вуліцу. Серыял заручын доўжыцца кожную нядзельку на працягу месяца. У дзяўчат даспяваюць сны пра рыцара на белым коніку. Родзічыператрасаюць куфры ў пошуках падарункаў для маладых. Засталося некалькі дзён да шлюбу. Жанчыны прабуюць пальцам пханую, мужыкі – крыштальную за сорак градусаў жытнёўку (не горшая, чым царская манапольная). У конікаў расчэсаны грывы, упрыгожаны брычкі, на дарозе перад хатай Марыяны вяскоўцы паставілі браму, праз якую будзе ехаць малады да нявесты з нядрэнным выкупам.

Ланеўскі не прыехаў. У той дзень ён развітваўся з мамай і татам перад неспадзеўкі «запланаваным» прызывам у толькі што народжанае войска Саветаў. Калі зухаватыя хлопцы матроса Жалезняка везлі яго каля хаты Марыяны, яна выскачыла ў вэлюме і кінулася да яго з абдымкамі, выкрыкваючы: «Ён мой, я вам яго не аддам, не маеце права!» Збянтэжаныя салдаты разгубіліся, не першы раз адвозяць рэкрутаў, але, каб такое – упершыню. Калі кульнулі па кілішку, паскардзіліся на свой незайздросны лёс, як паднявольных людзей, і паабяцалі, што толькі завязуць яго ў Гродна, а там разбяруцца.

Бунту не адбылося. Сярод вяскоўцаў яшчэ не нарадзіўся Каліноўскі. Разгублена глядзелі на дарогу, як знікае з вачэй брычка з салдатамі і Ланеўскім, а збоку (дазволілі правесці да крыжа) ідзе ў вэлюме Марыяна.

Марыяна і Ланеўскі сустрэліся праз некалькі гадоў, калі Саветы спешна замялі сляды зніклай царскай сям'і, кшталту таго, як гэта зробяць іх нашчадкі ў Курапатах, у Катыні, у гродзенскай турме з «АКаўцамі», і іх старанныя вучні з нацысцкай Германіі на акупаваных тэрыторыях.

З Паўночна-Заходняга краю Ланеўскі вярнуўся на Крэсы. За гэты час  Марыяна выйшла замуж за Антона Казлоўскага і паспела нарадзіць яму сына.  Канец, як у паэме Пушкіна: «Я вас люблю, к чему лукавить»…  Ланеўскі ў міжваенным часе Польшчы выехаў у ЗША, дзе ў апошні дзень, калі гукнулі продкі, застаўся халасцяком.

## Млын



*У першым радзе злева направа:  Казлоўская (Пясцюк) Анна Іванаўна (1897–1979), яе дачка – Уладзіслава, Казлоўская (Боціс)  Ядзвіга Станіславаўна (1849–1944), прабабка Ірыны Казлоўскай, з Генрыхам на каленях – Казлоўская Марыяна; з бацькаўскай рукой на плячы – Юзэф, сын Баляслава і Анны. У другім радзе справа налева: Казлоўскі Баляслаў Юзэфавіч (1889–1971), Яніна  і Канстанцыя (Косця) –  дочкі Баляслава і Анны. Вёска Лесніца.*

Міжваенны час 1934 года Польшчы. Злот стабілізаваўся, паны кайфуюць, афіцэр – самая прэстыжная прафесія. Паспяховаму гаспадару зялёная дарога: даюць крэдыты на куплю зямлі, на сваю справу (тады слова бізнес ў побытавым разуменні яшчэ не нарадзілася). Казлоўскі Баляслаў у складчыну з малодшым братам Антонам купляюць у вёсцы Вярполле зямлю, дзе ўжо была палоска зямлі жонкі Баляслава з роду вярпалянскіх Пясцюкоў, а ў Гожы млын. Дзявочае шчасце дочак Яніны і Канстанцыі патрабавала падмацавання пасагам. Аб самай маленькай Уладзіславе яшчэ не думаюць. Сыну Юзэфу, як наканаванаму спадкаемцу, гарантавана заможная прышласць.

Пасля маршалка Пілсудскага ў паспяховым адраджэнні Польшчы пачаўся застой. Ліхаманкава пачалі шукаць ворагаў з пятай калоны. І знайшлі – жыдоў. Прыярытэтнае права ў бізнесе аддавалася выключна стоадстковым каталікам (палякам). Яўрэі танна збывалі сваю маёмасць. Некаторыя рэгістравалі яе на падстаўных функцыянераў польскай нацыянальнасці. І яшчэ задоўга да прышэсця «збавіцеля» на гэтую зямлю ў вобразе «бацькі ўсіх народаў» нейкім сёмым пачуццём уцямілі, што трэба неадкладна свае прадпрыемствы, крамы, папяровыя злоты і долары перавесці ў больш стабільную валюту – золата. Браты Казлоўскія (Баляслаў і Антон) у гэтай справе ім памаглі – купілі за тры тысячы злотых у Грандзічах яшчэ адзін млын.

Сёння, як кажуць, схадзіўшы па розум да адной не вельмі разумнай пані (а ў кожнага свая), можна і ўсміхнуцца з наіўнасці тутэйшага чалавека.

Для Баляслава і Антона Казлоўскіх ўжо тады было наканавана: хочаш рассмяшыць Бога, раскажы яму аб сваіх планах. Пасля 17 верасня 1939 года яны канчаткова паверылі, што байка «застацца ля разбітага карыта» гэта не байка, а рэчаіснасць. Дзве дачкі – Яніна і Канстанцыя, і сынок Юзэф з гэтым бацькоўскім «скарбам» апынуліся ў Польшчы і не пашкадавалі, бо тыя, хто застаўся, «весяліліся» у ГУЛАГах. Уладзіслава, як самая маленькая, засталася з бацькамі пільнаваць асірацелую хату, гожскія магілкі дзеда Юзэфа і бабулі Ядзвігі і буслянку на высокім слупе з колам ад воза. Да апошняга дня была побач з матуляй Ганнай і татам Баляславам.

***

*Ніхто табе не зробіць, браце,*
*буслянку з троннае зямлі:*
*ні трону царскаму пракляцце,*
*ні з юрам шляхты каралі,*
*ні праваслаўнай плыні дрэва,*
*калі  Пярун праснуўся русам,*
*ні каталіцкі раздрай Крэва ,*
*ні уніяцтва пад прымусам;*
*ні кананічны апломб НАТА,*
*ні рамантычны Ватыкан…*
*Ніхто табе не зробіць свята,*
*калі яго не зробіш сам.*

## Дзе там

*Мы на гэтай зямлі?*
*Можа не – з таго свету?*
*Дралі  глотку: жылі,*
*яе ком казаў: дзе там.*

*Мы на гэтай зямлі*
*весялілі анкету,*
*дзе у змест уплялі*
*фіялетаву мэту.*

*Мы капалі пад корань*
*прабацькоўскае рэха.*
*Пасівелыя скроні,*
*як набытак стратэга.*

*Нараджалі прароцтвы –*
*трудадзённыя зоркі,*
*каб кулацкія хлопцы*
*гэта чулі з Мальёркі.*

*Адшліфоўвалі імідж*
*найвялікшаму горцу,*
*што гуляў з агнём сінім*
*ім народжаных творцаў.*

# Культ



Здымак зроблены ў 1941 годзе. Пясцюк Юзэф Антонавіч (1919–1941) перад прызывам у Савецкае войска апошні раз абдымае за плечы маму Юзэфу (нар. 1893) і тату Антона. На пярэднім плане яго сястра – Марыя.

Скрыжалі лёсу – у 1948 годзе Юзэфа зрабіла ўсё магчымае і немагчымае, каб выратаваць малодшага брата – солтыса Антона з гулагаўскага пекла. Яна знайшла сведкаў аб яго супрацоўніцтве з савецкімі партызанамі. Сабе, мужу і для дачкі Марыі – не.

Ды і як магла іх знайсці – без права на незалежную адвакацкую дапамогу, без права не толькі на сустрэчы з родзічамі, але і на перапіску. Савецкі партызан Арлоў, якога яна ўжо добра ведала, бадай што, і закінуў бы выратавальнае: «Не толькі солтыс Антон нас падкормліваў, але і яна частавала бульбачкай і соллю, але ні кумпяка, ні скваркі ў яе хаце я не знайшоў. Хлопцы мае правяралі і таксама не знайшлі». А хутчэй за ўсё, у той следчай канцылярыі КДБ яму параілі: «Не лезь, хопіць табе аднаго солтыса, а то і сам загрыміш».

Выратаванне адбылося значна пазней – пасля таго, як Мікіта Сяргеевіч (вечная яму памяць) на свой страх рызыкнуў выгукнуць на ўвесь свет пра культ. Для Юзэфы, як зэку на ўсю катушку – 25, (у мужа з дачкою толькі дваццаць на дваіх) гэтае магічна-мілагучнае слова стала культавым, як «Ойча наш…». Доўгачаканая свабода. Рэабілітацыя. Сямейка вярнулася ў Вярполле, а там ні хаты, ні адрыны… Некаторы час жылі ў брата Баляслава, пасля ў Антона, потым дасталі жытло ў вёсцы Рыбніца.

Сын Юзэф прапаў без вестак пад Смаленскам у 1941 годзе. Дачка Марыя выйшла замуж за Пясцюка Генадзя з вёскі Вярполле. Ад двух сыноў і дачкі дачакалася ўнукаў.



*Дачка Пясцюкоў ( Юзэфы і Антона) – Пясцюк Марыя Антонаўна (у акулярах) з мужам Генадзіем і дзецьмі – Славамірам, Віктарам і Ганнай.*

***

*Культ кілішка, скарбонкі-панчохі*
*заблудзіўся у назве эпохі,*
*а пекнага цела і храмаў*
*не ведае сонечных плямаў.*

*Культ свячы з нараджэння да смерці*
*не шкадуе для вока інерцыі,*
*а сучасны – уласнае скуры*
*зняў мерку з антычнай скульптуры.*

*Культ вяселля, любові, калыскі*
*дарагі, урачысты і блізкі,*
*як культ Вострабрамскай Марыі –*
*не гасне з часоў эйфарыі.*

*І толькі адзін недарэка:*
*чалавека.*

## Споведзь ветэрана вайны

*Не з японскіх лёх карма –*
*са званіцы загад,*
*з крамлёўскай кавярні:*
*«ні кроку назад».*

*Нат  Нерон – злыдзень Рыма,*
*каб прачнуўся зароў:*
*ад Масквы да Берліна*
*чорнай плямаю кроў.*



*Цётка Ірыны Казлоўскай –
Казлоўская Анна Юзэфаўна.
Нарадзілася ў 1898 годзе.*

У дзявоцтве тры гады жыла ў канадскага дзядзькі Яна Боціса. У Пецербургу выйшла замуж за Барэйшу Ануфрыя. Ад дачкі – Барэйша Альбіны, якая выйшла замуж за Пясцюка Юзэфа Юзэфавіча дачакалася шасцёра ўнукаў: Іван, Рамуальд, Віктар, Марыя, Нэля, Алёна.



*Пясцюк Альбіна Ануфрыеўна (пасярэдзіне)
са сваім сямействам. Вёска Дуброва.*

## Знахарка

Прабабка Казлоўскай Ірыны – Тамулевіч Анастасія (1860–1952), родам з вёскі Вярполле (18 км ад Гродна).

На кніжнай паліцы яшчэ жывых бацькоў Ірыны Казлоўскай мяне заінтрыгавалі старадаўнія кнігі і часопісы. Кніжка С.Б. Юн-дзіла, выдадзеная ў 1791 годзе *«Opisanie roslin w prowincyi Wiel-kiego Księnstwa Lietewskiego»*. Дзве невялічкія кніжкі Красоўскага, выдадзеныя ў 1921 годзе ў Вільні, *«Bielaruskija liakarskija ziulki»*. Часопіс «Wisla» з артыкулам Элізы Ажэшка «Liudzie i kwiaty nad Niemnem». Часопісы: *«Pamiętntnik farmaceutychny Wileński»*, дзе друкаваліся артыкулы прафесара кафедры фармацыі і фармакалогіі Галоўнай школы Літвы Іонаса Фрыдрыха Вольфганса.

– Слухай, – пытаюся ў Генрыха Казлоўскага, – я ведаю, што ты скончыў тэхнікум мяса-малочнай прамысловасці, цяпер працуеш майстрам на заводзе карданных валаў, а адкуль ў цябе такая цяга да фітатэрапіі?

– Гэта маёй бабулі Анастасіі, – адказаў ён. – Яна лячыла людзей травамі, прымала роды. У Вярполле да яе прыязджалі нават з Гродна. Бывалі і чэргі.

Да фітатэрапіі я адносіўся з вялікаю павагаю, асабліва пасля дваццацігадовых эксперыментаў на ўласнай персоне, калі прымяраў на сабе дзесяткі найноўшых інструкцый дактароў медыцынскіх навук па лячэнні вясной і восенню абвастрэння язвеннай хваробы дванаццаціперснай кішкі, якой мяне Бог пакараў за першародны гулагаўскі грэх бацькі ў Плябанішках, калі рубам стаяла пытанне: што з’есці, каб выжыць. Неяк на лецішчы, калі з сабою аніякіх лекаў не было, паспрабаваў (без усялякай надзеі ўтаймаваць боль) пажаваць корань акопніка лекавага, які рос на балоце, і кожны год настырна стараўся прыжыцца на маіх градах. Праз пару хвілін боль знік. Корань праціўны, але з мёдам, пяргою і прапалісам смачны. Нашча і пры болях пры абвастрэнні хваробы на працягу тыдня – і свет у зялёных фарбах, і імпэт узнікае, і не толькі да працы. Сёння мой уласны метад лячэння – гэта толькі далёкі ўчарашні дзень. Ну, як тут не паверыш у чэргі да знахаркі Анастасіі, ды яшчэ з такім навуковым багажом?

Анастасія была сіратою, рана выйшла замуж. Ад першага мужа, Пясцюка Казіміра Францавіча, які рана памёр, у яе засталіся тры малалетнія сыны – Францішак, Антон і Тадэвуш. Па хрысціянскім запавеце і па апошняй развітальнай просьбе

Казіміра апеку над асірацелымі дзеткамі ўзяў на сябе яго малодшы брат Юзэф. З цягам часу Анастасія і Юзэф бяруць шлюб. У 1899 годзе нараджаецца  чацвёрты сын – Юзэф, пасля дачка Ганна, а ў 1910 годзе  – Марыяна.

Серадольны брат Казіміра і Юзэфа – Антон у пошуках лепшай долі выехаў у Злучаныя Штаты Амерыкі. Прысылаў не толькі грошы, але і ксёнжкі. У Анастасіі была цэлая бібліятэка. Пасля прыходу саветаў кнігі схавала ў падземным схроне ў адрыне. Час і пастаяльцы адрыны зрабілі сваю чорную справу. Калі праз нейкі час туды заглянула, там была толькі пацяруха і парэшткі спарахнелых кніг на польскай мове. Раман «*Агнём і мячом*» Генрыха Сянкевіча, «Дзяды» Адама Міцкевіча. Некранутай засталася толькі кніга Уладзіслава Рэйманта «*Апошні сейм Рэчы Паспалітай*». Нават пацукі аднесліся з вялікаю павагаю да гісторыі Вялікага Княства Літоўскага ў складзе Рэчы Паспалітай.

## З аўтабіяграфічнай даведкі





*Пясцюк Францішак Казіміравіч (1889 – 1960) – сын Анастасіі. На левым здымку – у Маскве, 1906 г, пасярэдзіне (першы злева) – у Віленскай духоўнай семінарыі, 1908 г. Справа –  дзекан і пробашч Харошскага касцёла.*

У аўтабіяграфічнай даведцы Францішак напісаў:

– Атэстат аб заканчэнні сярэдняй школы ў Гродне атрымаць не ўдалося, паехаў у Маскву, дзе на моладзь з Паўночна-Заходняга краю глядзелі скрозь пальцы.

Там атрымаў ці то атэстат аб заканчэнні сярэдняй навучальнай установы, ці толькі здаў экзамен на аптэкарскага вучня, што дазволіла ў 1908 годзе паступіць у Віленскую духоўную семінарыю, якую паспяхова закончыў у 1912 годзе. Першае працоўнае месца – Вострабрамская парафія ў Вільні, цераз год – Усіх Святых, дзе ў якасці вікарыя займаўся не толькі рэлігійнымі, але і грамадскімі справамі, за якія ледзь не загрымеў у месцы не вельмі аддаленыя. З 1918 года па 1930-ы пробашч парафіі Ваверка ў Радунскім дэканаце. З 1930 года да паяднання з Богам – дэкан, вікарый касцёла ў мястэчку Харошчы.

Прывілеяй караля Рэчы Паспалітай Зігізмунда Старога мястэчка Харошчы ў 15 стагоддзі мела мясцовае права і знаходзілася ва ўладаранні маршалка ВКЛ Аляксандра Хадкевіча. За гэтую прывілею харашанцы пастаўлялі каралеўскаму войску пяць вершнікаў, а падчас ваенных дзеянняў кожнаму выплачвалі па пяць фунтаў. Фамільнае срэбра Хадкевічаў пазней перайшло да Сапегаў, пасля да Пацаў. Апошнія гаспадары – Браніцкія.

Пры немцах Францішак Пясцюк, як закладнік, два месяцы знаходзіўся ў турме. Бог літасцівы – пранясло. Але, калі пасля вайны пачаўсяператрус з разглядам цераз шкельцы, хто ёсць хто, яго турэмны *happy end* перакваліфікавалі ў абвінавачанне. Дзесяць гадоў даказваў сваю невінаватасць. І даказаў. Пашанцавала. Не так, як святарам у Беларусі.

Біяграфічныя звесткі атрыманы: http://www.opoka.org.pl/ і ад радні Казлоўскіх. Здымкі з сямейнага альбома Ірыны Казлоўскай.



*Касцёл у Харошчах, 2014 г.*




*Харошчанскія магілкі , 2014 г.*

## Афіцэр Войска Польскага




*Пясцюк Антон Казіміравіч, другі сын Анастасіі.*
*Злева – курсант вышэйшага ваеннага вучылішча Войска Польскага.*
*Справа – напярэданні першага верасня 1939-га года.*

Савецкі ваенны карэспандэнт Пётр Лідаў апісвае, як у Гродне 20–23 верасня ў 1939 годзе Чырвоная армія ў кровапралітных баях дабівала золатапагонную зграю Войска Польскага, уцякаючую ад германскай і савецкай армій, студэнтаў і вучняў, адурманеных польскім нацыяналізмам, узброеных пыхлівых мясцовых шляхціцаў і сынкоў тутэйшай буржуазіі з чырвона-белымі павязкамі на рукавах, завербаваных пілсудчыкамі, сміглымі, бекамі і масціцкімі. За тры дні забілі 376 польскіх афіцэраў, а 1500 шараговых жаўнераў і падафіцэраў узялі ў палон. Звестак пра забітых студэнтаў, вучняў, шляхціцаў і сынкоў мясцовай буржуазіі ў яго артыкуле няма.

Імёнамі вызваліцеляў Заходняй Беларусі ў Гародні ўвекавечаны дзве вуліцы – Гарнавых і Квітко. Дарэчы, Гарнавых Грыгорыя Аляксеевіча, як мне расказваў мой дзядзька Аніська Вацлаў, застрэліла ва ўпор на мітынгу ў Гродне яўрэйка.

Сёння, чытаючы артыкулы Пятра Лідава, я ўспамінаю размову саракагадовай даўніны з маёй цёткай Станіславай Шаркоўскай:

– Гэта быў страшны час, на маіх вачах у Пярэсялцы застрэлілі маладога хлопца, сына Сарафіна. Мама адправіла яго да суседкі пазычыць солі. Хлопец выскачыў з хаты ў шапцы гімназіста і ў брамцы наткнуўся на патруль чырвонаармейцаў.

На вялікі жаль, а, можа, і на шчасце, у той час аб вераснёўскіх падзеях 1939 года я больш ні ў кога не пытаўся.

На вуліцы Белуша ў Гародні знаходзяцца магілы жаўнераў і чырвонаармейцаў пераважна з нярускімі прозвішчамі, загінуўшых у верасні 1939 года, і, чытаючы даты іх кароткага жыцця, у мяне заўсёды шчыміць за грудзінай. У чым яны вінаватыя? За што ў іх, не спазнаўшых, можа, і першага пацалунку, забралі жыццё? З жаўнерамі ўсё зразумела – яны баранілі сваю буслянку. А ці ж патрэбна была гэтым хлопцам з неабдымнай Расіі наша зямля, калі на сваёй не хапала гаспадарскіх рук?

Гэта была крывавая разня, калі татары, башкіры, чэчэнцы… помсцілі студэнтам, вучням, пыхлівым шляхціцам і сынкам мясцовай буржуазіі за забітых акопных сябрукоў. Гэта была вайна амбіцыёзных важакоў двух таталітарных рэжымаў, якія зрабілі з людзей дзікунскае быдла.

І сёння, калі гляджу на расійскіх тэлеканалах, як смакуюць тэлевядучыя, спікеры, журналісты, пісьменнікі... крывавыя падзеі ва Украіне, мне рабіцца страшна.

Сярод той зграі золатапагоннікаў, уцякаючай ад германскіх і савецкіх войскаў, быў хлопец і з вёскі Вярполле, Гожскага староства, сын знахаркі Анастасіі – Пясцюк Антон Казіміравіч.

Сустрэў вайну з немцамі, а закончыў на Гродзеншчыне. З раненнем трапіў у Беластоцкі шпіталь. Немцы прыкрылі вока на тое, што Антон ваяваў супраць іх, а за тое, што страляў з гарматы па бальшавіках, падаравалі яму самае дарагое – жыццё. Бальшавікі яго палонным сябрам, якія ваявалі ў тым ліку і з немцамі, – помнік. У Катыні.

Антон пасля вайны сустрэў сваю палавінку, цудоўную паннацку, студэнтку з педагагічнага ўніверсітэта ў Варшаве Казю (Казіміру), якая ашчаслівіла яго сыночкам Станіславам. У яго хапіла розуму паверыць татэмнаму выслоўю: «Тутэйшаму чалавеку ўсюды добра, толькі не на Радзіме». Атабарыўся ў месце Остаў – Мазавецкі непадалёку ад Беластоку. Не хачу прагназаваць лёс Антона, калі б ён вярнуўся на Радзіму.


Петр Лидов. Взятие Гродно. Бои за Гродно в 1939 году глазами советского корреспондента.

***

*Моцныя свету гэтага –*
*магільнага страху, пагроз,*
*яшчэ і з вар'яцкаю мэтаю,*
*аж ходзіць па скуры мароз.*

*Ім смерці людскія – статыстыка,*
*ім лёсы людскія – не ў грош,*
*не болей апалага лісціка,*
*ці быдла, што пусцяць пад нож.*

***

*Сусветныя звадкі не вучаць*
*дурных і разумных наўзбоч.*
*Ізноў пад крывавай анучай*
*дрыжыць беззаганая ноч.*

*Маральныя хібы ўстояў*
*вярэдзяць засмяглую кроў...*
*І толькі сам-насам з сабою*
*гаворыць людская любоў.*

***

*Ізноў не дае заснуць*
*вецер крывавай згубы:*
*дзе і куды нас вядуць? –*
*шматкроп'ем адстукваюць зубы.*

*Сківіцы зводзіць жах*
*крамяністай прыправы горкай...*
*– Божа, дык дзе ж твой шлях?*
*– Пад віфліемскаю зоркай.*



*Дачка Анастасіі–Ганна з мужам Уладзіславам. Польшча.*



*Унучка Анастасіі – Гэлена з мужам. Польшча.*



*Унучка Анастасіі – Багдановіч Уладзіслава з мужам Бернардам і сынамі –Уладзіславам, Янам і Антонам. Вёска Багушоўка, Гродзенскі раён.*

## Катынь

*Памяці Леха Качынскага,*
*змагара за катынскую праўду*

*Масакра у часе і кропцы –*
*славянскай гісторыі густ.*
*Там крыж беларускага хлопца*
*чакае на сметніку друз.*

*Два «Сонцы» сышліся у гонцы*
*(з ахвяр людажэрны алтар)*
*і тому, што бліжай (да горцаў)*
*хацеў набіць морду катынскі змагар.*



*Пясцюкі і Казлоўскія ў вёсцы Вярполле.*

## Інсургент

Дзядуля (па мячу) – Курыловіч Юзэф Антонавіч (1840–1917), нарадзіўся ў вёсцы Вярдуба (каля Друскенік). Не апошні мужык, у свае семдзесят два змайстраваў асілка – нашага бацьку. На жаль, акрамя помніка на Гожскіх кладах, другой візуальнай прысутнасці на гэтай зямлі не засталося.

Дзед Юзэф у нашым біяграфічным радаводзе самая цёмная пляма. Памёр, калі майму бацьку было сем гадоў. Аб яго жыцці магла б расказаць толькі яго жонка – мая бабця Паўліна. Са слоў мамы, якая жыла са свякрухай з 1938 па 1941 гады, дзед Юзэф па веравызнанню быў ліцвінскім каталіком. Гаварыў, як і ўсе вяскоўцы, на простай мове. І, самае цікавае, меў дачыненне да 1863 года. Мажліва, ён прымаў удзел у паўстанні, а можа толькі ў зямельных разборках з мясцовым панам. Гэта засталося таямніцай. Адказ на гэтае пытанне могуць даць архіўныя пошукі і то толькі ў тым разе, калі ён засвяціўся як інсургент у спісах Назімава ці Мураўёва.



*Брат дзеда Юзэфа – Курыловіч Марцін (1848–1917).*

**1863**

…Что возмутило вас? волнения Литвы?
Оставьте: это спор славян между собою.
Домашний, старый спор, уж взвешенный судьбою.

***А.С. Пушкин***

*«Мужыцкай праўдаю» залёг*
*ля Вострай Брамы, пад каштанам,*
*дзе далакопаўскі нарог*
*не дабярэцца апантана,*

*бо знік з найменнем Беларусь*
*у «спрэчцы» – мовай закалоту,*
*дзе толькі дваццаць тысяч душ*
*дастаў Сувораў за работу,*

*дзе інсургентны звон вясны*
*архівы песцяць Мураўёвых,*
*дзе памяць топчуць, як сланы,*
*гаспадары гісторый новых,*

*і не спагнаць яе дасюль.*
*Пазняк пытаўся апрыёры*
*і знік дэфолтна, быццам нуль,*
*дай Бог, не ў часе і прасторы.*

## Асветнік



*Курыллові́ч Антоні (1876 – 1954).*
*Мой дзед Юзэф і яго бацька Марцін – родныя браты.*

У сям’і Марціна было тры хлопцы і дзве дзяўчынкі. Антоні – серадольны. У 23 гады закончыў Віленскую духоўную семінарыю, у 26 – каталіцкі інстытут у Парыжы. Абараніў доктарскую дысертацыю на тэму: «Правы народаў падчас вайны ў аспекце маральнасці». Доктар схаластычнай філасофіі. З 1910 года да паяднання з Богам пробашч, пасля вікарый Гродзенскага Бернардынскага касцёла. Падчас Першай сусветнай вайны кіраваў грамадскім камітэтам па аказанні дапамогі жыхарам Гродзеншчыны і Віленшчыны, якія засталіся без сродкаў для жыцця. Адначасова ў манастыры пры Бернардынскім касцёле адкрыў прафесійную школу для асірацелых дзяцей незалежна ад нацыянальнасці і веравызнання з чатырох накірункаў у спецыялізацыі: шавецкі, кравецкі, вышывання і трыкатажны. З 1918 года школа атрымала статус пачатковай, а ксёндз Антоні – бяззменнага дырэктара. З яго лёгкай рукі школа стала стартавай пляцоўкай для адкрыцця ў Гродне пачатковых, сярэдніх і прафесійных школ. Яго намаганнямі былі адкрыты тры сярэднія школы: гандлярская, рамесніцкая і мужчынская гімназія. За асветніцкую і грамадскую працу прэ-зідэнт Польшчы Ігнацы Масціцкі ўзнагародзіў ксяндза Антоні ў 1938 годзе Крыжам Кавалерскім.

У 1942 годзе Курылловіч Антоні як закладнік каля двух месяцаў чакае ў нямецкай турме  сустрэчу са сваім апошнім днём і толькі па волі Бога гэтая сустрэча не адбылася. З 1946 па 1953 гады ксёндз ходзіць як на працу даказваць кэдэбістам, што ў яго няма ніякага дачынення да шпегаў Ватыкану. Пастянныя вобыскі і неадступны, як цень, хвост. На прапановы з’ехаць у Польшчу адказваў: «З’еду тады, калі апошні вернік пакіне гэтую зямлю». З 1946 года да смерці генералісімуса Вялікай Айчыннай з дзвухстадваццаці ксяндзоў з усёй Беларусі 150 сядзелі ў ГУЛАГах. Антоні Курылловічу пашанцавала: спаткаўся з Богам у Бернардынскім касцёле.

**Заўвага:** У прозвішы ксяндза Антоні два л, якое захавалася з польскіх часоў, у апошніх Курыловічаў яно знікла пры атрыманні пашпартаў з сімволікай сярпа і молата.

Біяграфічныя звесткі і здымак атрыманы з часопіса «*Magazyn na uchoctwie*», № 3 (87) marzec 2013, якія не супярэчаць успамінам маіх бацькоў.

## Ахвярны лёс



*Дачка брата ксяндза Курыловіча Міхала – Курыловіч Зоф'я Міхайлаўна, (1913–2008).*

Правая рука ксяндза Антонія ў пяцідзесятых гадах мінулага стагоддзя, калі падаў долу хрысціянскі грэх пагардлівай маршчынай забарадзелага класіка ваяўнічага атэізму, калі на 50 тысяч жыхароў Гародні ён быў адзіным каталіцкім святаром, калі недабітую, акрываўленую веру бернардынскай званіцы людзі ўспрымалі не вухам, а целам, дзе ў трывожным страху сядзела іх душа.

Насуперак усім загадам і атэістычнай прапагандзе яны рабілі ўсё магчымае і немагчымае, каб іх дзеці і ўнукі былі ахрышчаныя, хадзілі да споведзі, прымалі камунію, бралі шлюб, хрысцілі сваіх дзетак і г. д. Цяпер такой працай адкрыта займаюцца ў касцёлах. А ў той час за такое асветніцва можна было і загрымець.

Не думаю, што ксёндз Антоні гэтага не ведаў, калі браў сабе ў памочнікі дзяцей свайго старэйшага брата Міхала.

У пятнаццігадовым узросце падчас падрыхтоўкі да бежмавання я неаднойчы бываў на рэлігійных занятках у Бернардынскім касцёле, якія праводзіла цёця Зося. Заўсёды з цёплай, ласкавай усмешкай да дзяцей, як да сваіх родных. І мама, і нянька, і выхавальніца, кшталту сённяшніх прыёмных бацькоў, толькі яна была без мужа. Помню, мяне вельмі ўразіла чарнявенькая, спрытненькая дзяўчынка гадоў пятнаццаці, са своеасабліва-экзатычнай адраснай усмешкай: толькі мне (так мне здавалася), і з сумнымі, занепакоенымі вочкамі. Але і гэты недахоп толькі падкрэсліваў яе прыгажосць і таямнічасць. Праўда, гэтае хараство я асэнсаваў значна пазней, калі ўпершыню быў пацалаваны ўжо не мамай. Цёця Зося маё захапленне заўважыла. Пазнаёміла. І пры нашых сустрэчах заўсёды перадавала мне ад яе прывітанне.

Напэўна, і ёй ад мяне. На жаль, у маёй галаве ў тыя гады сядзеў другі цвік: што я скажу свайму малодшаму брату Вацлаву, калі ён пачне ізноў мяне дапякаць сваёй вар'яцкай просьбай: «Падсмаж бульбу, падсмаж бульбу».

Юнацкае ўражанне! Не ведаю, як у каго, але ў мяне яно засталося на ўсё жыццё. Менавіта толькі такім анёлкам у маім уяўленні мне бачылася мая палавінка, а ў метамарфознае пераваўсабленне анёлаў у чарцей я не верыў. Як не мудруй, а вышэй бацькі не дзыгнеш. Мудрасць нараджае толькі ўласны гуз, і ўсё залежыць ад іх колькасці. Універсальны закон пераходу колькасці ў якасць, дзе галоўную і незаменную канстанту ачоліў час. Думаю, што ўсе людзі былі б мудрымі, калі б іх час вымяраўся меркаю Бога.

Цёця Зося. Ахвярны лёс зграбнай, прывабнай, разумнай жанчыны. Жыла не для сябе, не для сваіх дзяцей – для сірот, для абяздоленых і аддавала ім усё сваё мацярынскае цяпло.

## Бог заплаціць



*Сын брата ксяндза – Курыловіч Уладзіслаў (Владэк) Міхайлавіч, першы злева. Я і мой бацька пасярэдзіне. Гродна, 1962 г.*

Нарадзіўся ў 1923 годзе. Усюдыісны Фігара ў гаспадарчых справах Бернардынскага касцёла – у перакладзе на сучасную прафесійную мову: прынясі, падай… І ўсё за вельмі «спакусную» ўзнагароду, як сённяшнім нячэсным беларускім пісьменнікам:

Бог заплаціць. З ахвярных грошай ад удзячных прыхаджан, дый яшчэ ў галодны час, не разгавеешся. Людзі жылі надзеяй на Бога, на веру, якая давала моц і рукам, і духу.

Жыў у Гродне па вуліцы Пушкіна. Я – хросны бацька яго сына Міхала. На жаль, Уладзіслаў здрадзіў запавету ксяндза Антоні: пакінуў гэтую зямлю не апошнім вернікам. У пошуках лепшай долі. Не для сябе, а для дзяцей. Жыве ў Сопаце. Каб любіць тутэйшых людзей, трэба патаптаць гэтую зямельку ў «касцюмчыку» ксяндза Антоні.

І яшчэ адна сямейка пакінула родныя вуглы, і ніхто гэтага не заўважыў, можа толькі я, і то праз 50 гадоў, калі пачаў капацца ў радаводзе. Дарэчы, у радаслоўнай я налічыў 254 чалавек (жывых і памерлых). На раздарожжы 1944–1946 гадоў і нават канцы 1950-х 84 абарыгены прагаласавалі нагамі супраць Савецкага раю (перасяліліся ў Польшчу) і толькі трое ў час вайны загінулі ад рук немцаў. Такая ж тэндэнцыя захоўваецца і сёння. З 44-х чалавек (дзеці маіх стрыечных братоў і сясцёр толькі з радаводу мамы) 11 жывуць за мяжой. У Польшчы – 7, у Італіі – 1, у Ялце –3.



*Курыловіч Міхал Марцінавіч, (1872–1950) з жонкай Чурлёніс Юляй. Вёска Швандубра. Бацькі Курыловічаў – Уладзіслава і Зоф'і.*

# Юркава



*Юркава (вясковая мянушка). Яе муж Курыловіч Юрый і мой дзед Юзэф – родныя браты. Здымак зроблены недзе ў 1947 годзе.*

За свой век (муж памёр яшчэ пры паляках) пахавала двух сыноў – Антона і Уладзіслава. Жыла побач з нашай хатай у вёсцы Плябанішкі. Ніколі не магла дакладна сказаць, колькі ёй гадоў. Са слоў маёй мамы і суседзяў – пераваліла за сотню. Добра памятала чуткі пра Нарбута, які ваяваў з царом.

Лёгкая на пад'ём, кожную нядзельку ў свае 100 з гакам, давала фору маладым падчас пешай «прагулкі» (6 км у адзін бок) у Гожскі касцёл.

Пасля Айчыннай вайны засталася з дачкой Аміляй і сынам Уладзіславам, які зямельку, каня і гаспадарчыя прылады «па ўласнай просьбе» здаў у калгас. Альтэрнатыўны варыянт – усё ж лепшы, чым на лесапавалах Сібіры.

Унук бабулі – Курыловіч Альфонс Антонавіч звёў рахункі з жыццём праз самагубства. У апошняй фазе барацьбы з бандфарміраваннямі, у 1949 годзе маладога хлопца «ласкава» запрасілі на бяседу ў КДБ. Што там было, нікому невядома. Адпусцілі.

І толькі для бабці, пасля той «бяседы» ён сказаў: «Лепш смерць, чым яшчэ хоць раз там апынуцца». Так і сталася. Калі за ім прыехалі паўторна, ён паспеў уцячы і замаскіравацца за вёскай ва ўласнай лясной схованцы. Нкусаўскі сабака аператыўна і дабротна зрабіў сваю справу. З той схованкі дасталі яго яшчэ жывым, з нажавым раненнем жывата. Акрываўленага, беспрытомнага палажылі на воз і, як бандыта-АКаўца, везлі цераз усю вёску. Ці меў ён дачыненне да АКаўцаў? У вёсцы аб гэтым ніхто не ведаў. Стогадовая Юркава пазнала свайго ўнука. Залямантавала:

– Што ж вы нарабілі? Бандыты! Ці ж няма у вас Бога, ці ж вы звяры? Ён жа нікому нічога дрэннага не зрабіў?

І ў гэты час Альфонс адкрыў вочы, ціха застагнаў і па яго шчаках пакаціілся слёзы. Юркава загаласіла мацней:

– Ён жа жывы, чаму вы яго не ратуеце? – І, на колькі дазвалялі галасавыя звязкі, працяжна закрычала:

– Людзі! па-ма-жы-ыце!

Гэтае памажыце было апошняе слова для Альфонса, якое, магчыма, ён ужо і не чуў. Некалькі сутаргавых рухаў і абмяк, супакоіўся, нібыта заснуў з шырока адкрытымі нерухомымі шклянымі вачамі.

З ціха-прабачлівым тонам у голасе да Юркавй падыйшоў НКУСавец:

– Бабушка, мы его не трогали, он сделал это сам, вот этим ножом. Вы видели этот нож?

Юркава пазнала незаменнага спадарожніка кухні, працягнула руку, каб забраць.

– Потом, бабушка, потом, – і, крыху памарудзіўшы, дабавіў:

– Погиб ваш внук, молодой хлопец и нам нужно разобраться, как это случилось, и кто в этом виноват. Вам нужно поехать с нами в Гродно. Это ненадолго. Мы вас отвезём обратно. – І ўзяў яе пад руку, каб пасадзіць у машыну. Старая пачала ўпірацца:

– Нікуды я не паеду, гэта ж так далёка. Як жа я пакіну сваё дзіцятка?

У такіх абставінах НКУСаўцы забіралі родзічаў, але акрамя бабулі і яе дачкі Амілі, у якой былі праблемы са здароўем, больш нікога не было. Бацькі Альфонса на той час ужо адспавядаліся перад Усявышнім. Дзве сястры Альфонса жылі у Друскеніках, дачка Юркавай Стэфанія ў вёсцы Прывалка, Разэля ў Парэччы, сын Уладзіслаў на гожскіх кладах. Яшчэ моцную, здаровую бабулю завалачы ў машыну ці то пабаяліся, што старая рассыплецца па дарозе, ці то, што за дастаўку такога стопудовага сведкі з акаўскай суполкі начальства ім не толькі намыліць шыю, а яшчэ і

прадэзінфіцыруе мазгі. Адпусцілі. Засталася з унукам Альфонсам на волі.

Па часе ў трыццаць гадоў мама, мой заядлы спадарожнік у грыбным паляванні, паказала той схоў з патайным лазам. Там была толькі яма і згнілыя парэшткі хвойнага маладняка. Неўзабаве паявіліся і белыя, толькі палажыць іх у кошык я не рызыкнуў, бо ў нашых мясцінах жыве павер'е: грыбы, што выраслі на чалавечай крыві, ядавітыя.

## Цвік

*З цвікарнай прылады дарваўся да ўлады –*
*на троне поп-зоркай бубніць галаве*
*пад цвёрдае колісь, зубастае надо.*
*Цяпер пад фанфары рэкорды ўсе б'е.*

*З цвіком суіцыдным псіхолаг меў справу –*
*што з воза ўпала, таго не вярнуць.*
*У клёку старэчым і злева, і справа*
*цвікі з да-Хрыстовай эпохі жывуць.*

*З цвіком містыцызму бязмен не спрачаўся.*
*Навошта бязмену з жалеза жалеза?*
*А цвік і імперскай галовачцы кляўся:*
*змагар за свабоду – дзівак паланеза.*

*З цвіком рай шукалі антыхрысты з Юдай*
*і Бог, як маўклівасць, пад назваю люд –*
*святая бязгрэшнасць у пошуку цудаў*
*на грэшнай зямельцы і сёння, і тут.*

*Ноў-хаў у цвікарнай матэрыі Свету*
*адкрые масквіч і, як след, зараве,*
*што ўся незалежнасць хахлоў ад саветаў*
*гудзе ў незалежнай ад іх галаве.*

## Последний путь АКовца

*Не нужен отчизне и дому,*
*Помечен аршином изгоя…*
*А в снах было всё по-другому:*
*и смерть даже – в лаврах героя.*

*Как меч отзвеневший дамоклов,*
*омытый сожженной слезою,*
*щетина набухла, намокла,*
*кусачею стала и злою.*

*Две чёрные тени играют,*
*скользя от висков до гортани,*
*надежду с собой забирая*
*за грань неземных очертаний.*

*И время чеканит пустынно,*
*и в такт повторяет злословью:*
*«Бандит. На колени. С повинной.*
*Умоешься собственной кровью».*

## Stary polski kowalier



*Сын Курыловіча Юрыя і Юркавай – Курыловіч Уладзіслаў (Уладак) Юр'евіч. Здымак зроблены ў Гродне, у міжваенным часе Польшчы.*

*Stary polski kowalier.* Пры паляках жыў з уласнага лесу, які ў спадчыну дастаўся ад бацькі. Каму на хату, каму на дровы. На жыццё хапала. Пры немцах гэты ж лес пілаваў ужо сам і вазіў сваім конікам на Гожскі тартак. Практычныя немцы, мусіць, уцямілі, што ад яго тут будзе больш карысці, чым у Нямеччыне. Не вывезлі. Калі пасля Айчыннай вярнуліся саветы, у Уладзіслава засталася адрына, хлеў, карова, тры авечкі, курачкі, «соткі» каля хаты, і свінчо, якое трымаў у лясной патайной яме, каб падаткавыя інспектары з Гожскага сельсавета не абклалі падаткам, стогадовая мама Юркава, і з інваліднасцю сястра Аміля. У тысяча дзевяцьсот

сорак восьмым годзе, як і пры немцах, ізноў пілаваў свой лес і сам грузіў, але ўжо на дзяржаўны савецкі трафейны газагенератарны самаход. І ўсё за адзіную ўзнагароду – каб не вывезлі.

Вясновым днём, калі ў кіпені сады, а ў лесе зязюля некаму адлічвае гады, а можа і дні, Уладзіслаў з такімі ж гастарбайтарамі пілаваў і грузіў на нямецкі трафейны самаход для камунальных патрэб Гродна свой лес і не здагадваўся, што гэта яго апошні дзень. Ці то нямецкі тормаз не адклікнуўся на нагу вечна пад дозаю шафёра, ці то нага пераблытала педаль газа з тормазам, машыну, загружаную бярвеннямі і з сядакамі, як на даху, з горкі панясло. Апракінулася. Уладак не мучыўся. Усё скончылася імгненна. Астатнім пашанцавала – пераломы, сінякі, вывіхі і навука – страсенне шэрай субстанцыі ў галаве.

Пачалося следства. Следчы з Гродна ўнюхаў дыверсію. Пачаў шукаць вінаватага. Антон Пясцюк, які ў міжваенным часе Польшчы быў у Англіі фермерам, дзе яму ўдзяўблі, што жыццё чалавека найвышэйшая каштоўнасць, у запале выгукнуў:

– Чалавек загінуў, а вы пра машыну гаворыце.

– Чалавек, гаворыш, чалавека я вам знайду, а дзе дастаць машыну, можа ў цябе ёсць? – адказаў следчы.

На другі дзень да Антона вечарам пасля допытаў прыйшоў сусед Казлоўскі:

– Антак, уцякай, мне следчы падсунуў паперу, дзе было напісана, што я бачыў, як ты лазіў пад машыну і нешта калупаўся ў прывадным тормазе і паабяцаў, калі не падпішу, то загрымлю разам з табою. Я не падпісаў.

Суседа не пасадзілі, а Антон Пясцюк загрымеў – на 25, але крышку пазней. Не ведаю за што, ды і хто тады пытаўся: за што? Людзей палохала другое – калі не пасадзілі.

## Амерыканка



*Пелуць Стэфанія (Стэфка) Юр'еўна, вясковая мянушка – Амерыканка (1893–1975) – дачка Курыловіча Юрыя і Юркавай і яе муж – Пелуць Антон Адамавіч (1879–1933). Здымак зроблены ў ЗША, 1920 г.*

Напярэданні Першай Сусветнай вайны выехала ў ЗША. На радзіму вярнулася з мужам – Пелуцём Антонам Адамавічам, родам з вескі Прывалка, двума сынамі – Уладзіславам і Костусем, які нарадзіўся на караблі, і з дачкой Генаэфай. На бытавым узроўні знала ангельскую, польскую, літоўскую і рускую мовы, але найлепей гаварыла на роднай, пявучай з непаўторным мясцовым каларытам. Пахавана ў вёсцы Прывалка разам з дачкой Генаэфай.

Дарэчы, вёска Прывалка атрымала такое найменне пасля прыходу савецкай улады. Раней называлася Правалка. Па легендзе, на гэтым месцы калісьці быў горад Райград, які ці то па волі Ўсявышняга ці то антыхрыста раптоўна праваліўся пад зямлю.

Даўней (да торфараспрацовак) каля вёскі на тарфяным балоце існавалі бяздонныя тарфяныя студні да пяці-шасці метраў у дыяметры. У трыццатых гадах мінулага стагоддзя ў такое чортавае вока напярэданні зімы трапіў бык Пелуця Антона Адамавіча. А ранняй вясною, калі ідзе на нераст лешч, прывалкаўскія рыбакі выцягнулі яго невадам з Нёмана. І самае цікавае: за гэты час бык не разлажыўся. Антон Пелуць яго пазнаў па поўсці і белай пляме на лобе. Як ён папаў у Нёман за два кіламетры ад месца трагедыі? Які шлях пад зямлёю спалучаў тую студню з Нёманам? Адказы на гэтыя пытанні тады ніхто і не шукаў. Шкада, магчыма правал міфічнага Райграда атрымаў бы навуковае пацверджанне.




*Пелуць Стэфанія Юр'еўна злева. Справа на здымку яе дачка Генаэфа, ЗША, 1921 г.*



*Сын Пелуця Антона і Стэфаніі. Пелуць Уладзіслаў Антонавіч (1922–1946).*

## Бандыцкая куля

У 1946 годзе на вечарынцы Уладзіслаў заступіўся за прыгожую настаўніцу, якую прыслалі з Расіі ў Прывалкаўскую школу. У спрэчцы загінуў ад агнястрэльнай зброі. Але хто гэта зрабіў, знала толькі яго мама. І гэтую таямніцу, каб пазбегнуць нянавісці паміж вяскоўцаў, яна забрала з сабою. Калі працаваў у Гожскай участковай бальніцы, то неаднойчы чуў ад прывалкаўскіх жыхароў: «Уладак загінуў ад бандыцкай кулі».

## Стаханаўская вахта



*Другі сын Пелуця Антона і Стэфаніі – Пелуць Канстанцін (Костусь) Антонавіч. Здымак зроблены у Друскеніках.*

Безбілетны пасажыр трансатлантычнай пуцявіны тысяча дзевяцьсот дваццаць сёмага года.

Сумесна са шваграм Юрканісам Юзэфам Пятровічам пасля прыходу на пастаяннае жыхарства другіх саветаў «самааддана» змагаўся на прымусовай працоўнай вахце ў вугальных шахтах Данбаса без права на звальненне і выбар прафесіі, з абавязковай нормай выпрацоўкі і жалезабетонным графікам працоўнай змены. За парушэнне працоўнага заканадаўства такса – ад пяці і вышэй. І не ўцячэш, бо ўзамен пашпарта – цыдулка (даведка сельсавета: каму, для чаго і ў якую ўстанову выдадзена).

За самааддданае змаганне, апроч хлеба, давалі яшчэ і вельмі «смачную» баланду. А ў роднай хаце і Юзэфа, і Канстанціна чакаюць маладыя жонкі, смачныя ляшчы, ментузы, шчупакі і келбы (рыба, злоўленая ў Нёмане невадам, захоўвалася ў рачулцы каля хаты перагароджанай сеткамі), ліпава-верасковы мёд і родная бульбачка са скваркаю, а на святы і з жытняю.

Калі працаваў у Гожскай участковай бальніцы, гэтае дабро час ад часу перападала і мне. Пастаянна прывалкаўскі «спецпаёк» атрымлівалі толькі гаспадары «чорных Волгаў». Для гэтай мэты ў Гожскім калгасе «Іскра» працавала (па іх першым патрабаванні) рыбалоўная брыгада на чале з Юрканісам Юзікам. І калі ён мне званіў: «Пятровіч, прыязджай. На заўтра ў нас заказ», – аблізваючыся, ведаў, што без рыбнага хваста дахаты не вярнуся. А яшчэ побач з Прывалкаю была і птушкаферма. Па сённяшніх мерках – закрытае акцыянерскае таварыства, дзе доступ мелі

толькі свае людзі з тымі ж «чорнымі Волгамі». Юзікаў «ІЖ» і мой «К-750» там не каціраваліся.

У 1953 годзе не без дапамогі аўтаспынаў, «возаспынаў» і іншых, што рухаліся, Юзік і Костусь на працягу трох месяцаў уцякалі ад стаханаўскай вахты ў родную Прывалку. І што самае адметнае, аніхто на гэтым шляху іх не здаў, і прытулак давалі, і кармілі, і падвозілі, як родных дзяцей. Але ў роднай хаце іх ўжо чакалі. Не памог і схрон у хляве за двайною сцяною. Я яго бачыў, персанальна абследаваў цераз патайны лаз. Сядзеў хвілін пяць, як у труне. Юзік з Костусем туды не палезлі. У іх на сховы нейкая фабія, у медыцыне не апісаная, са смяротна-алергічным кампанентам, як перад канцом свету.

У не вельмі аддаленых месцах доўга не затрымаліся. Пашанцавала – Сталін памёр.



*«Стаханавец» вугальных шахт Данбаса, пасля бяззменны брыгадзір рыбалоўнай брыгады, якая абслугоўвала гаспадароў «чорных Волгаў» – Юрканіс Юзэф (Юзік) Пятровіч з жонкай Пелуць Генаэфай Антонаўнай. Вёска Прывалка.*



«Народныя» артысты Прывалкаўскай школы. На заднім плане школа – гэта хата Пятра Юрканіса, якую польскія ўлады ўзялі ў арэнду. Арэнднага ганарару хапала з гакам на ўсе гаспадарчыя падаткі. А «гака», як аднойчы пажартаваў Юзік, яшчэ хапіла і на вяселле яму з Гэняй.

## На Дзяды

Юраніс Франц (Франак) Юзэфавіч з жонкай Ірынай. Сваяк па мячу: яго прадзед Курыловіч Юрый Антонавіч і мой дзед Курыловіч Юзэф Антонавіч – родныя браты. Сын Генаэфы і Юзэфа. Пераняў ад бацькоў не кепскую якасць – не здавацца пры любых абставінах. У 1982 годзе скончыў Гродзенскі політэхнікум, у 1991-м Мінскую політэхнічную акадэмію. У вэрхальным змаганні ў 90 гадах мінулага стагоддзя за месца пад сонцам заняўся бізнесам. І не прагадаў. Самадастатковы прадпрымальнік па сантэхнічным абсталяванні ў Гародні. Цяпер у Франка ёсць усё: грошы, хата, лецішча, кемлівы, дасціпны сын Жэня і, як матылёчак на першай кветцы, дачка Вераніка, а яшчэ інтуітыўныя вочы жонкі Ірыны і невялічкія праблемы са здароўем. І пры сустрэчах

я яму заўсёды (па закаранелай звычцы) ка́паю на мазгі: грошы не робяць чалавека шчаслівым, тым больш здаровым. Здароўе – гэта найперш змаганне з самым сабою: нізкакаларыйная ежа, і кожны дзень пяцікіламетровы мацыён. Ён з усмешкаю са мною пагаджаецца: «Заўтра так і зраблю». І я з яго ўсмешкаю пагаджаюся і дабаўляю: заўтра можа і не быць, жыві толькі тым днём, які дае табе Бог. Не ведаю, чым закончыцца наш «паядынак», аднак я яму веру: бацькоўскія гены – гэта падсвядомая памяць і яна ў яго ёсць.



Неяк на Дзяды мы саграшылі – дазволілі сабе кульнуць за іх нябеснае жытло і трэцюю. А ён, прыжмурыўшы вока, задае мне правакацыйнае пытанне:

– А ці магу я атрымаць амерыканскае грамадзянства? Мая ж бабуля Стэфанія была грамадзянкай Штатаў, ды і мама там жа нарадзілася.

Пасля чацвёртай і я ўжо быў грамадзянінам Штатаў. Ах, як нам хацелася тады хоць адным вокам цераз замочную шчыліну паглядзець на тых амерыканцаў. Праз пяць гадоў я іх пабачыў і быў вельмі здзіўлены, калі мяне, бульбаша, (наш карабель стаяў у бостанскім порце) па рацыі папрасілі спусціцца на прычал

і пагаварыць з нейкім маладым хлопцам, які шукаў землякоў з Беларусі, але размаўляў на незразумелай (нярускай) мове. Амерыканец у трэцім пакаленні. І ўсё, што ў яго засталося ад дзеда – гэта мова. Чыстая, крыштальная, без паланізмаў і русізмаў. А колькі было шчырай, я бы сказаў дзіцячай радасці ў яго сінявокіх вачах, бы ў Калумба, які ўпершыню ўбачыў чаканую зямлю. Відавочна, я для яго быў жывым пацвярджэннем: Беларусь – гэта не дзедавая выдумка.

**Белы вэлюм**

*Белы вэлюм, белы дзень*
*зоркамі лунае*
*у спаднічках да калень,*
*цнотай – маладая.*

*Традыцыйнае sto liat*
*маладым. Не шкода.*
*Пад завязку акурат,*
*як зазімкам лёду.*

*Не паспелі і зяўнуць –*
*маладую ўкралі.*
*Следакі шукаць ідуць,*
*бы Феміду – шалі.*

*І не здрадзіў ветру нос –*
*музыкант тут лоўчы,*
*як падкіне долар хтось*
*заіграе двойчы.*

*Падарункі маладой*
*роду маладога*
*у дарозе, за гарой –*
*стрыжань эпілога.*

*На дукат фамільны час:*
*дораць быццам сэрца.*
*Для сто грам не кажуць пас,*
*п’юць, як за камерцыю*

*з маладымі і раднёй,*
*і за іх нашчадкаў,*
*каб з'яднаў з Каўчэга Ной*
*іх з зямлёю-маткай.*

*Белы вэлюм, белы дзень,*
*капялюш з наварам*
*і ірдзее, як агмень, –*
*назбіраў даляраў.*

*З пазалотай, як дуга,*
*ці хамут, магчыма,*
*сват сказаў сваё: «Ага,*
*малады з грашыма».*

*Белы вэлюм, з любым ноч.*
*Першы раз такое –*
*з капялюшыкам наўзбоч,*
*з іміджам каўбоя.*

*Малады зірнуў: «О-го!*
*Ноч мядовай працы».*
*Лічаць колькі.*
*Ад каго.*
*Бачыў папарацы.*

## Альбарутэны

У 1904 годзе ў вуніяцкай царкве (цяпер манастыр базыльянак, ён жа раней – Рэспубліканскі музей гісторыі рэлігіі ў Гродне) мой праваслаўны дзед, стопрацэнтны альбарутэн – Аніська Уладзімір Сямёнавіч, ураджэнец вёскі Пярэсялка (сёння – Гродна, праспект Будаўнікоў) і стопрацэнтная альбарутэнка, каталічка – Ігнатовіч Сарафіна са Скрынік узялі шлюб. Каб – і ні вашым, і ні нашым… «Каб у галоўным – адзіныя, у спрэчным – свабодныя, і ва ўсім – любоў» (Святы Аўгусцін).



*Бабця Сарафіна (злева) з дочкамі – Фэляй і нашай мамай. Вёска Пярэсялка. 1929 г.*

Разумны быў дзед з бабуляю! Эх, каб мая воля! Усе святыні на нашай пакутнай зямельцы зрабіў бы з двума крыжамі – з праваслаўным і каталіцкім, каб у рэжыме *online*, і за адным сталом патрыярх маскоўскага праваслаўя і папа рымскага каталіцтва падзяліліся і прычасціліся Каляднай куццёй і Вялікодным яечкам. І каб мой самы дарагі і любімы ўнучак не казаў маме і бацьку, што ён іх вельмі любіць і абявязкова сходзіць з мамай у касцёл, а з татам у царкву. Беднае дзіцятка! Яму ж трэба будзе вызначыцца: кім быць – каталіком (*беларускім палякам*), ці праваслаўным (*рускім беларусам*).

І так было і ёсць у гэтым Краі заўсёды. І на польскіх *Kresach*, і ў расійскім Северо-Западном. І, як заўсёды, – па жывому: і рэжуць, і рвуць… І кожны раз, калі я гляджу на святочны натоўп і ў царкве, і ў касцёле, мяне не пакідае ўражанне, што недзе там, наверсе, ў магнатэрыях Польшы і Расіі ніхто і не думае аб дзесяці запаведзях Боскіх. Галоўнае для іх – гэта публічнае веравызнанне, каб у працэнтах, і на ўвесь свет заявіць: палякам – пра польскіх каталікоў, рускім – пра рускіх братоў праваслаўных, быццам ніколі і не было на гэтай зямлі карэнных жыхароў Вялікага Княства Літоўскага. Прайшлі стагоддзі, а іх перакананні, як і звычкі, не

мяняюцца. У Мар’яна Дуксы, які часта выступае ў хрысціянскім друку, ёсць такія радкі: «Яднайце ўсіх нас сінагога, мячэць, касцёл альбо царква». Нас можа і яднаюць – людзі з разуменнем і павагаю адносяцца і да ісламскага, і да яўрэйскага, і да праваслаўнага, і да каталіцкага веравызнання. І сёння, як і раней, няма большага злачынства, чым кровапралітная барацьба за веру толькі ў адзінага сапраўднага Бога. Дзесяць запаведзей, якія дамінуюць ў кожнай рэлігійнай канфесіі, сталі закладнікамі, як і іх лідары, вялікай глабальнай палітыкі. А ў палітыцы, як вядома, усе сродкі для дасягнення мэты маральныя. Магчыма, што гэта і з’яўляецца прычынай крызісу веры. Аб’яднанне, да якога заклікае Мар’ян Дукса, мог зрабіць толькі адзін чалавек – Сталін. Але, як былы семінарыст, добра ведаў, што калі нават і заваюе ўвесь свет, то для такога аб’яднання трэба будзе здзейсніць цуд: у пятніцу памерці, а ў нядзельку ўваскрэснуць. А ў цуды ён не верыў. Далей шаманскіх галашэнняў, – «пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся», – не пайшоў. Як не мудруй, але трэба пагадзіцца, што ў духоўнай семінарыіі адукацыя ў разы лепшая, чым у сучасных універсітэтах. Мудры быў чалавек таварыш Сталін, не раўня сучасным.

Неяк спытаў бабулю, ці яна чула што-небудзь пра вялікую польскую пісьменніцу Элізу Ажэшка.

– Ды якая яна вялікая? – адказала бабуля. – Я ёй малако насіла, такая, як і ўсе, а вось Маня насіла малако самому Сняжыцкаму. Доктару!

– Бабцю, а на якой мове вы з ёй размаўлялі? – дапытваюся ў яе.

– Як на якой? На нашай, польскай.

Бабціну «польскую» я чуў не раз. Асабліва сакавіта яна размаўляла са сваёй каляжанкай, якая насіла малако доктару Сняжыцкаму. Падчас копкі бульбы знойдзе пасля яе некалькі бульбін і крычыць: «Маня, з цябе работнік, як з г-на куля: як не забіла, дык заляпіла». Дарэчы, бабця ўпершыню задумалася аб сваёй нацыянальнасці пры савецкай уладзе, калі атрымлівала пашпарт. Пры Польшчы ў пашпарце такой графы не было. Былі каталікі і праваслаўныя, без каментару аб нацыянальнай прыналежнасці. Саветы гэтую недарэчнасць выправілі, каб кожны знаў: хто ёсць хто. Для маіх прабацькоў: беларус – гэта той жа рускі, толькі, як цяпер кажуць, са знакам якасці. І мая мама ніколі не магла з гэтым пагадзіцца – яна была ліцвінкай. І для гэтага былі падставы: яе ўлюбёны паэт Адам Міцкевіч Літву называў сваёю

Радзімаю. Не апошнюю кропку ў асэнсаванні яе нацыянальнай праналежнасці паставіў і ксёндз Бернардынскага касцёла ў Гродне Курылловіч Антоні, стрыечны брат майго бацькі, які з гонарам падкрэсліваў, што ён *ліцьвін* (менавіта так – з націскным ***і*** ў першым складзе і з мяккім ц). З ксяндзом у мяне была толькі адна сустрэча, калі пасля хрышчэння немаўляці з нашай радні сядзеў з ім за адным сталом. Спачатку размова вялася на польскай мове, але калі ён адчуў, што гападыня імпрэзы на польскай ведае добра толькі «Ойча наш»… перайшоў на тутэйшую. Асацыятыўныя параўнанні валодання матчынаю моваю ксяндза Антонія з сучаснымі каталіцкімі святарамі не на карысць апошнім. Ад яго слоў зыходзіла жыццядайная энергетыка з нейкім унікальным лексічным і сінтаксічным зместам. Цікава, які доктар прышчапіў яму любоў да матчынага слоўца? Атачэнне, сям'я, духоўная семінарыя? На жаль, хуткаплынны час зрабіў сваю справу, і маё пытане знікае развітальнай імшой з парадку дня як непатрэбнае, як і сама любоў да матчынай мовы.

Мой дзед Уладзімір з 1914 па 1916 год ваяваў у царскай арміі. Выконваў абавязкі ветэрынарнага фельчара. Гаспадар нетрывіяльнай працаздольнасці. І ўсё задуманае здзейсніў. Пяць дочак і кожнай пасаг – па гектару зямлі, найбяднейшы для маёй мамы – шэсць сотак і хату на сто квадратных метраў у Гродне па вуліцы Красная, дом № 4. Апошняму сыну, як спадкаемцу, увесь гаспадарскі скарб – 15 гектараў зямлі, пяць з якіх выкупіў у пана перад вайною за царскія пятнаццацірублёвыя залатнікі, хату, адрыну, хлявы, свіронкі, сад і ўсе гаспадарчыя прылады (малатарня, бульбакапалка, манеж, жняярка).

Сёння за сотку зямлі ў Грандзічах (каля Гродна) даюць тысячу баксаў. Вось і атрымліваецца, што дзед (па сённяшніх мерках) для кожнай дачкі (акрамя маёй мамы) даў па сто тысяч даляраў, а сыну паўтара мільёна. Дзеду і ў самым страшным сне ніколі не снілася, што гэты скарб (зямля), зароблены такой цяжкай працай, можа хтосьці забраць. Як малітву-заклінанне, паўтараў дзядуля аднавяскоўцам: «Зямля не гарыць, жыццё ў чалавека могуць адняць, зямлю – не, няма такога закону і ніхто яго не прыдумае». І падстаў для сумнення не было. Бо і на самай справе, ніхто ў гаспадара зямлю не забіраў: ні цар, ні немцы, ні палякі… Было штосьці святое. Гэта ўжо пасля, калі пачалася барацьба за адзін народ з адной краінай, з адной верай і з адной касай, гаспадар стаў сацыяльна небяспечным элементам. І паявіўся савецкі чалавек па

вобразу правадыра сусветнага пралетарыяту з выцягнутай рукою, якая неўзабаве ў яго згубіла ўсе свае функцыі, акрамя адной – дай (пенсію, кватэру, медыцынскую дапамогу і г.д.). І ён жыве: тут і сёння. Ва ўсякім разе, на першых прэзідэнцкіх выбарах 82,7 % беларусаў, ад вынаходнікаў з амбіцыёзнымі прапановамі не ніжэй чым у Біл Гейца і Стыва Джобса да закадзіраванага пенсіянера, спадзяваліся, што ў гэтую руку яшчэ штосьці пакладуць. Прасіць – гэта не лёс, гэта нават і не прафесія, гэта дыягназ.

Мяркую, што дай, як псіхалагічная прышчэпка – усё вакол калгаснае, усё вакол маё, памагла злодзею прабіцца ў алігархі з дзяржаўнай гарантыяй недатыкальнасці да накрадзенай маёмасці.

### Намеснікі

*Стырно прыдумаў пастулат,*
*калі даваў Бог людзям манку.*
*Яго намеснікі (іх шмат)*
*цяпер за Бога цягнуць лямку.*



*У 1904 годзе вуніяцкая царква. Цяпер манастыр базыльянак, ён жа – Рэспубліканскі музей гісторыі рэлігіі ў Гародні.*

***Даведка.*** Грэка-каталіцкае аб'яднанне каталікоў і праваслаўных ў Рэчы Паспалітай адбылося 18 кастрычніка 1596 года ў Бярэсці, пад назвай Берасцейская вунія, якую ў дэкрэтах зацвердзілі Кароль і вялікі князь Жыгімонт III Ваза і Рымскі папа Клімент VIII. Напрыканцы 18 стагоддзя ў ВКЛ было 39 % вуніятаў (1 804 388), 38 % каталікоў, 6,5 % праваслаўных. У студзені 1839 года з дапамогай 29-га палка палкоўніка Карнеева пачалося добраахвотнае «воссоединение, возвращение к природной вере праотцов». 111 святароў напісалі расійскаму цару прашэнне: «Калі вунія будзе скасавана, мы жадаем перайсці ў каталіцтва». 31-го арыштавалі, быў суд. Двух на высылку, астатніх – у кляшторы і дзячкі.

12 лютага 1839 года ў Полацку быў падпісаны Саборны Акт, у якім вуніяцкая царква па просьбе прыхажан далучалася да праваслаўнай. Імператар Мікалай I на дакуменце напісаў: «Благодарю Бога и принимаю».



*Дзядуля. Аніська Уладзімір Сямёнавіч. (1876–1966).*

## Рукі

*– Спеляць, грэюць і мадзеюць*
*уздагонкам навырост.*
*–Белакрылую лілею*
*запрашаюць на пагост?*

*–Твораць зорную кар'еру!*
*– Гастарбайтара аклад?*
*– Вынаходніку – сякеру.*
*– Для разборак акурат?*

*– Паднімаюць цэнз сугрэва.*
*– Зачахлёнасці наіў?!*
*Чаркай справа, чаркай злева:*
*з непітушчых, каб не кпіў?*

*А пахмелцы кукіш з грані:*
*не пускае каляя,*
*без заначкі сквапны Каін*
*і эдэмская змяя?*

*–Залатыя ў земляроба!*
*–З выхілясамі, як корч,*
*каб выслоўем стол аздобіў,*
*што і ён жыве не горш?*

## *Sto liat* маршалку Пілсудскаму



*Брат мамы – Аніська Казімір Уладзіміравіч (1909–1998), 1935 год.*

Кавалерыст Войска Польскага яшчэ пры жывым маршалку Пілсудскім. Пасля службы вярнуўся дахаты на Сенатары – коніку, з якім не разлучаўся падчас службы. (Узнагарода за вайсковыя поспехі). Да ваеннага процістаяння палякаў з немцамі і бальшавікамі ў верасні 1939 года аніякага дачынення не меў. Але пасля аб'яднання двух народаў ці то за мянушку каня, ці то за тое, што неаднойчы спяваў маршалку Пілсудскаму «*sto liat*», дзесяць гадоў мыў золата на Калыме. Адтрубіў ад званка да званка. Калі вярнуўся ў пярэсялскія пенаты, то зразумеў, што гэта можа быць не апошняя ходка на Калыму – за грахі ў біяграфічным звяне. Як тады казалі: быў бы чалавек, а артыкул знойдзецца. Падчас апошняй рэпатрыяцыі ўцёк у Польшчу.

***

*Во «злыдняў» Сталін замачыў*
*і ў адзіночку, без халопаў,*
*а калі не, чаго маўчым*
*са старушэнцыяй Еўропай?*

*Фашысту сніцца дамавіна –*
*без часу даўнасці рахубы,*
*а ў нас заначка каляіне –*
*на пастаментах душагубы.*

*Ну, а пасля, пасля вайны,*
*як кажуць людзі, дай ты рады,*
*хто б кіраваў, каб не яны,*
*рукой жалезнаю з пасады?*

*Не праўды зніч, пакуль віваты:*
*там далягляд звініць за шкельцам,*
*і не чакае вінаватых*
*пятля з другім канцом на бэльцы.*

### Каюк

*Ажыў збянтэжаны салоўка,*
*(маўлялі – нкусаўскі байструк)*
*бо нат імя (матулі слоўка)*
*змяніў на новае: каюк,*

*каб знікнуў след матулькі куляй,*
*як вераснёўскі зарапад,*
*як той хамут, што шыю муляў*
*званком святых, вялікіх дат,*

*і Курапатскі, што адплакаў*
*над спавядальнасцю кастра,*
*дзе знак «варожы» Задыяка*
*не пусціць трэцяя вярста,*

*а разам з ім, каб знік паволі,*
*і след нашчадкаў, што былі,*
*як ідэнтычнасць для пароля*
*на еўрапейскае зямлі.*

## Лясныя браты

Упершыню са сваім братам я пазнаёміўся ў пачатку пяцідзесятых мінулага стагоддзя, калі ён прыехаў на Сенатары (мянушка каня) са сваёй Дзевятоўкі ў Плябанішкі, каб дапамагчы маме пакасіць і абмалаціць палоску ячменю для курачак.



*Асноўчык Казімір (Казік) Янавіч, (1932–2005). Вёска Дзевятоўка, Гродзенскі раён, 1969 г. Мой дваюрадны брат.*

Пад вечар сусед накіраваўся ў лес гнаць самагонку. Казік, у якога быў трафейны нямецкі фотаапарат, загарэўся жаданнем увекавечыць гэты працэс на фатаграфіях. Перад змярканнем, пасля паспяховага фотаўвекавечвання, пад парнікам (бочка з вадой) паявіліся першыя вогненныя языкі. Непажаданы інфармацыйны дымок над лесам зліваўся з вечароваю смугою. І раптам трэск, пасля рогат. Сусед натапырыў вуха:

– Хлопцы, уцякайце, гэта лясныя.

І мы рванулі, ды так, што цягам дзесяці хвілін апынуліся ў зусім незнаёмым мне месцы. Сцямнела. Пачалі прыслухоўвацца з надзеяй пачуць выратавальныя пазыўныя плябанішскіх сабак. І пачулі!

– Ваўкі! – ціха, амаль шопатам, – сказаў Казік.

Пабеглі ў процілеглым напрамку, задыхаўшыся, зрабілі прыпынак каля кашлатай елкі. Пачалі ізноў прыслухоўвацца. У наш бок нехта бяжыць. Праз хвіліну каля самых ног пранеслася нейкае шэра-лахматае стварэнне. Заяц, мільганула думка. Не ведаю, дзе ў гэты момант была заечая душа, але ў мяне яна пакінула нават пяткі. Казік палез на елку, я за ім.

Маю радасць сустрэчы з першымі промнямі каляровага неба Казік не заўважыў. Згубіў фотаапарат. Двухгадзінныя пошукі дабавілі толькі скрухі.

Сенатара лясныя браты не канфіскавалі. Ці то конь ім шапнуў: хлопцы, супакойцеся, я служыў яшчэ пры маршалку Пілсудскім і калі вам пашанцуе з ім сустрэцца, а без гэтага аніяк, ён вам такое злачынства не даруе, ці то закусі не хапіла, але хутчэй за ўсё сваё выратавальнае слова сказаў пяршак. Сусед шчасліва вярнуўся дахаты з каністрай стопрацантовай жытнёўкі на кані.

Казімір пры савецкай уладзе закончыў два ўніверы – фармацэўтычны і аграномічны. І, як ні стараўся, вышэй шараговага фармацэўта і агранома па службовай лесвіцы не падняўся. І толькі пасля зразумеў, што ў той час на ключавыя пасады ставілі толькі чальцоў КПСС з усходніх і паўночных рэгіёнаў БССР, а найчасцей з Расіі. Тутэйшыя кадры з кляймом «заходніка», акрамя Сяргея Прытыцкага, не каціраваліся.





*Конь Сенатар – падарунак для дзядзькі Аніські Казіміра за службу ў Польскім Войску і апошні скарб дзедавай гаспадаркі ў вёсцы Пярэсялка. У пачатку пяцідзесятых мінулага стагоддзя конік атабарыўся ў Асноўчык Стэфаніі (Стэфкі) – сястры мамы. На кані – муж Стэфаніі – Асноўчык Янак, вёска Дзевятоўка, 1959 год; справа – Стэфанія (1904–1978), вёска Пярэсялка, 1938 год.*

## Казка

*Казцы здрадзілі прагнозы,*
*бо ў карчме жытнёўку п'юць:*
*мой сусед сядзіць на дозе,*
*разам з ім і я – чуць-чуць.*

*А Іванка  пры карыце*
*рэй славеснасці вядзе,*
*бы з мядком прарочы рыцар,*
*аж цячэ па барадзе.*

*Альтруізм яго да скону*
*за біблейскімі дзвярмі,*
*каб не зведаў «рай» аскому,*
*што набілі салаўі.*

*А заробак лечыць кома,*
*як нябожчыка – імша,*
*і ў казцы, як вядома,*
*з ёй сустрэнецца  душа.*

## Рэкорд з кнігі Гінеса

Пасля далучэння пярэсялскіх пенатаў да гарадской цывілізацыі, а менавіта да Гродна з пераўтварэннем вёскі Пярэсялка ў праспект Будаўнікоў, цетка Марыся  атрымала аднапакаёўку. Яе муж гадоў дзесяць таму назад ужо адспавядаўся за ўсе зямныя грахі ў свайго нябеснага святога цёзкі Пятра. Аднапакаёўка цёткі Марысі знаходзілася пад самым небам дзевяціпавярховага хмарачоса, а на першым, прыземленым у атачэнні арабін, бяроз і белых клёнаў, жыў мой брат Вацлаў. І калі я прыходзіў да Вацлава, найчасцей за кансультацыяй, як да майстра па тэхнічным вынаходстве на ўзроўні Томаса Альвы Эдысона, то амаль заўсёды  сустракаў на лавачцы ў засені кашлатага белага клёна то з ксёнжкай, то з часопісам сваю цётачку. Аднаго разу, пасля кароткага прывітання, цётка Марыся звярнулася з нечаканай для мяне просьбай:



*Сястра мамы – Кізюкевіч Марыя (Маня, Марыся) Уладзіміраўна, справа (1906–2001). Злева – мая мама. Вёска Пярэсялка, 1932 г.*

– Метак, (тутэйшае імя Мечыслава) ты што-небудзь петрыш у інтэрнэце?

– Трохі, а што ёсць праблемы, – запытаўся я.

– Ды, ведаеш, нешта «глючыць», – занепакоена паскардзілася цётачка.

Добра, што працаваў ліфт. Для цёткі ў яе 90 ён быў і не вельмі патрэбны, але мне пад коптур спадабаўся вынаходзак цывілізацыі. Я хутка знайшоў цётчын «глюк». Прычынай была ўпэўненасць, што ёй не патрэбны акуляры і яна вечна путала адну лічбу ў паролі.

У гэты час заходзіць да яе з суседняй кватэры каляжанка. Верагодна пранюхала, што ў суседкі паявіўся камп'ютэрны «хакер».

– Маня, памажы: трэба пераслаць сыну ў Амэрыку (тры гады назад выехаў па «зялёнай карце») мой электронны адрас для размоваў па скайпе.

Цётка Марыся змерыла вокам звышгабарытную, з круглым, як Поўня, тварам яшчэ малажавую каляжанку.

– Ты што, звар'яцела, паслаць у Амэрыку свой электронны адрас? Яны, вунь, у сухарлявага Бен-Ладана не прамахнуліся, табе што, прыпякло хутчэй трапіць у рай?

Я даў для цёткі свае акуляры і пазайздросціў яе хакернаму майстэрству ў размове на ты з гэтай жалезнай скрынкай. На развітанне пытаюся:

– Цёця, а навошта вам на старасць гадоў усё гэта патрэбна?

Цётка паглядзела на мяне, як на марсіянскага дыназаўра:

–Ты ведаеш, калі старасць пачынаецца? Не са скрутка гадоў на рагах, не з акуляраў і нават не з кіёчка, а тады, калі перастаў разумець новыя сучасныя тэхналогіі.

Цётка Марыся новыя сучасныя тэхналогіі разумела і ў старасць, як наканаванне бездапаможнасці, не верыла, і пераканаўча даводзіла сяброўкам, што ў гэтай «каляжанкі» ёсць толькі адзін недахоп – канчаецца, а дух здароўя корміць праца. Да скону дзён.

Па канстытуцыі цела дзевяностагадовая цётка Марыся была ў нечым падобная да Юркавай, у якой падчас барацьбы з «бандфарміраваннямі» загінуў унук, якая ў стогадовым узросце не цуралася пешай шасцікіламетровай дарогі ў Гожскі касцёл.

У кнізе Гінеса ёсць многа рэкордаў і, у тым ліку, – хто каго пераплюне. Цётка Марыся ў такіх спаборніцтвах не ўдзельнічала. Працавала птушкаводам на птушкаферме (у апошнія гады старажам) да апошняга дня. Першы раз на рабоце заснула і не прачнулася.



*Дочкі цёткі Марысі. Вёска Пярэсялка, 1943 г.*

## Сямейнае табу



*Сястра мамы – Шаркоўская Станіслава (1908–1995) з мужам Адамам (Áдасем). Вёска Пярэсялка. 1933 г.*

Цётка Стася першапачатковую адукацыю па земляробству атрымала ад мамы, з цягам часу па вышыванню ў прафесійна-тэхнічнай школе ў Гродне. Пасля прыходу другіх Саветаў папоўніла рады працоўнага класа будаўнікоў сацыялізму на водазаборнай станцыі Гародні.

Выкшталцона размаўляла на польскай, рускай і матчынай мовах. Заўсёды з усмешкай. Вострая на язык. Тамада любой кампаніі. Я неаднойчы быў сведкам, калі на сямейных святкаваннях нехта адсутнічаў, то гэтага ніхто не заўважаў, а калі адсутнічала цётка Стася – заўважалі ўсе.

Мне здавалася, што дзядзьку Адася я знаю дасканала і даўно, як і сваю арыстакратычна-шляхетную цётачку Станіславу. Сціплы, немнагаслоўны і заўсёды з нейкім таямнічым сумам. Але аднойчы, дзякуючы яго вялікасці выпадку, я ўбачыў, што гэта зусім іншы чалавек. І гэтае метамарфознае пераўвасабленне дзядзькі засталося ў маёй памяці назаўсёды.

Было гэта ў 1962 годзе, калі (чытаў у «Праўдзе») амерыканскія спецслужбы для зруйнавання ў Сінявокай пасняхова культывуючай монакультуры, а менавіта бульбы, закінулі тады яшчэ нікому не зразумелага жука, які быў бульбашом у квадраце, бо любіў гэтую бульбу, як ніхто на свеце. Тутэйшыя абарыгены, прынамсі, навакольных вёсак Гародні, пасля двуногага крамлёўскага, на гэтага каларадскага бульбаша асаблівай увагі не звярталі. Але ў аблвыканкаме, дзе ў той час у хлебаробным аддзеле «змагаўся» за плённа-высокія ўраджаі дзядзька Адам, на гэтага «прыгажуна» глядзелі крыху інакш, бо генеральнай лініяй

партыіі, якую ў той час ачольваў найвялікшы хлебароб Усея Расіі Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў, была пастаўлена задача: мабілізаваць на перадавую з ворагам амерыканскага імперыялізму вучняў, студэнтаў, пэтэвушнікаў ды і ўсю, з іх задорам і імпэтам, крылата-зоркавую камсамольскую моладзь. Не ведаю, як праводзіў мабілізацыю Адам Шаркоўскі, але аднойчы, як студэнта другога курса Гродзенскага медыцынскага інстытута, у гэтае ганаровае кола барацьбітоў з жуком ён запрасіў і мяне. Я прыняў яго прапанову не тое, што без энтузіязму, а хутчэй, як просьбу па сваяцкай лініі. Праўда, была там маленькая фішка: за кожнага жучка абяцалі заплаціць тры капейкі (хлеб тады каштаваў 12, праезд у аўтобусе 4). Палазіўшы ў вёсцы Пярэсялка па бабуліным картапляным агародзе, мой запалкавы карабок за паўгадзіны ўжо цягнуў на тры рублі. Шалёныя грошы для студэнта за трыццаць хвілін працы, пры стыпэндыі ў трыццаць рублёў. І з гэтым скарбам падаўся ў аблвыканкам да дзядзькі Адама. Не памятаю, ці атрымаў я тыя тры рублі, але лекцыя Шаркоўскага Адама пра каларадскага жука мне помніцца яшчэ і сёння. З той сустрэчы мінула пяцьдзесят гадоў. Няма ўжо дзядзькі Адама, але я заўсёды чую яго слова і бачу яго такім, якім ён быў у якасці лектара. Строгі ангельскі касцюм, белая накрухмаленая кашуля, бабачка, у вачах памаладзелыя іскрынкі, інтрыгуючыя паўзы, артыстычныя рухі рук, адметная загадкавая ўсмешка, вострыя з гумарам жарты і дасціпныя адказы на рэплікі. Каля гадзіны і без шпаргалкі, а нас у зале каля пяцідзесяці юнакоў і дзяўчат і заварожаная цішыня. А пасля бясконцыя пытанні і асабліва ад дзяўчат. Я глядзеў на іх і зайздросціў для дзядзькі. Вось бы мне такі поспех ад лепшай паловы. Вядома ж, у той польскай гаспадарчай гімназіі вывучалі рыторыку, харэаграфію, літаратуру і г.д.

Дзве постаці ў адной асобе. У побытавым атачэнні – ціхі, стрыманы, з нейкім болем суму і трывогі, і зусім другі ў якасці лектара, прамоўцы: з узнёсла-вясёлым і дасціпна-загадкавым імпэтам і пераканаўчымі тэзамі ў Слове.

Пра прычыну дзядзькавага смутку я даведаўся значна пазней. Толькі пасля развалу гулагаўскай імперыі была раскрыта таямніца (сямейнае табу) Шаркоўскіх. Яго бацькі (мама і тата) пасля прыходу першых саветаў раздзялілі лёс кулацкага элемента. Бясследна зніклі пасля дэпартацыі ў Сібір. І гэты жах усё жыццё сядзеў у яго сэрцы.

Дарэчы, пра сямейнае табу бацькоў маёй жонкі я даведаўся праз трыццаць два гады пасля жаніцьбы падчас гарбачоўскай галоснасці. Яе дзед Талочка Эдвард з вёскі Жыдомля (каля Гродна) 21 чэрвеня 1941 года з сям'ёй знаходзіўся ў эшалоне з цялятнікаў

(вагоны для перавозкі жывёл) на дэпартацыю. За Скідзелем у паравоз трапіла з самалёта нямецкая бомба.

– І што, – пытаюся ў свайго цесця, які разам з бацькам быў у тым эшалоне, – вам ніхто не перашкодзіў уцячы?

– А мы і не ўцякалі, – адказаў ён з усмешкаю. – Зухаватыя хлопцы, што з адкрытымі штыкамі заганялі нас у вагоны, раптам пераўвасобіліся ў нармальных, спагадлівых і добразычлівых людзей. Яны былі падобныя да салдатаў з конніцы Гая, якіх гнаў з-пад Варшавы Пілсудскі ў 1920 годзе. Мне тады было дванаццаць гадоў. Памятаю, як у нашую хату пастукаўся малады салдацік:

– Хазяйка, вады, вады.

Мама дала яму малака і лусту хлеба і гледзячы на яго, як ён, не жуючы, глытае хлеб, завязала ў хустку бохан хлеба і добры кавалак сала, перажагнала хлопца і са слязьмі на вачах, дабавіла:

– Сыночак, гэта табе на дарогу, каб ты шчаслівенька вярнуўся да сваёй мамы.

Тады нам пашанцавала. Вярнуліся яшчэ ў неразрабаваную сваю хату.

Дваюрадную сястру цешчы з трыма малымі летам у 1939 годзе вывезлі ў Казахстан. Самае маленькае дзіцятка загінула па дарозе ў цялятніку. З двума старэйшымі яе пасялілі ў адрыне. Зімою 1940 года дэпартаваны сусед з іх вёскі некалькі разоў прыносіў ім мёрзлую бульбу. Аднаго разу яго адправілі ў суседні раён. Адтуль ён уцёк дахаты. Аб іх лёсе ніхто з родзічаў нічога не ведаў. Сусед – апошні чалавек, які бачыў іх яшчэ жывымі.

Родны брат маёй цешчы Лісоўскі Мар'ян Станіслававіч, родам з вёскі Батароўка (каля Гродна) раздзяліў лёс Яна Боціса. Як шараговы Войска Польскага трапіў у палон Чырвонай Арміі.

Каля месяца знаходзіўся на бязлюднай выспе ў дэльце Волгі. Як ён трапіў у армію Андэрса, я не ведаю. Ваяваў пад Монта Касына. Пасля развалу Саюза прыехаў з Канады да сястры ў Гродна. І перад тым, як сесці за стол, папрасіў мяне, каб завёз яго ў Батароўку, дзе яшчэ захавалася яго радзіннае гняздо.

Доўга абмацваў сцены хаты, свіронка, пасля падышоў да студні, выцягнуў вядро вады, напіўся і ўсміхнуўшыся, сказаў:

– Ну вось, цяпер можна і паміраць, але паедзем, там ужо, пэўна, зачакаліся.

– Вуек, а чаго раней не прыехаў? – пытаю ў яго, – у нас ужо дзесяць гадоў, як няма Саюза.

– Баяўся – адказаў ён. – Я ведаў, што Саюз разваліўся, але не верыў, што калі прыеду, то мяне ізноў не запруць паміраць на бязлюдную выспу ў Каспійскім моры.

Пра вайну Мар'ян Лісоўскі расказваць не любіў, адразу замыкаўся ў сабе, пачынаў прынімаць лякарства ад сэрца і ў яго душу я не лез.

**Дэпартацыі:**

*Першы этап*

*Нікуды не дзецца,*
*час прыйшоў на лямант –*
*чорт змяёй крадзецца*
*зруйнаваць фундамент.*

*Ліпкаю імгою*
*спавівае морак,*
*дзядзьку з барадою*
*памяне падворак.*

*Баль спраўляе вечар*
*і зямля сырая,*
*жуда не пярэчыць*
*першая, другая…*

*Сталіністаў пыха*
*вострая, як восці.*
*Мама просіць ціха*
*толькі ў Бога штосьці.*

*Другі этап...*

*Ніяк не верыць у сквар Масква:*
*у вагонах не людзі, а вырадкі часу,*
*варожыя шкуры запар са зла*
*ўсяму пралетарскаму класу.*

*Гіне дзіцятка, большай бяды*
*лепш і не бачыць, няхай Бог крые,*
*а тут бы ў бочцы, як селядцы,*
*і без ратунку – зомбі глухія.*

*Маці ўчарнела, рук не аддзерці*
*ад немаўляці, што не астыла,*
*і раем спагады ёй мроіцца смерць,*
*і шчасцем ратунку – магіла.*

*У дарозе стаянка, спякоты настой,*
*ізноў пераклічка – жывых палічылі…*
*А маці ўсё шэпча вярсту за вярстой:*
*«Сыночка, сыночка забылі».*



*Шаркоўская Станіслава (у цэнтры) з трохгадовай дачкой Данутай. Справа – мая мама, вёска Пярэсялка, 1935 г.*



*Шаркоўская Станіслава з дачкой і сынам, г. Гродна, 1938 г.*



*Справа ў другім радзе сын цёткі Стасі – Шаркоўскі Януш Адамавіч. Перад ім яго жонка – Шаркоўская Людміла Фартунатаўна з дзяцьмі – Ленай і Івонай. Я – вусаты хірур, анколаг і па сумяшчэнню агурочны « бізнесовец» на шасці сотках свайго лецішча. Гродна. 1977 г.*

Лена і Івона сярэднюю адукацыю атрымалі ў Гродне, вышэйшую ў Польшчы. Івона працуе урачом, Лена эканамістам у банку. Жывуць у Варшаве.

Януш Шаркоўскі – чалавек фенаменальнай памяці. Пра такога ў народзе кажуць: хадзячая энцыклапедзія. Яго веды здзіўляюць. І не толькі прафесійныя ў аўтамабільнай справе, але і ў гісторыі Беларусі, Польшчы, Расіі, і асабліва ў рэлігіі. Я тры месяцы збіраў звесткі аб радаводзе, і калі пазваніў Янушу без аніякай надзеі, што ён нешта дапоўніць, бо наймалодшы сярод нас, то з адвіслай сківіцай паўгадзіны слухаў, як ён усё гэта мне расказвае экспромтам. (*…І прозвішчы, у тым ліку дзявочыя, і імёны, і даты, і месца народзін, і смерці і г.д*). Жыве ў Гародні, пільнуе бацькоўскую спадчыну.



*Лена і Івона са сваімі палавінкамі,*
*Пятром і Яцэкам. Варшава, 2010 г.*

**Моладзь**

*Зірнуўшы на нашу свабоду,*
*на свет паглядзеўшы іначай,*
*смяюцца з бацькоў за іх згоду*
*у сяброўстве жыць з доляй сабачай.*

*Гулліва на Захад імкнуцца.*
*Адкрытыя дзверы наўсцяж,*

*дзе нітачкі часу не рвуцца,*
*дзе і дух, як гавораць, не наш.*

*Не хочуць чакаць лепшай долі,*
*ды й жыць па-бацькоўску, дарэчы,*
*і слухаць, як вецер у полі.*
*здароваму сэнсу пярэчыць.*

*Гляжу на іх ветразь жадання,*
*зіхоткі і зыркі агонь*
*і веру, што болей не стане*
*на шчасце запрэжаны конь.*

## Гандлёвы агент



*Сын цёткі Стасі – Шаркоўскі Зыгмунд Адамавіч. Мінск, 1972 г.*

Пару гадоў назад Зыгмунт са сваім братам Янушам завіталі да мяне ў Грандзічы. Нечаканыя госці.

– Хлопцы, – кажу, – паглядзіце пакуль тэлевізар, а я ашчасліўлю сваім візітам прадуктовую краму. Вяртаюся з поўным камплектам гасцінных боепрыпасаў. На дарозе перад самай хатай тармазнула іншамарка. Выскакваюць маладыя хлопцы і звяртаюцца да мяне з інтрыгуючай ціха-слязлівай просьбай:

– Мы жывём у Лідзе. Сёння на гродзенскім рынку купілі сабе патрэбныя для працы прылады, вось паглядзіце, – і адкрываюць багажнік, – усё новенькае, не кітайскае: бензапіла бошаўская, балгарка, прафесійная дрэль, універсальны набор ключоў, набор кухонных нажоў… Хацелі яшчэ купіць для машыны зімовыя шыны, але добрыя людзі нам падказалі, што на Літве іх можна купіць танней. Вось мы туды і едзем. Паважаны гаспадар, дапамажыце, калі ласка! Ці можна ў вас пакінуць тавар? На мяжы яго могуць канфіскаваць. Калі будзем вяртацца, забярэм.

– Чаму і не дапамагчы гаспадарчым хлопцам, – адказваю ім з усмешкай.

– Вы тут у мяне не першыя, – і адкрываю вароты на падворак. – Заязджайце, калі ласка.

Хлопцы хуценька на сваёй іншамарцы апынуліся на падворку, перад вакном хаты, дзе сядзеў Зыгмунт са сваім братам Янушам.

– А дзе ўсё гэтае дабро можна пакласці?

– Нясіце ў гараж, замок надзейны і Даберман-пінчар не падвядзе, – адказваю павесялелым небаракам.

– Дзядзечка родненькі, дапамажыце: усё гэтае дабро каштуе паўтары тысячы, мы вам аддамо за дзевяцьсот.

Дастаю дзевяцьсот тысяч (беларускіх).

Хлопцы ніякавата ўсміхнуліся:

– Вы што! – доляраў!

– Хлопцы, я не ведаю адкуль у вас гэтае бошаўскае дабро, дзе вы яго дасталі і па якой цане, у мяне доляраў няма, – не ўцяміўшы ў чым справа, адказваю небаракам.

– Дзядзечка родненькі, дапамажыце, мы станем на калені, забярыце толькі, аддамо за пяцьсот, – і так населі, як ваўкі на авечку.

Увесь гэты канцэрт назіраў з акна Зыгмунт. Хутка змікіціў у чым тут справа, бо я разгублена яшчэ не дапетрыў, што ім ад мяне трэба. Выходзіць з хаты:

– Хлопцы, забіраю ў вас усё, на бартэр. Вунь бачыце дзве казы? (пасвіліся на агародзе ў суседа) Забірайце! Мала? – зірнуў на зухаватага пеўня, – і яго аддаю ў прыдачу, – і дастае з кішэні дзесяць доляраў:

– А гэта вам, на руку, – стаў на калені:

– Родненькія, больш нічога не маю, дапамажыце, мне вельмі патрэбныя гэтыя прылады. Бажыўся, нават слязу пусціў.

Я ведаў, што ў Зыгмунта ёсць артыстычныя здольнасці, але каб такія – упершыню. Хлопцы яшчэ цягам дзесяці мінут адбіваліся ад

яго прафесійна-выкшталцонай імправізацыі і мне нават стала іх крыху шкада.

Першы тост быў за гандлёва-рэкламны ролік Зыгмунта, другі за тое, каб ён памяняў прафесію інжынера на гандлёвага агента, трэці – традыцыйны.

### Рэкламнае

*Хто першым дазвоніцца – скідка 50 %.*

*Лечым сэрца, горла,ногі,*
*печань, ныркі і мазгі*
*па безналу. А з панчохі –*
*заіканне пра даўгі,*

*перадышку п'янай комы*
*і бясплоддзя закалот,*
*і прадвесце адэномы,*
*каб не капала на бот.*

*Нашы лекі на ўзроўні –*
*з кожнай болькаю на ты.*
*Ёсць пасведчанне і з Поўні,*
*нават з Божай барады.*

*Пазваніце, закажыце,*
*што там грошы, гэта ж дым –*
*кветкі ў полі, шашні ў жыцце*
*ці ж замнога за экстрым?*

*Ваш склероз – для нас забава,*
*імпатэнцыя, як пшык.*
*закажыце на халяву –*
*за падвешаны язык.*

*Зробім скідку самым першым –*
*хто спрытнейшы, той не лох.*
*І бабуля стане гейшай,*
*і дзядуля – больш чым Бог.*

## Гіпакрат



*Брат мамы – Аніська Вацлаў (Вацэк) Уладзіміравіч (1919–2011) з жонкай Янінай. Вёска Пярэсялка. 1939 г.*

*Ты помніш сад і нашу зорку,*
*якая выпала на рэшку?*
*Як мне паставіла пяцёрку*
*пад таямнічую усмешку?*

*Я з той пары закладнік зоркі*
*і пагатоў садочка-раю,*
*але найболей той пяцёркі,*
*бо кожны раз яе чакаю.*

Дзядзька Вацлаў лічыў, што склероз, як прысуд смяротнай кармы, – выдумка дактароў, бо лечыцца гэтак жа лёгка, як і насмарк. І самы эфектыўны сродак, з да-Хрыстовай эпохі і на ўсе вякі, адзін: калі можна ляжаць – сядзі, калі можна сядзець – стой, а калі можна ехаць – ідзі. А пры чарцы самая здаровая закусь – не кумпяк і пальцам пханая, а капуста, памідор ды гурочак.

Яго працоўнага стажу для атрымання пенсіі хапіла бы на дваіх. Працаваў рабочым на Гродзенскім гарбарным заводзе, пасля апепатарам на водазаборнай станцыі Гродна.

У свае 78 яшчэ пехам хадзіў на працу. Туды і назад 6 км, Аднойчы я быў сведкам яго досціпаў на тэму здароў'я. Заходзіць

Вацлаў у аўтобус. Месцаў сядзячых хапае. Сябрук цягне яго за крысо:

– Сядай, – а Вацлаў упіраецца.

– Мне нельга, доктар забараніў.

– А ты дай яму дзесяцідоларавую паперку, і ён дазволіць, – жартуе сябар.

– Ды не бярэ гэты доктар долараў, – з сур'ёзнай занепакоенасцю адказвае Вацлаў.

– Яшчэ што выдумаў! І хто гэта такі? – дапытваецца сябрук.

Імгненна Вацлаў аказаўся ў аўтобусе персонай нумар адзін. Усім хацелася пачуць імя доктара ў Гародні, які не бярэ на лапу. Вацлаў вытрымаў інтрыгуючую паўзу і ўсміхнуўся:

– Ты яго добра ведаеш, гэта Гіпакрат.

Вацлаў так і застаўся стаяць, але цікавасць да яго персоны адразу знікла, як і да таго доктара, які не бярэ на лапу. Бедны Гіпакрат. Не любяць яго ў Гародні і цяжарныя мужыкі, і мажныя з пышна-бухматымі формамі кабеткі.

А мой дзядзька ўсё-ткі прызямліўся і яшчэ доўга, але ўжо на кароткай дыстанцыі, з гарадзенскім гумарам удакладняў натапыранаму вуху субяседніка тэзісы па гіпакратаўскай тэме:

– А ты ведаеш, гэты Гіпакрат быў вельмі разумным чалавекам. Яго выналязкі ў лячэнні атэрасклероза, панскай хваробы гэта – гузік, самае галоўнае у яго вучэнні: ты застаешся запатрабаваным у пекнай палове чалавецтва.

Я стаяў ззаду і яны мяне не бачылі. Не ведаю, ці пасля таго «сакраментальнага» адкрыцця Вацлава ў яго сябра адвісла сківіца, але ў мяне яна апусцілася аж да пупа. Калі Вацлаў даехаў да апошняй патрэбнай яму кропкі прыпынку, (мая была праз дзве) я выйшаў за ім.

– Вуек, (тутэйшы зварот да дзядзькі) скажы, калі ласка, а дзе гэта ты чытаў у таго Гіпакрата, што адным махам вырашаў ўсе мужчынскія праблемы? У той час у мяне яшчэ гіпакратаўскіх праблем не было. Вуек усміхнуўся:

– Чаго ты так хвалюешся, у цябе яшчэ ўсё наперадзе. Пойдзем да мяне, там і пагутарым.

Вуек піў напарсткамі, як польскі шляхціц. Пасля агульнапрынятых стограмовікаў яго напарсткі мне паказаліся здзекам, але маўчаў. Я не любіў Гіпакрата, бо па яго волі ўсё жыццё працаваў не за грошы, а за яго «Клятву». Пасля дзвухгадзінных напарсткаў (а засталося яшчэ 0,25 з 0,5) дзядзька Вацлаў падвёў рысу:

– Ты ведаеш, цяпер у Гародні Гіпакратаў ад Бога няма – падаліся ў вырай, там цяплей і лепш кормяць. Хто ў Афрыку, жыды ў Ізраіль, у Амэрыку. Яны ж там сваю крывінку ў бядзе не пакінуць, не так, як мы: каб маглі б, то адзін аднаго ўтапілі ў лыжцы вады. Разумных бярэ і Польшча, і Расія. Тут засталіся «не дай Божа». Выкупілі за даляры цёплыя месцы і думаюць, як вярнуць з пацыентаў патрачаныя ганарары. І наогул, мне здаецца што наступілі перамены не толькі ў кліматычнай канцылярыі Усявышняга, але і на больш прыземленым узроўні. Ці то красці навучыліся, ці вынайшлі новае прыстасаванне, кшталту вечнага рухавіка, якое дазваляе пры першым жаданні схапіць Бога за бараду.

– Вуек, а чаго ты так уз’еўся на гэтых гіпакратаў і за якія грахі яны табе так не падабаюцца?

– Ты ведаеш, – з філасофскай усмешкай адказаў дзядзька, – нядаўна праходзіў вадзіцельскую медыцынскую камісію. Раней яна была бясплатная. Я прыходзіў да доктара з бутэлькай за тры рублі дванаццаць капеек і ён вадзіў мяне па кабінетах. Трыццаць хвілін і ўся камісія. А якая была ўвага. І паслухаюць, і пашчупаюць, і парадзяць. Цяпер такая ж самая камісія, толькі за грошы, афіцыяльна ў касу і не на адну бутэльку, а на чатыры. І каб толькі адпіхнуць. Я ўжо дзесяць гадоў прымаю прастамол ад адэномы прастаты і рэгулярна хаджу да ўролага на пальцавае абследаванне і ведаю не са слоў, як яно праводзіцца. А тут, хірург адзеў пальчатку, тыкнуў пальцам у с-ку і кажа:

– Адзявайцеся, – і паклікаў наступнага. Я заўпарціўся:

– Доктар, а як там мая адэнома, ці гладкая, ці бугрыстая, ці мяккая, ці цвёрдая, і якой яна велічыні? А ён і сказаць нічога не можа. На працягу пятнаццаці гадоў толькі і размоваў пра рэформы, і анічога не памянялася. Саўдэпаўская псіхалогія: дысцыпліна, парадак і важак з пугаю. Навучыліся, відаць, у немца. Толькі нямецкі гаспадар за гэтую дысцыпліну і парадак яшчэ і грошы работніку дае. Вунь дачка маёй братавай з Беластоку працуе медсястрой у нямецкім хоспісе. На работу яе муж і яна ездзяць кожны на сваёй машыне. Ужо так распанелі, што ім і кухня свая непатрэбная. Усёй сям’ёй у рэстаран ходзяць. А мая братавая Зюта з Беластоку? Ні дня не працавала, атрымлівае пенсію па мужу, які працаваў качагарам на Беластоцкай электроўні. Аб’ездзіла ўсю Еўропу, цяпер у дзевяностагадовым узросце яшчэ хоча паехаць у Рым, каб паглядзць на Папу Рымскага.

І ён быў вельмі шчаслівы, што яго пачуў хоць адзін чалавек, і мне падалося, што на душы ягонай стала лёгка-лёгка, быццам паспавядаўся самому Богу.

***

*Не інфаркт прычына згону –*
*доўгай працы рэшткі*
*і не ён надасць іконе*
*скрушны сэнс усмешкі,*

*і не садзіць ён на покуць*
*сюжэт чорнай сагі,*
*і да рук з крывёй па локаць*
*ён не мае цягі;*

*і не ён раскажа людзям,*
*як яго чакалі...*
*І не лезе ён у суддзі*
*нашай анамаліі.*

## Шопінг



*Сястра мамы – Лаўрушкевіч Фэліцыя (1921–2003), у апошнім радзе. Я побач з бабуляй Сарафінай. Справа мой бацька і дачка Шаркоўскай Станіславы – Дана. Вёска Пярэсялка. 1942 г.*

Лёгкая на пад'ём, заўсёды з пяшчотна-прывабнай усмешкай і пявучай гаворкай. І кожнае слова, як забіты да плешкі цвік у патрэбным месцы і часе. І на прыгоннае права не скардзілася, бо з дзяцінства да замужжа, як і ўсе яе сёстры, адбывала прыгон на гаспадарцы родных бацькоў. Пасля працавала на гарбарным заводзе Гародні на прафесіях, дзе не хапала рабочых рук і, галоўнае, без «эксплуатацыі чалавека чалавекам».

Пасля таго, як на хмарным небасхіле паявіліся першыя промні галоснасці (фішка апошняга генсека), а з тагасветных закуткаў паказалі савецкаму чалавеку прывідаў, якія кіравалі лёсам імперыі і кожнага асабіста, пачалася ўсёдазвольная свабода. Ах, якія мы былі шчаслівыя. Вяроўкамі сцягвалі з п'едэсталаў былых ідалаў, аблвыканкам у нашым уяленні быў апошнім апірышчам пекла. Помню натоўп перад абкомам КПСС у Гародні з крыкамі: Ганьба! Жыве Беларусь! І г.д.

І яны натоўп паслухалі, пакінулі свае ўежныя кармушкі і падаліся ў бізнес. Пачалася прыхватызацыя. А ў крамах пуста, як тады казалі: «Дажыліся палякі, ані хлеба, ні табакі». Скарбонка цёткі Фэлі, савецкай пенсіянеркі, якраз і адпавядала гэтаму крылатаму выслоўю. На пустым месцы без крэдытаў занялася бізнесам, бо атрымаць іх магла толькі каста былых наменклатуршчыкаў. Не ведаю, за якія «фанцікі» яна раскруцілася і як стала «зоркай» на тым вэрхальным небасхіле «купі-прадай», але менавіта ў яе на гродзенскім рынку быў свой шопінг (тагачаснае найменне палаткі гандляра замежным барахлом). Пасля цётка Фэля не раз той шопінг праклінала, бо менавіта да яго шыбавалі не толькі пакупнікі, але і ўсюдыісныя інспектары з падатковага ведамства.

Тут трэба зрабіць маленькі зкскурс у тагачаснае падаткавае заканадаўства. Падатак індывідуальнаму прадпрымальніку налічваўся ў памяркоўных памерах з чыстага прыбытку.

Іпэшнік на рынак хадзіў з прашнураваным і змацаваным штэмпелем журналам, дзе чорным па белым: які тавар, яго закупачны кошт, у якой колькасці, колькі адзінак за дзень прадаў і па якой цане за кожную адзінку. Было і маленькае дапаўненне: калі не было чэка на закуплены тавар, падатак налічваўся з агульнай сумы, якую атрымаў ад пакупніка. І пакупніку абавязкова трэба было выдаць талон з пацвярджэннем сумы, атрыманай за тавар. Дакладна і вузлавата: працуй, зарабляй і памятай пра сацыяльна арыентаваны курс дзяржавы.

За мяжой, дзе іпэшнікі рабілі закупкі, гандлявалі прасцей: на першым паверсе за адну адзінку тавара трэба было заплаціць тры

долары, на другім – 2, а на трэцім тавар адпускалі на вагу (потым гэтыя сэкэнд-хэнды паявіліся і ў нас). А яшчэ былі розныя скідкі на нехадавы тавар і на тавар, які закупляеш у вялікай колькасці: за паўцаны і бяры, колькі хочаш. І бралі, і можна было зарабіць пры невялічкіх махінацыях у падаткавым журнале: прадаць і не запісаць, ці прадаць па адной цане, а запісаць па заніжанай і г.д. Аб такой шэрай схеме ведалі і ў падаткавай інспекцыі і, не за Богу дзякуй, прыкрывалі вочы. І ў хуткім часе паміж іпэшнікамі і падаткавымі інспектарамі ўсталяваліся нармальныя кансэнсусныя ўзаемаадносіны.

Мядовы месяц закончыўся вельмі хутка. На барацьбу з нячыстымі на руку гандлярамі была кінута міліцыя, падключылася і пракуратура. Паціху дамовіліся і з імі, бо і там былі прыстойныя людзі: разумелі, што жывуць за сродкі непрыстойных. Але хутка паявіліся і залётныя інспектары. На гродзенскі рынак найчасцей прыязджалі з Брэста. Напэўна, такімі ж візітамі гарадзенцы аддзячвалі і берасцейцаў. У тых неспрыяльных варунках многія іпэшнікі, якія пусціліся ў рызыкоўнае плаванне, так і не пабачылі жаданы бераг. На той мутнай вадзе ад іх засталіся толькі бурбалкі. Фэля выжыла. Перад тым, як «адкрыць» свой шопінг, Фэля пастаіць з паўгадзіны каля будынку рыначнай адміністрацыі, сфатаграфуе вачыма залётных інспектараў (сваіх яна ведала, як свае пяць пальцаў) і ідзе гандляваць. Вядома ж, не адна яна была такой разумніцай. За дзесяцізнакавую паперку з партрэтам амерыканскага прэзідэнта можна было паглядзець не толькі на аднаго залётніка, але і на ўвесь іх генеральны штаб. Перакрыжаваныя праверкі праводзіліся планава і гэтая інфармацыя ў сакрэтных сейфах не захоўвалася.

Аднойчы, калі быў на рынку, чуў сам:

– Фэлячка, схадзі, паглядзі каго там прыперла на нашу галаву. Я тут і за цябе, і за сябе пагандлюю. Учора ж хадзіў Янак, дык гэты сляпак нічога не заўважыў.

А Фэля бачыла. Фэля і сама не здагадвалася аб сваіх здольнасцях. Фатаграфічная зрокавая памяць. Кіне вокам і без памылкі праз год пазнае чалавека, дзе і пры якіх абставінах з ім сустракалася.

Унікальныя здольнасці цёткі Фэлі хутка заўважылі і сябры, і сяброўкі па бізнесу, з якімі яна за Бог заплаціць шчыра дзялілася і радавалася, што памагае, аддае. А ў яе шопінгу і без яе заўсёды

ішоў бойкі гандаль. Усе стараліся найперш прадаць Фэліна дабро.

На яе пахаванні было вельмі многа прадпрымальнікаў, быццам хавалі і не шараговага іпэшніка, а самага знакамітага (пасля Сталыпіна) гарадзенскага губернатара.



*Муж цёткі Фэлі – дзядзька Франак, першы справа.*
*вёска Пярэсялка, 1937г.*

Працаваў на гарбарным заводзе ў Гродне, на прафесіях з гордым найменнем – рабочы народ. У часе міжваеннай Польшчы нетытулаваны чэмпіён у факстроце, танга, польцы. Першая скрыпка маладзёжных тусовак, з дасціпнымі, ва ўласнай аранжыроўцы песнямі. У яго была своеасаблівая «чуйка»(Франка слэнг), каб зарабіць без надрыву капейку ці то ў жыдоў, якія займаліся гандлем, ці то ў палітычных функцыянераў з мяшкамі злотых і долараў ад бальшавікоў і галашэннямі пра рай у краіне саветаў. У стоадсоткавы рай ён не верыў. Палітычную барацьбу розных партый, а іх было больш, чым у капе снапоў, успрымаў, як шоў.

Дэфіліраваў у Гродне па вуліцы Дамініканскай (суч. Савецкая) з такімі ж, як і ён, прадпрымальнымі сябрамі і сяброўкамі на антыпілсудскіх дэманстрацыях, дый яшчэ і пад аховай польскай паліцыі. (*Не дай Бог, каб хто-небудзь з іншадумцаў шпурнуў у яго камень*). Праз пяцьдзесят гадоў я ў яго запытаў:

– Вуек, а чаго цябе туды панясло і чым табе не дагадзіў Пілсудскі?

– Як чаго? – адказаў Франак. – Нам грошы давалі і нядрэнныя. Калі ідзеш з пустымі рукамі – тры злоты, калі з кветкаю – пяць, а калі з транспарантам – 15.

І яму было да лямпачкі, хто іх даваў. Магчыма, гэта была правакацыя польскай дэфензівы ці так стараліся Саветы. Ва ўсякім разе банкаўскіх рахункаў да сённяшняга дня ніхто не бачыў. Саветы пасля 17 верасня 1939 года вуйка Франка не чапалі, а важакоў (*акрамя Сяргея Прытыцкага, Валянціна Таўлая і Піліпа Пестрака*), афіцыйна, як польскіх шпегаў (неафіцыйна – замнога ведалі), адправілі ў маўклівае вымярэнне таго свету. У прэсе, па радыё эйфарычны ўздым патрыятычнасці і ні слова пра загінуўшых і зніклых у турмах і ссылках.

Нешта падобнае сёння адбываецца і ва Украіне. Я не палітык, не ведаю антыўкраінскіх важакоў на ўсходзе краіны , хто там ваюе, за якія грошы і хто правёў гэтую бліскучую аперацыю ў Крыме. Мяне здзіўляе маральны бок – як вядзе сябе ў гэтай сітуацыі адзіны народ з адной краінай. Ва Украіне крызіс – і эканамічны, і палітычны. Пенсіі, заробкі, сацыяльныя дапамогі апусціліся ніжэй плінтуса. Бяда, і не бачна ёй канца. А якая эйфарыя ў Расіі. На вуліцах Масквы, Пецярбурга трыўмфальныя гулянні, аўтапрабегі, дэманстрацыі. Ну, няхай тлум. На тое ён і тлум. І ў нацыстскай Германіі ён меў месца. Здзіўляе другое, так думае і эліта: пісьменнікі, вядучыя тэлепраграм, палітолагі, дэпутаты, спікеры…

Адзіны народ з адной краінай – гэта больш, чым дагмат веры, гэта стаўбавая дарога, раней да камунізму, а цяпер і невядома куды. І аніякіх хістанняў. Крок убок – здрада, крок назад – расстрэл. Гэта і дзвесцегадовая падсвядомая хранічная нацыянальная хвароба, ад якой няма лекаў. І за гэты адзіны народ з адной краінай, які ў вечных ваенных канфліктах з суседзямі, трэба плаціць па самай высокай цане – жыццём.

## Праўда

*З улёткай – папялушная,*
*з Пагоняй – на клады,*
*закрытая – за дужкамі,*
*з пытальнікам – калі?*

*З мандатам – алігархава,*
*З дабаўкамі – цаны,*
*інфарктная – са скваркаю,*
*з залётамі – вясны.*

*У вобразе з ідэямі –*
*маралі марафет,*
*у брэндах – карыфеямі*
*зашорана як след.*

*Без споведзі – адвечная,*
*і вечная, як плынь,*
*дзе шлях дарогай Млечнаю*
*вядзе час да святынь.*

*Аб спрэчку не параніцца*
*з каленцам салаўя,*
*бо ў кожнага, як задніца:*
*у кожнага свая.*

## Пушкін

Што мяне падштурхнула ўзяцца за пяро? Няпростае пытанне. І я яго задаю ўсім гурманам творчай кухні. Цікавы феномен. Што гэта такое? Хвароба, наркотык, амбіцыёзнасць, жаданне «выпендрыцца» перад дзяўчынай, фізіялагічная патрэбнасць, адказ на боль, радасць, адкрыццё сэнсарнай кропкі ў мазгавых звілінах? Ні пад адну катэгорыю мае версіфікатарскія здольнасці не падходзяць. Я да сённяшняга дня не магу да канца прачытаць і (не пачуццём, а халоднай галавою) асэнсаваць некаторыя вершы Адама Міцкевіча, Яўгеніі Янішчыц, Ганны Ахматавай,

Сяргея Ясеніна. Вельмі часта пасля другога, а то і першага чатырохрадкоўя чытаю ўжо не аўтарскае, а сваё, і на роднай мове. І самае паршывае, што гэта доўжыцца і ў аўтобусе, і на прыпынках, і ў час ранішняга пяцікіламетровага мацыёну. І нічога не магу з гэтым зрабіць. Аднойчы ў касцёле на імшы сусед, які сядзеў ззаду, агрэў мяне кулаком па спіне: « Не мармачы, ты што, псіх?». Такая сэнсарная медытацыя перадаецца мне і ад Святога Пісання.

Неяк задаўся пытаннем: у чым сакрэт вершаў з тэлепатыйнай харызмай, творцы якіх даўно ў «лепшым свеце»? І ў мяне склалася ўражанне, што ў маёй Музы непераборлівы густ – мяне натхняюць вершы прыземленыя, з рытмічна-эмацыянальным малюнкам, калі адчуваеш асалоду ад спалучэння музыкі са словам. Пра такія творы гавораць: напісаў так, як лягло на душу.

А калі чытаю вершы (тых жа аўтараў), якія ўражваюць навізной паэтычных тропаў – багатыя на метафарычныя рэфлексіі, жывапісныя параўнанні, нечаканыя выслоўі і непаўторныя эпітэты, і г.д., якія патрабуюць удумлівага засяроджання для асэнсавання вобразаў, у мяне ўзнікае думка, што я знаходжуся ў пекным, унікальна-велічным храме, ці палацы, дзе ніколі не быў, і я там такі маленькі, незаўважны і голы, як на споведзі ў апошні дзень перад Богам. І прыйшоў да высновы, што мая Муза не сапраўдная, гэта толькі спакусніца версіфікатарскага натхнення, з якой упершыню пазнаёміўся ў шаснаццацігадовым узросце і нават прысвяціў ёй паэму. (Праўда, у той спакусніцы былі вельмі салодкія пацалункі). Гэта адзіны твор, які чытаў толькі адзін (акрамя мяне) чалавек – прафесійны паэт Міхась Васілёк. Ад той сустрэчы засталася ў памяці толькі адна фраза: «Табе трэба вучыцца, талент – гэта найперш праца». Прарочыя словы, якія я зразумеў значна пазней, калі канчаткова паверыў плябанішскаму выслоўю: «Разумная мысля прыходзіць апасля».

Шчыра кажучы, я не лічу сябе пісьменнікам. Хутчэй за ўсё гэта маё хобі. Я выдаў тры зборнікі вершаў – «Тутэйшы», «Прыдарожная вярба» і «Вчерашние святыни». Друкаваўся ў «Гродзенскай праўдзе» і калектыўных зборніках. На вялікі жаль, мае опусы бацька сякеркай не падправіў. І да гэтага бацькі не дакараскацца, як бы мне гэтага ні хацелася. Можна задаць пытане: навошта аддаваў грошы на публікацыю, калі загадзя ведаў, што на Алімп не трапіш? На гэтае пытанне ў мяне няма адказу. Адрэналін, псіхалагічны тэст на ўнікальныя здольнасці, амбіцыі ў добрым сэнсе гэтага слова, нетрадыцыйны метад лячэння склероза і г.д. Не ведаю, як

каму, але мне ўсе творчыя людзі сімпатычныя – і вялікія, і малыя. Галоўнае ў гэтым спаборніцтве – каб сам творца цвяроза ацэньваў свае дасягненні.

Лічу, што ўсе людзі творчыя, толькі не ўсе аб гэтым ведаюць. Я заўсёды штосьці пісаў, толькі не на паперы. І мне здавалася, што атрымліваецца вельмі цікава. На жаль, у той час у маім кампутары не было функцыі: «Захаваць». А пісаў я пра тое, што стрэмкай сядзела ў пячонцы. На заказ, прымусова – нічога не атрымоўвалася. Так і хочацца выгукнуць: педагогі, шукайце і знойдзеце. Асабліва мне запомніўся з шармам гарманіст – фацэтны, дасціпны і вясёлы Пушкін (мянушка). На вяселлях ён сыпаў, як са скарбонкі, вершаванымі прыказкамі, прымаўкамі, загадкамі, выслоўямі. Экспромтам, молада, весела і, як кажуць, у самае цемячка. Госці надрывалі жываты. Калі вёў імпрэзу Пушкін, усе былі цвярозыя. Можа таму і запрашалі яго. Няма ўжо Пушкіна. Адвінакурыў, адпетрасяніў. Калі я працаваў доктарам, ён часценька карыстаўся маёй слабасцю да яго таленту. Вядома ж, прыходзіў за левым бальнічным лістом. Качагар гарбарнага завода, музыкант-самавучка, які аніводнага верша не напісў на паперы, які і знаў сапраўднага Пушкіна, можа, толькі за тое, што насіў ганаровую паэтычную мянушку. Дарэчы, ён сыпаў вершаванкамі на трох мовах – матчынай, польскай і рускай. На жаль, у маіх прысвячэннях паэтам няма яго імя, ды і забыў я яго сапраўднае імя і прозвішча. І дасціпныя вершы яго. Аказваецца, што ў майго кампутара ёсць і яшчэ адна паганая функцыя: «Delete».

І, вядома ж, я не магу не сказаць пра паэта, які працаваў літкансультантам «Гродзенскай праўды» і знайшоў нейкае зерне ў маіх вершах. Гэта Юрка Голуб. Яго паэтычная творчасць насычана метафарамі, нечаканымі рыфмамі, адметным індывідуальна-пазнавальным стылем і не патрабуе аўтарскага прозвішча – з першых радкоў распазнаеш, хто іх напісаў.

Я часта задаю сабе пытанне: чаму мяне так цягне да роднага слова? Мажліва, гэта генная роднасць з прабацькамі? Ці вечнае: хто ты і навошта на гэтым свеце? Ці галоўнае: а дзе твае вытокі, карані. да якіх ты абавязкова вернешся, каб застацца ў повязі часоў хоць маленькай кропкай народа з яго тысячагадоваю гісторыяй? А гісторыя народа – гэта найперш роднае слова: вечнае, неўміручае, якое ў мяне асацыіруецца з прабацькамі, з роднымі мясцінамі – натоптанымі сцежкамі, іміджам жаўруковага жыта, прывітальным клёкатам буслянкі, дзіцячай радасцю

першай сустрэчы з чорнагаловікам і, вядома ж, з першым вобразам, калі ўпершыню адкрыў вочы і адчуў мяккае, цёплае святло мамы з яе ласкавым, пушыстым  родным слоўцам. Гэтыя вобразы застаюцца на ўсё жыццё, і да іх, калі ты не бязродны сын, цябе заўсёды цягне.

Роднае слова натхняе, гэта допінг для эмацыянальнага стану душы з яе пакутамі, тугой, болем і вечным памкненнем надзеі да незаменнага – любові.

## Вершы

*Хачу крылатых, як Пегас,*
*унуку – мнеманічных,*
*каб вобраз коніка не гас,*
*для хлопчыка лірычны.*

*Каб ім прысніўся Эверэст,*
*як для хрушчоўкі – чэшка,*
*каб не спазналі цяжкі стрэс,*
*калі вярнуцца рэшткай,*

*дзе думкам воля і прастор,*
*а слову вельмі цесна,*
*дзе актуальнасці задор*
*і заўтра сядзе ў крэсла.*

*Хачу на мове, каб настрой*
*пацешыўся халявай,*
*каб не хрысціліся іржой*
*і  выракам Варавы.*

## Паэзія

*То спаліць гарэм Праметэя,*
*то Музу ў Тураў пакліча,*
*на год, ці на два анямее*
*і зноў жураўлем закурлыча;*

*то ўспомніць дасціпныя тропы*
*яшчэ з ўнівераў паганскіх,*
*Гусоўскага ў цэнты Эўропы*
*з бізонам лірычна-славянскім;*

*і смецце Ахматавай – з помпай,*
*каб гуз дзівака для кар'ры*
*і пот у метафары промня*
*зірнуў з цярплівай паперы.*

*А рунам над Нёмнам Каложы*
*раскажа ліцвінскія былі,*
*каб людзі ад Буга да Сожа*
*найперш хоць сябе палюбілі.*

## Слова

*Нос уцерла бомбе слова*
*(прыдрамнуў , магчыма, крот,*
*як Прарок з мясцін краёвых*
*людзьмі звацца зваў народ)*

*і нарэшце стала целам,*
*ды, на жаль, не люднасці,*
*бо талмач незразумелы*
*з кнігі вечнай мудрасці.*

*У двухмоўя шлюб са смакам*
*і цвярозы, быццам, густ,*
*што слязу пусціў, як плакаў,*
*і дасюль кланue з люстр,*

*і ні слова пра адданасць*
*слову роднаму для мар,*
*як рабілі кашталяны,*
*сустракаючы татар.*

*Браце часу, стой за праўду:*
*«З родным словам, хоць зарэж, –*
*як сказаў Статута аўтар, –*
*ты ніколі не памрэш».*

*А на зорцы светлых раніц,*
*без спасылкі на застой,*
*наскім словам, што люд раніць,*
*прывітайся хоць са мной.*

## І дзіўна мне слухаць

*На мове матулі гавораць ільвы*
*ды й хвост не ў тутэйшай сарокі,*
*на нашай, на жаль, з-за праблем галавы*
*адзін толькі луг сінявокі.*

*І дзіўна мне слухаць малітву няўдач*
*з часоў Віфліемскае зоркі,*
*якая туземцам працерла сядач,*
*і пхнецца ў замежныя «зоркі».*




*На Пятра і Паўла. Пасля экзэфіі па бацьках. Гожа.*



*Каралеўскі палац Аўгуста Панятоўскага ў Гародні, дзе ён адрокся ад улады.*

## Апошні кароль

Во все время своего государствования
интересы нашей империи собственными
почитать, их остерегать и им всеми силами
по возможности поспешствовать.

*З таемнай умовы паміж Кацярынай II*
*і Станіславам Аўгустам Панятоўскім.*

*Юрлівай эпохі юрлівыя дзеці.*
*Апошні, апошні кароль,*
*(давер на павер Кацярынавай мэце)*
*як знікшай Краіны пароль.*
*Наіўнасць міністраў і соймавай шляхты –*
*фанфары. Віват…*
*Лістапад –*
*з пажоўклаю кветкай магнацкія шашні,*
*пралог для кастрычніцкіх дат.*

*Набатная споведзь – Тадэвуш Касцюшка.*
*Нядошлая ода сынам,*
*якіх бор зубрыны у прыцемках гушкаў*
*на памяць сівым перунам.*




**Балада Нёману**

*Не хадзіў і летась*
*Вялес да Ярылы*
*памянуць паганскіх*
*з Яцвезі дубоў,*
*дзе штылет маланкі*
*кляўся небасхілам*
*інсургентскіх мараў*
*і напагатоў.*

*Летні дзень – муражка,*
*корміць пот паддашка,*
*смагай поіць неба*
*чорнарусца стог,*
*і здзівіў стрыптызам*
*Лесавік сярмяжку,*
*І дастаў стагнанне*
*каларытны Вох.*



*Хай табе на почат*
*з барышом не збочыць*
*з барышом пад коптур*
*Чорнай Ганчы дочкі,*
*дзе яцвяскі бусел*
*цёплай, ціхай ночы*
*казаў, што Купалле*
*выведзе ў прочкі.*

*З пятніцкай Галгофы*
*зашумі ў прэссе*
*быкаўскай цытатай:*
*«Мёртвым не баліць»,*
*каб і дзень задушны*
*дыхаў паднябессем,*
*як падчас цыклонаў, –*
*процьмай навальніц.*

*Хай, хоць Бог пачуе*
*опус мой з асадкі,*
*што кастром надзеі*
*грэе берагі,*
*каб падчас тусоўкі*
*смех звінеў наядкі*
*без фальшывай ноты –*
*любы, дарагі!..*

## Узамен эпілога

### Мой брат

*Митька купец литвин чорнарусец*
Летапісны запіс з Пражскага пагранічча

*І лютую сцежку, і квецень з маною,*
*ятвяжскай нуды лістапад*
*прычэсваў паганец паганскай вярстою:*
*купец-чорнарусец – мой брат.*

*Мой брат-чорнарусец прывёз з былой Прагі*
*у Вільню Скарынавы скарбы:*
*рыштунак, паперу і вольніцу-прагу,*
*каб Слова адзелася ў фарбы.*

*Мой брат-чорнарусец з часоў Ягелонкі.*
*Для мовы дарунак не царскі,*
*«бо той універ ад асветніцы жонкі*
*паноў апалячваў». – Я. Карскі.*

*Мой брат чорнарусец ліцвінскі паэта,*
*не то, што Мікола Гусоўскі,*
*ці Пане Каханку з liberum veto*
*на сойме магнацкай тусоўкі.*

*Мой брат-чорнарусец – зямляк Прынямоння,*
*не з Белай, а з Чорнай Русі.*
*Мой брат-чорнарусец жыве тут і сёння.*
*Не верыш ? – Мяне запрасі.*

# ЗМЕСТ

Літаратурна-мастацкае выданне

**Курыловіч** Мечыслаў Пятровіч

# Ліцвінка

*Проза, лірыка, фотаздымкі*

Рэдактар: Юрка Голуб
Вёрстка : Аляксандр Рыжы
Выдадзена ў аўтарскай карэктуры

Падпісана да друку 24.06.2015. Фармат 60х84/16.
Папера афсетная. Рызаграфія
Ум.друк.арк. 9,3. Ул. - выд.арк 12,7.
Тыраж 100 экз. Заказ 98/34

Паліграфічнае выкананне:
Таварыства з абмежаваннай адказнасцю «ЮрСаПринт».
Вул. Карла Маркса,11, 230015, г. Гродна.
+375 152 77 18 20
+375 295 87 84 11